ГОД VII ВЕРАСЕНЬ - КАСТРЫЧНІК 1953 г. № 56

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

## ЗЬМЕСТ



**BOŽYM ŠLACHAM**

**(SUR LA VOIE DIVINE)**

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année VII. N° 56. Septembre-Octobre 1953

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI<sup>e</sup>

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1953 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада. | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44 R. P. Horosko Leo. 95, rue de Sèvres, PARIS VI°.**

У АНГЛІІ:

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:

**Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981, 4, de Junio, Buenos Aires.**

У АЎСТРАЛІІ:

**Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE. Q-ld.**

У БЭЛЬГІІ:

**Mr. Borysevic Vasil, 19, Place Hoover, LOUVAIN.**

У НЯМЕЧЧЫНЕ:

**Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover. in Goslar,**

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2000 фр. — 2 ф.

**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik** — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:

**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**

У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У Нямеччыне: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Добрага ніколі не замала.
Добрае доўга ў памяці, а ліхое яшчэ даўжэй.
Добрае ляжыць, а ліхое бяжыць.
Добрае чуваць далёка, а ліхое яшчэ далей.
Добра з тым сварыцца, хто Бога баіцца.
Добраму ўсюды добра, а кепскаму — кепска.
Добра ў людзях, але цяжка ў груздях.
Добрая цнота даражэй ад срэбра й золата.
Добры і слова паслухае, а ліхі і кія не.
Добрымі намерамі ўсё пекла выслана. (Сам намер без стараньня яго ажыцьцявіць, нічога ня варты).
Дохтар з лекамі не паможа, калі Бог не дапаможа.
Другіх мые, а свіх сэпляў пад носам ня бачыць.
Думаю гораду ня возьмеш. (Трэба дзейнічаць, каб нешта асягнуць).
Думкі за гарамі, а сьмерць за плячамі.
Дурань камень у рэчку ўкіне, а дзесяць разумных не дастане.
Дурная галава ні лысеець, ні сівеець.
Дурная помач горш немачы.
Дурная птушка сваё гняздо шмаруе.
Дурной танцоўцы і хвартух завада.
Дурному і лапатаю розуму ў галаў не накласьці.

**Ны выдавецкі фонд «Божым Шляхам» і фонд «Добрае кніжкі».**

**апошнім часам прыслалі** (Сумы падыны ў франц. франках): Аніською Д. 500, Бутт-Гуссаім В. 500, Варабей К. 400, Варашылаў У. 400, Караневскі М. 1800, Місуно У. 120, М-іч В. 930, М-кая А. 1.000, Найдзюк Ч. 700, др. Р—я Б. 350, а. Ф. Ч. 1.100, а Ч. Сіповіч (група Англія) 6.500.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VII. ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК № 56

# Аб саламяным агні і вытрываласьці

Ужо колькі разоў на старонках беларускае пэраядычнае прэсы ўспаміналася аб саламяным агні ў радох беларускае эміграцыі, але на тых успамімінах тое пытаньне пачыналася і канчалася. Калі тут яшчэ раз парушаецца гэтая балячка нашага грамадзкага жыцьця, дык не на тое, каб паразіць балючую рану, але каб пашукаць на яе якое рады.

Перш чым брацца за пошукі тое рады, спытайма: Чым шкодны той саламяны агонь? Шкодны ён тым, што чалавек «у жару» рвецца празьмерна да нейкага дзеяньня і пачынае, як то кажуць, біць у хамут, але звычайна ад гэтага справа, за якую бярэцца, не пасоўваецца ўпярод хутчэй, як-бы гэтага ён жадаў, і тады такі «запалёны» пачынае дакараць іншых, адчувае жаль да ўсіх і да ўсяго, а ўканцы зьнямогшыся з такім-жа самым жарам кідаецца ў іншую крайнасьць — да поўнае бязьдзейнасьці, нібы на злосьць іншым: «не хацелі падтрымаць мяне, дык і я ніколі ня буду падтрымоўваць».

Такое зьявішча назіраецца ня толькі ў грамадзкім, але і ў рэлігійным жыцьці; зьбяруцца людзі раз ці два ў год на нейкае большае сьвята ці на нацыянальную ўрачыстасьць у сьвятыню, «прызнаюць» важнасьць рэлігіі ў жыцьці, а потым жывуць так, як-бы для іх практычна рэлігія не існавала. Праўда гэтае зьявішча ня ёсьць агульнае, але таму, што наша эміграцыя не шматлікая і да таго вельмі расьсеяная дык усякія недахопы ў духовым і грамадзкім жыцьці праяўляюцца выразьней чым гэткія-ж зьявы ў іншых народаў, тымсамым мы мусім на іх зьвярнуць большую ўвагу чым іншыя.

Для нармальнага жыцьця неабходна дакладна трымацца тых жыцьцёвых законаў, якімі Бог кіруе сьветам. Калі-б так наша сэрца, ці нашы лёгкія раптам займелі саламяны агонь, дык ужо даўно на сьвеце і сьлед ад беларусаў загінуў-бы. Жывы арганізм выказваецца бязустаннаю дзейнасьцю сваіх ворганаў, падобна і народ сваю жывучасьць павінен выказваць бязустаннаю і сыстэматычнаю працаю.

Але шмат важнейшаю чым матэрыяльная праца ёсьць духовае жыцьцё і таму калі яно мае нейкія ненармальнасьці, дык на іх неабходна зьвярнуць якнайбольшую ўвагу, бо-ж праз нармальнае духовае жыцьцё асягаецца апошняя мэта нашага жыцьця і асягаецца дабрадзейны ўплыў на дачаснае жыцьцё. Больш таго: людзі, якія нясуць адказнасьць за дачасную долю народу, сьцьвярджаюць неабходнасьць духовага жыцьця, малітваў і ахвяраў для ўпарадкаваньня ўсіх жыцьцёвых пытаньняў. Ведамы факт, як францускі маршал Ліотэй (1854-1934) аднойчы прамаўляў у манастыры на Сіёне да маладых манахаў і з націскам падчыркнуў: «маладыя манахі: ваша жыцьцё, вашы правілы, ваша малітва, вашы ахвяры ёсьць так-жа патрэбныя, так-жа канечныя і плодныя, так-жа вялікія, як найбольшыя ўчынкі на зямлі. Бо неабходна каб была раўнавага і парадак. Побач чыну ёсьць разважаньне, побач вонкавых высілкаў ёсьць унутранае жыцьцё. Побач змаганьня са стыхіямі і людзьмі ёсьць змаганьне з самым сабою. Жыцьцё было-б хаотычным шаленствам, каб ім ня кіраваў дух. Бяз людзей такіх як вы (манахі), такі чалавек як я (маршал), быў-бы нічым» У гістрыі Старога Запавету ведамы выпадак, які наглядна падцьвярджае словы маршала. Калі жыды ваявалі з амалікіцянамі, Майсей маліўся на гары, і пакуль ягоная малітва была бадзёрая, жыды бралі верх над амалікіцянамі, але калі рукі ў Майсея пачалі ападаць, дык над жыдамі пачалі браць верх амалікіцяне. Тады Арон і і Ор пачалі падтрымоўваць, узьнятыя ў гару, рукі Майсея аж да часу, пакуль вечарам жыды канчаткова перамаглі амалікіцян (Выхад, XVII, 8-13).

А жыцьцё беларускага народу там на Бацькаўшчыне і наша эміграцыйнае жыцьцё, ці-ж гэта ня ёсьць бязустаннае змаганьне? ці-ж для асягненьня перамогі не патрэбныя шчырыя і вытрывалыя малітвы, ахвярнае духовае жыцьцё? І ці можна назваць шчырым рэлігійным жыцьцём тых пару ўрачыстасьцяў у год, на якія зьяўляюцца людзі ў сьвятыню, каб там нудзячыся адстаяць сваю рату?

Адказы на пастаўленыя пытаньні ёсьць занадта ясныя, каб іх трэба было тут паўтараць, але ці ёсьць якая рада, каб вырабіць вытрываласьць у грамадзкім і рэлігійным жыцьці і дзеяньні? Калі ёсьць магчымым гартаваць волю, дык і на выпрацаваньне вытрываласьці ня цяжка

знайсьці раду пры добрай волі самых зацікаўленых. Найаснаўнейшым мамэнтам у гэтым ёсьць усьведамленьне неабходнасьці вытрывалысьці. Аднак тут трэба дадаць, што ўсьведамленьне не асягаецца ні лаянкаю, ні аганьбліваньнем, бо нават найпрыгажэйшая праўда, калі яна падаецца іншым у такой форме, што балюча раніць самапачуцьцё і годнасьць іншых — ня прымаецца ніколі. Ад вякоў ведама праўда, што кропля дзёгцю псуе бочку мёду. Ды ці патрэбна яшчэ некага дакараць, каб паказаць праўду? На гэта можна заўважыць, што ў беларускай народнай мудрасьці ёсьць шмат вельмі вострае іроніі ў высьмяваньні людзкіх слабасьцяў і вадаў. Гэта сапраўды так, але ў выказваньні навучальных праўдаў тая-ж народная мудрасьць заўсёды мае вельмі спакойны тон: «Бяз часу ня будзе квасу», «Не адразу Вільню збудавалі», «Прыйдзе пара, вырасьце трава» і пад. Такімі спакойнымі і пераконлівымі словамі беларускі народ паўстрымоўвае тых, што ў гарачай вадзе купаныя, але калі прыйдзе час дзеяньня, калі настане тая пара, дык ня прызнае ніякага апраўданьня для тых, што ня выконваюць сваіх абавязкаў: «Улез у дугу, не кажы «не магу»!» Ды як-бы выглядала нашае жыцьцё, каб іншыя адносна нас ня выконвалі акуратна сваіх штодзенных абавязкаў? Уявем сабе, што пошта, электрастанцыі, чыгункі, пэрыядычная прэса, больніцы і ўсе грамадзкія ўстановы запоўніліся нядбалымі работнікамі — іхняя дзейнасьць была-б горшаю, як агульны штрайк і сталася-б крыніцаю агульнага няшчасьця. Зусім вразумела, што і ў адваротных адносінах, гэта значыць у адносінах кожнага з нас адносна іншых, адносна ўсяго народу і адносна Бога забавязвае ня менш акуратнае штодзеннае (а не час-ад-часу з саламяным агнём) выконваньне ўсіх асноўных абавязкаў.

Як у жывым арганізьме безнастанку пульсуе сэрца, як рэгулярна дыхаюць лёгкія, як сыстэматычна працуюць іншыя ворганы жывога цела, як штодзенна ўсходзіць і заходзіць сонца, як штодзенна адчуваем патрэбу есьці, каб утрымаць жыцьцё — такім павінна быць і нашае дзеяньне ў грамадзкай працы, такою акуратнай і штодзеннай павінна быць наша малітва ўдзячнасьці Богу за ўсе Ягоныя дабрадзействы і такою-ж павінна быць малітва просьбы за лепшую будучыню народу. А штодзенную малітву павінна суправаджаць такая-ж штодзенная акуратная праца ў той дзялянцы жыцьця ў якой кожны з нас можа зрабіць нешта карыснае для **агульнага дабра.** Падчыркваем слова для агульнага дабра, каб яго адрозьніць ад тае фальшывае працы, якая прыкрываючыся назовам «агульнае дабро» мае на мэце заспакаеньне сваіх нізкіх амбіцыяў, асягненьне нейкіх пачасьцяў і ганораў.

Бязумоўна да гэткае дзейнасьці патрэбна вырабленьне; праца ў гэтым кірунку цяжкая, але вельмі ўдзячная, бо людзкая душа падобная крыху да ўраджайнае глебы; пакінуць яе пералогам — зарасьце пустазельлем, а добра апрацаваная закрасуе каласістым збожжам.

**а. Леў.**

# Богачалавек

Хрысьціянін ведае, каго азначаецца гэтым словам; Таго, Хто між людзей быў самым вялікім, самым дасканалым, самым сьвятым. Але-ж да людзкое натуры не належаць гэткія якасьці і атрыбуты; у людзей найчасьцей выкрываецца грэх, недасканаласьць і ўсякага роду пошасьці — іх поўна ў людзей. У самым сваім запачацьцю людзкасьць ужо спагудзілася праз першародны грэх, таму і кажа псальмісты: «Бо вось я ў неправотах зачаты, і ў грахох радзіла мяне маці мая» (Пс. 50, 7). У Богачалавеку-ж, хоць Ён і належыць да людзкога роду, хаваецца нешта таёмнае, у сілу чаго такія плямы, як: грэх, спагуда, няпраўда і падобнае — выключана з Яго натуры, з Яго асобы, з Яго жыцьця, з Яго думкаў, з Яго дзеяньняў і паступкаў; гэтай таёмнасьцю ёсьць Ягоная Боскасьць.

Углыбіцца ў гэтую тайніцу мы ня маем магчымасьці; уцяміць яе ня можа ніякі, нат' анельскі розум, аднак яна нам дадзена праз аб'яўленьне, каб мы яе пазналі. Сьв. эвангеліст Іван кажа: «Слова сталася целам і жыло між намі» (Ів. I, 14). Гэта было зьдзейсьненьнем абяцаньня, якое Бог даў людзям пасьля ўпадку ў грэх нашых прабацькоў. Тады сказаў Госпад к сатане: «Палажу варажнечу між табою і між жанчынаю, і між насеньнем тваім і насеньнем яе; яно сатрэ табе галаву...» (Быць. III, 15). Паводля тлумачэньня айцоў Царквы, у гэтых Божых Словах крыецца тайніца ўчалавечаньня Сына Божага для збаўленьня людзкога роду. Царква прыняла гэтае тлумачэньне, як сваё, а сам ход гісторыі Старога Запавету і потым Новага Запавету сьцьвярджае, што яно правільнае, што Госпад Бог тымі словамі абяцаў людзям прыслаць Збавіцеля і ўрэшце паслаў у асобе Свайго Сына Божага. Цудоўны ход тае гісторыі — яна зьдзейсьнілася, калі другая Божая Асоба прыняла на сябе людзкасьць.

У сусьвеце бачымым і нябачымым ёсьць усялякія дасканаласьці: між мінэралаў, расьлінаў, жывёлаў, між людзей; а яшчэ далей у сьвеце зусім нябачымым для людзкога вока, у сьвеце чыстых духаў, гэта значыць анёлаў — між усіх гэтых божых Твораў ёсьць шмат дасканаласьцяў (разву-

мела адпаведна да іх парадку), але ня было яшчэ ў сьвеце аднае дасканаласьці найбольшае і найвышэйшае — ня было Богачалавека, учалавечанай Боскасьці, Стварыцеля істотна злучанага са сваім творам! І вось гэтая найвялікшая тайніца зьдзейсьнілася, калі Божае Слова сталася Богачалавекам і прабывала між намі.

Дунс Скот (1274-1308) багаслоў і філязоф вучыў, што калі-б нат' чалавек і ня зграшыў, дык усёроўна Бог-Слова быў-бы ўчалавечыўся дзеля вялікай дасканаласьці людзкое натуры. Аб гэтым аднак Сьв. Пісаньне маўчыць, а гаворыць, што Богачалавек прыйшоў на сьвет, каб збавіць людзей ад грахоў, ад вечнае загубы. Сьв. эвангеліст Лука кажа: «Сын чалавечы прыйшоў знайсьці і збавіць згубленае» (Лук. XIX, 10). Ды гэтая збаўчая ідэя крыецца ў самым абяцаньні Божым для людзкасьці. У цэрквах лацінскага абраду пяецца ў Вял. Суботу: «O felix culpa, quae talem ac tantum meruit habere Redemptorem». «Што за шчасьлівае правіненьне, калі яно прычынілася к таму, каб нам мець такога Збавіцеля!» Таму сьв. Тамаш Аквінат піша, што ня было-б патрэбы ўчалавечаньня Сына Божага, калі-б людзкасьць не зграшыла. Доказы для гэтага цьверджаньня бярэ з Сьв. Пісаньня.

Учалавечаны Сын Божы ёсьць сапраўдным чалавекам і сапраўдным Богам.

Што Ён ёсьць сапраўдным чалавекам маюцца нязьлічаныя доказы ў Сьв. Пісаньні. Як і ўсякі з нас, Ён радзіўся ад жанчыны — яна яму дала людзкую натуру. Таму і кажа ап. Павал: «Калі прыйшла поўня часу, Бог паслаў Свайго Сына (Адзінароднага), Каторы нарадзіўся ад жанчыны» (Гал. IV, 4). Ад яе Ён узяў чалавечую прыроду, але пачаўся «не ад жаданьня цела, не ад жаданьня мужа, але ад Бога» (Ів. I, 13). Аб гэтай Тайне чытаем у сьв. Лукі; што анёл падчас дабравешчаньня казаў прычыстай Дзеве Марыі: «Дух Сьвяты зыйдзе на цябе і сіла Найвышэйшага ахіне цябе, таму й тое, што народзіцца Сьвятое назавецца Сынам Божым» (Лук. I, 35). Сьвяты-ж Іван Багаслоў гаворыць, што людзі Яго бачылі сваімі вачыма і датыкаліся Яго сваімі рукамі, што бачылі Яго перад сабою як чалавека. (I. Ів. I, 1). Богачалавек Сам Сябе часта называе Сынам чалавечым: «Сыну чалавечаму трэба многа цярпець» (Лук. IX, 22). «Надыходзіць гадзіна, калі Сын чалавечы будзе праслаўлены» (Ів. XII, 23). «Сын чалавечы ня прышоў, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць душу Сваю на выкупленьне многіх» (Марк. X, 45) і пад. — Гэта ўсё Сам аб Сабе гаворыць Богачалавек, каб выказаць праўду аб Сабе і Сваёй натуры, ды паказаць, якою любоўю Ён праняты да ўсіх людзей наагул.

Ап. Павал кажа, што Богачалавек быў ува ўсім падобны да іншых людзей апрача граху. (Жыд. IV, 15). Як чалавек Ён падлягаў людзкім патрэбам: еў, піў, спаў, зьнемагаўся цяжкаю працаю і цярпеў ад болю.

Фарысэі няраз горшыліся тым, што Хрыстос у штодзенным жыцьці ня вырозьніваўся ад іншых людзей і за гэткае фальшывае суджаньне аб Ім, Хрыстос востра дакараў фарысэяў і кніжнікаў: «Прыйшоў Сын чалавечы; і есьць і п'е; і вы кажаце: вось чалавек жарун і віназлоп, сябра мытнікаў і грэшнікаў» (Лук. VII, 34). Тут вельмі ясна і цьвёрда падкрэсьліў Богачалавек Сваю людзкую натуру ў яе такіх неабходных вымогах, як яда і піцьцё. Фарысэі агулам у асуджаньні людзей былі крывадушныя, бо калі Богачалавека абвінялі ў пражорлівасьці і п'янстве на банкетах, дык наадварот Івана Хрысьціцеля абвінялі за пост, казалі, што ён ня есьць і ня п'е, бо мае беса. Таму так востра громіць іх Хрыстос, бо яны ня хочуць разумець у чым ёсьць сутнасьць сьвятасьці. Богачалавек, як аднае натуры з людзьмі, не пагарджаў нікім, хто Яго запрашаў пасілкавацца, нават мытнікамі і грэшнікамі, бо Ён ня толькі як Бог, але так-жа як чалавек хацеў даць ім доступ да сябе.

Як чалавек Хрыстос паддаваўся зьняможаньню. Аднойчы змучаны доўгім падарожжам, Ён сеў адпачываць каля Якубавае студні і калі зьявілася самарытанка з вядром па воду, Ён просіць у яе, каб дала вады напіцца. (Ів. IV, 7). А ў пустыні, выснажаны соракдзённым постам Ён адчуваў такі голад, што сатана пачаў Яго спакушаць хлебам... Сьв. Аўгустын, пішучы аб трудох і зьняможаньнях Богачалавека, кажа: «Fatigatur virtus Dei». (Божая моц зьнемагаецца!) бо ў Богачалавеку тут ёсьць сапраўдная людзкая натура.

Учалавечаны Сын Божы гэта ня толькі сапраўдны чалавек, але дасканалы чалавек, бо як кажа сьв. Тамаш Аквінат, узяў к сабе дасканалую людзкую натуру. (Summa Tehol. I-II, Q. XVIII, A. I). Гэтая дасканаласьць была дасканаласьцю ў поўным значэньні гэтага слова, бо людзкасьць у Богачалавеку была істотна злучана не ў людзкой асобе, але ў Боскай Асобе. Таму ў Ім не магло быць і цені граху, або якіх маральных нястачаў, недасканаласьцяў, або няведаньня. Богачалавек паддаваўся фізычным недасканаласьцям людзкое натуры, як: голад, смага, холад, цярпеньне і нарэшце сьмерць на Крыжы, бо гэткім чынам Ён жадаў цярпець за грахі сусьвету і за кожнага з нас, каб прынясьці за іх задосыцьучыненьне Свайму Нябеснаму Айцу — але маральна Ён ня меў ніякіх недахопаў, як самая Сьвятасьць.

Богачалавек ёсьць так-жа і сапраўдным дасканалым Богам. Бяручы к Сабе чалавечую натуру, Ён ані ня зьменьшыўся, ані не пагоршыўся як Бог; інакш Ён ня быў-бы Богам. Самое паняцьце аб Богу выключае зьменнасьць, нясталасьць, або якіколечы цень недасканаласьці, ці пагоршаньня ў Ягоным стане.

Сам Хрыстос гаворыць, што Ён Адзінародны Сын Бога Айца: «Бога ніхто ніколі ня бачыў: Адзінародны Сын, Каторы ёсьць ва ўлоньні Айца. Ён расказаў (Ів. I, 18). Аднаго разу, калі Ён пытаўся ў сваіх вучняў, за каго Яго маюць людзі, то яны адказалі: «Адны за Івана Хрысьціцеля, другія за Ільлю, а іншыя за Ерамію, ці аднаго з пракокаў...» Тады Ён кажа: «А вы за каго Мяне уважаеце? Сымон-жа Пятро адказаў: Ты Хрыстос, Сын Бога жывога». І Хрыстос ня зганіў яго за гэта, але пахваліў, бо выказаў праўду, і абяцаў, што на ім, на Пятры, як на скале збудуе Сваю Царкву, і дасьць яму ключы нябеснага валадарства. (Мат. XVI, 13-19). Ды голас самога Бога Айца тройчы абвесьціў, што Хрыстос ёсьць Ягоным наймілейшым Сынам. Першы раз на Ёрдане пасьля хрышчэньня. (Мат. III, 17), другі раз падчас Прэабражэньня. (Мат. XVII, 5) і трэці раз перад мучэньнем, калі Хрыстос маліўся: «Душа Мая ўзварушана; і што Мне сказаць? Ойча! збаў Мяне ад гэтае гадзіны. Аднак для гэтае гадзіны Я і прышоў. Ойча, услаў імя Тваё! І зышоў з неба голас: і ўславіў і яшчэ ўслаўлю! (Ів. XII, 27-28). Тут Богачалавек зьвярнуўся да Свайго Нябеснага Айца з малітвай і Той азваўся к Яму, як Свайму Сыну. Усё гэта сьведчыць аб Боскасьці нашага Збавіцеля.

Што Богачалавек ёсьць сапраўдным Сынам Божым, гэта значыць праўдзівым Богам, Ён даказаў ня толькі Сваім словам, але і Сваімі дзеяньнямі і ўчынкамі: тварыў вялікія цуды, не як які сьвяты, або прарок праз моц і сілу Божую, але Сваею ўласнаю сілаю Божай. Ён цудоўна аздараўляў безнадзейна хворых ня толькі тых, да якіх дакранаўся, але і на адлегласьць. Так аздаравіў уміраючага слугу сотніка ў Капэрнауме. (Мат. VIII, 5-13. Лук. VII, 1-10) ў шмат іншых нявылячальна хворых; уваскрашае памёршых: сына ўдавы з Наін. (Лук. VII, 11-16) дачку Іаіра (Мат. IX, 18-26) і Лазара, хоць ягоны труп ужо сьмярдзеў. (Ів. XI, 38-44). Яшчэ большыя цуды тварыў Богачалавек у духовым сьвеце: Ён адпушчаў грахі сваім уласным аўтарытэтам; публічнай грэшніцы. (Ів. VII, 11), паралітыку. (Мат. IX, 2); абяцае рай раскаеннаму разбойніку. (Лук. XXIII, 43). Ён так-жа быў поўнаўладным валадаром няжывое прыроды: памнажаў хлеб. (XIV, 17-21), замяняў ваду ў віно. (Ів. II, 6-11), адным словам уціхамірваў буру (Марк. IV, 39-41).

Паводля хрысьціянскае навукі ў Хрысьце дзьве натуры — Боская і людзкая — істотна (гіпостасна) злучаныя ў Божай Асобе, таму Ён і ёсьць Богачалавек. Усе чыннасьці паходзяць ад Асобы, таму Яго людзкія чыннасьці паходзяць ад тае Асобы, як са свае крыніцы і таму маюць безгранічную вартасьць, чаго і вымагалася па справядлівасьці да збаўленьня чалавека, каб задасыцьучыніць Божай справядлівасьці за людзкія грахі. Гэта гучыць проста і ясна, але тут Божая Тайнца не да ўцямленьня людзкому розуму.

Той-жа Богачалавек і цяпер астаецца сярод нас для нашага збаўленьня, хоць і пад другім відам. У Найсьвяцейшай Эўхарыстыі, як Эўхарыстычны Богачалавек, Ён прыносіць за нас на аўтарох бяскроўную ахвяру, калі выконваецца Літургія або Імша, тады становіцца нашай ЕЖАЙ і нашым ПІЦЬЦЁМ пад відамі Эўхарыстычнага Цела і Эйхарыстычнае Крыві. І дзе толькі ў сьвятынях на аўтарох перахоўваецца Найсьвяцейшая Эўхарыстыя, там сярод нас астаецца дзеля любові да нас Эўхарыстычны Богачалавек, каб вызваліўшы нас ад граху, умацаваць у нас духовае, маральнае і разумовае жыцьцё. З глыбокай верай, з непахіснай надзеяй і з гарачай любоўю зьвяртаймася да Яго і станьмася Ягонымі сапраўднымі пасьлядоўнікамі! Хто ў дачасным жыцьці Яго будзе мець заўсёды ў сваім сэрцы, дык у будучым жыцьці будзе вечна ў Ягоным валадарстве!

**а. Я. Тарасэвіч.**

# Старонкі з крыжовае дарогі Каталіцкае Царквы на Беларусі

Сёлета 31 жніўня споўнілася 60 гадоў жыцьця Яго Эксцэленцыі **Балеслава Слосканса** Апостальскага Візітатара для Беларусаў Каталікоў абодвых абрадаў у Зах. Эўропе. З гэтае нагоды рэдакцыя нашага часапісу шле прэасьвяшчэннаму Юбіляту найлепшыя пажаданьні і заахвочвае ўсіх сваіх чытачоў да шчырых малітваў у ягоным намераньні.

З гэтае-ж нагоды ўважаем за адпаведнае апублікаваць кароткі нарыс жыцьцёвага шляху высокадастойнага Юбілята, уладыкі Балеслава, на тле сучасных рэлігійных падзеяў.

**Рэдакцыя**

### У агні рэвалюцыі

Калі набліжаўся пераламовы рэвалюцыйны 1917 год, Каталіцкая Царква на Беларусі была ў вельмі непацяшальным стане, хоць яе лікавы стан быў немалы, як аб гэтым сьведчаць статыстычныя даныя*):

| Епархіі | Сьвятары | Парахвіі | Філіялы і капліцы | Вернікі |
|---|---|---|---|---|
| Віленская | 505 | 235 | 211 | 1.392.341 |
| Магілёўская | 328 | 171 | 56 | 747.709 |
| Менская | 84 | 50 | 32 | 288.980 |
| Разам | 917 | 456 | 299 | 2.429.030 |

*) Улажана на аснове даных з **Annuaire Pontifical, Paris** 1917 і 1918 г.

Кіруючыя становішчы былі пераважне ў польскіх руках, але ў ніводнай епархіі на Беларусі ніводзін каталіцкі ерарх ня мог нармальна выконваць сваіх абавязкаў. Віленскі біскуп Эдвард де Ропп выселены з Вільні ў 1907 г., а ягоныя ябавязкі выконваў апостальскі адміністратар кс. Казімер Мікалай Міхалкевіч (пазнейшы біскуп-памоцнік). Магілёўскаю архіепархіяю ад 1914 г. кіраваў вікарны біскуп Я. Э. Ян Цепляк тыт. біск. Эварыйскі, але Магілёў быў мітрапалітальным пасадам, што абымаў увесь абшар Беларусі, Украіны без Галіцыі, Расеі з выняткам Саратаўскай епархіі, з Сібір'ю уключна, Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі — вось-жа мусіў быць ачолены мітрапалітам. Гэта сталася ўжо ў 1917 г., тады Апостальскі Пасад назначаыў магілёўскім мітрапалітам Я. Э. Эдварда дэ-Роппа. Як хутка пабачым, ён ня доўга мог кіраваць сваім пасадам. Менская епархія ад 1869 г. была зьліквідавана і аднаўлена толькі ў 1917 г. Першым яе біскупам быў назначаны 2-Х-1917 г. магілёўскі канонік Жыгімон Лазінскі, хіратанізаваны 23-VII-1918 г., але ён змог утрымацца ў Менску ўсяго няпоўных два гады.

Рэвалюцыя 1917 г. пачала свой руйнацкі паход ад зьнішчаньня рэлігійных вартасьцяў у людзкіх душах. На кругазоры грамадзкага жыцьця цёмныя хмары згушчаліся штораз больш. У часе гэтых грозных замяшаньняў дня 21 студзеня 1917 г. у Петраградзе атрымаў сьвятарскія сьвячаньні тамтэйшы алюмн Імпэр. Рыма—Каталіцкае Духоўнае Акадэміі Балеслаў Слосканс, народжаны 31-га жніўня 1893 г. у Стэрнянах пав. Рэжыца. Яму Бог судзіў узяць паважны ўдзел у беларускім рэлігійным жыцьці.

### Гвалтоўны наступ бязбожніцтва

Пасьля лютаўскае рэвалюцыі 1917 г., калі між іншым была ўрачыста абвешчана свабода веравызнаньня, шмат каму на Беларусі, як і на ўсім сьвеце, магло здавацца, што ад таго часу можна будзе спадзявацца палепшаньня рэлігійнага жыцьця на абшары калішняе Расейскае імпэрыі. Так думалі шматлікія праваслаўныя збольшваючы лік епархіяў і аднаўляючы 5 лістапада 1917 г. Маскоўскі Патрыярхат, так маглі думаць і каталікі, маючы мычымасьць аднавіць Менскую епархію і абсадзіць Магілёўскую мітраполію, такія думкі маглі мець і беларускія каталіцкія сьвятары, сабраўшыся на свой зьезд у Менску 24 і 25 траўня 1917 г. і прыймаючы пастуляты беларусізацыі рэлігійнага жыцьця. І сапраўды ў тым пераваротным годзе, не зважаючы на бязбожную небясьпеку, нават у першыя месяцы пасьля кастрычніцкае рэвалюцыі былі азнакі палепшаньня на беларускім рнлігійным фронце. У Петраградзе і Вільні заснавалася Беларуская Хрысьціянская Дэмакратычная Злучнасьць і ад 8-IX-1917 пачала выдаваць у Пецярбурзе газэту «Крыніца» пад рэдакцыяй кс. Л. Хвецько. Мітр. Эдвард дэ-Ропп афіцыяльна дазволіў уводзіць беларускую мову ў казаньні і катэхізацыю, а а. Фабіян Абрантовіч у 1918 г. распачаў стараньні (праўда дарэмныя), каб заснаваць у Менску Беларускую Каталіцкую Духоўную Акадэмію. У 1917 г. беларускія грамадзкія дзеячы, асабліва браты Луцкевічы, робяць паважныя стараньні, каб аднаваіць на Беларусі Каталіцкую Царкву усходняга абраду і з гэтаю мэтай запрашаюць тайна адведаць Вільню, толькішто вызваленага з турмы, львоўскага мітр. Андрэя Шэптыцкага, і ў Папскім Гадавіку пры Менскай лацінскай епархіі зьяўляецца рубрыка, зарэзэрваваная для ўсходняе епархіі, нажаль неабсаджанае.

Аднак усе плянаваньні лепшае будучыні разьбіліся аб жарстокую сапраўднасьць. Савецкая ўлада, выдаўшы 23.І.1918 г. дэкрэт аб адзьдзяленьні Царквы ад дзяржавы, распачынае сыстэматычны, штораз мацнейшы наступ супраць рэлігіі агулам, а супраць каталіцызму ў асаблівасьці.

У 1919 г. уздымаецца першая грозная хваля масавых арыштаў. Менскі біскуп Жыгімонт Лазінскі, папярэджаны вернікамі аб плянаваным арышце, ратуецца ўцёкамі ў Польшчу, пераапрануўшыся за селяніна. Бальшавікі абяцалі 100.000 рб. таму, хто дапаможа яго злавіць. Магілёўскі мітрап. Эдвард дэ-Ропп быў арыштаваны ў поўнач з 16 на 17 красавіка 1919 г. Гэта было якраз з Вялікае Серады на Вялікі Чацьвер. У першую нядзелю па Вялікадні 27 красавіка пецярбурскія каталікі ў ліку некалькі тысяч чалавек пасьля Службы Божае ў касьцеле сьв. Кацярыны з крыжам наперадзе і з рэлігійнымі сьпевамі на вуснах пайшлі да будынку ЧЭКА на Гарохавую вул. Нр. 2, прасіць аддаць ім іхняга архібіскупа. Доўга яны стаялі і сьпявалі рэлігійныя песьні перад тым домам, нарэшце на бальконе зьявіліся чэкістыя з запытаньнем, чаго ад іх хочуць. З грамады адказалі, што жадаюць, каб ім аддалі архібіскупа. Вынік гэтае пэтыцыі быў трагічны. Чэка накіравала адзьдзел чырвонаармейцаў, якія пачалі пагражаць растрэлам на мейсцы ўсіх. Але дух вернікаў быў моцны, пагрозы ня выклікалі ніякае панікі і ніхто ня рушаўся з мейсца; гатовыя аддаць жыцьцё за веру, яны стаялі далей і голасна адмаўлялі малітвы. Бачучы такую рашучую паставу чэкісты не адважыліся страляць, але не пакінулі грамады ў спакою. Пасьля ўсякіх зьдзекаў чэкісты прыкладамі загналі ў панадворак ЧЭКА частку грамады, каля 300 чалавек, што стаялі бліжэй каля варот і потым іх усіх адправілі ў Чэсменскі канцэнтрацыйны лягэр каля Петраграду. Мітрапаліта праз колькі тыдняў перавезена ў Маскву, а ў кастрычніку таго-ж году вывезена ў Польшчу ў форме вымены на нейкага камуніста.

Магілёўскі мітрапалітальны пасад мусіў нанава абняць Я. Э. Ян Цепляк як тыт. архібіскуп Ахрыдзкі. Для Віленскае епархіі быў хіратаніза-

ваны 23.X.1918 г. біск. Юры Матулевіч. Яго ў красавіку бальшавікі былі арыштавалі, але не на доўга, бо хутка мусілі пакінуць Вільню, дык біскуп выйшаў на волю, аднак за свае прыхільныя адносіны да летувісаў і беларусаў ён меў шмат прыкрых нападаў з боку палякаў.

У 1920 г. на кароткі час супрацьрэлігійныя напады бальшавікоў былі нібы прыціхлі, але ў 1921 г. выбухлі з новаю сілаю. Дзьве падзеі разьвязалі бальшавіком рукі ў супрацьрэлігійнай барацьбе. Дня 18.III.1921 г. быў падпісаны мірны дагавор між СССР і Польшчаю, дык сілы з фронту можна было выкарыстаць да іншае работы. Якраз у тымжа годзе пашыраецца страшэнны голад у цэнтральнай Расеі — для бальшавікоў зьяўляецца добрая нагода аграбіць сьвятыні. З гэтаю мэтаю быў выданы адпаведны дэкрэт 27.XII.1921 г. Распачаліся масавыя арышты і растрэлы духавенства. За 1922 г. на абшары Усх. Беларусі растралялі 201 праваслаўных і каталіцкіх сьвятароў. Тады-ж перад Вялікаднем уначы, таксама як калісь мітрапаліта, з Вял. Серады на Вял. Чацьвер з 12 на 13 красавіка арыштована архібіскупа Цепляка.

У першую нядзелю пасьля Вялікадня 23 красавіка каталікі з Петраграду грамадна сабраліся на Службу Божую ў касьцёл сьв. Кацярыны. А пасьля Службы Божае, уважаючы што неразважна йсьці з крыжам у ЧЭКА, як гэта яны рабілі ў 1919 г. дык сабраліся масава на пагосьце перад касьцёлам і там зрабілі магутную маніфэстацыю. Аграмадны плякат з напісам «Католики требуют освобождения своего архиепископа», высока ўзьняты ўгару, казаў усім аб мэце маніфэстацыі. Да сабраных прамаўлялі самыя-ж вернікі ў розных мовах. Ад беларусаў прамаўляла Вікторыя Кісель. Пасьля маніфэстацыі ўсе вернікі, сьпяваючы супплікацыю, зноў увайшлі ў касьцёл на вячэрню, якую адслужыў кс. Балеслаў Слосканс. Падчас вячэрні агэнты ЧЭКА увайшлі ў касьцёл з рэвольвэрамі ў руках і пачалі крычаць ля ўхадовых дзьвярэй, каб перарваць багаслужэньне. Але не зважаючы на іх крык багаслужэньне дайшло да канца. Пасьля багаслужэньня вернікі ня выходзілі з касьцёлу, прадаўжаючы сьпяваць рэлігійныя песьні. Тады агэнты, а іх было шмат і ўсе п'яныя, як ваўкі ўбеглі ў касьцёл, забеглі напярод аж да перадаўтарных сходаў і пачалі выганяць сіламоц вернікаў. Калі некалькі з іх учапіліся за вопратку і рукіаднае жанчыны і пачалі яе валачы да выхаду, дык яна загаласіла так голасна, што змоўклі сьпевы і ўсе, як на каманду, леглі крыжам на зямлі; касьцёл напоўніўся ўзрыдамі старшых і плачам дзяцей. Толькі агэнты стаялі як стаўпы; яны сапраўды былі аслупянеўшы і ня ведалі, што рабіць далей. Выйшаўшы з касьцёлу, яны сабраліся перад дзьвярыма і чакалі выхаду вернікаў. І калі тыя пачалі выходзіць, дык агэнты ў кожнага пыталіся пашпарт. Хто пашпарту ня меў, таго арыштоўвалі, пры тым арыштавана шматлікіх, што мелі пашпарты. Між арыштаванымі быў таксама а. Антоні Неманцэвіч, ён прасядзеў у петраградзкай турме некалькі тыдняў і быў перасланы ў Маскву, дзе быў хутка вызвалены. Пры гэтай нагодзе варта крыху заскочыць на пярод і зацеміць, што а. Неманцэвіч у Пецярбург не вярнуўся, бо быў назначаны вікарым у парахвіі ап. Пятра і Паўла, але летам ў 1923 г. яго зноў арыштоўваюць амаль адначасна са сваім парахам кс. Зелінскім і тады ў апусьцеўшую парахвію быў прысланы кс. Балеслаў Слосканс. Ён змог адведаць у маскоўскай турме і параха і а. Неманцэвіча.

Вяртаючыся да 1921 г. трэба сьцьвердзіць, што хоць масавыя арышты тэрарызавалі людзей, аднак работнікі каталікі іх не пабаяліся, яны пачалі масава пісаць пэтыцыі і высылаць дэлэгацыі аносна вызваленьня з арышту архібіскупа і пэтыцыі не пераставалі напłываць, дык па двох месяцах яго выпусьцілі.

Хоць бальшавікі выступалі супраць рэлігіі з нячуванаю дагэтуль жарстокасьцю і сілаю, але ў адным яны йшлі сьлядамі ўсіх прасьледавальнікаў рэлігіі; яны стараліся апрануць свае злачыны ў законную форму. Пад прэтэкстам выкананьня дэкрэту аб адзьзяленьні Царквы ад дзяржавы, яны ў 1922 г. зажадалі ад усіх парахаў падпісаньня дагавору аб вынайме ад дзяржавы сьвятыняў. Таму што ў фармуляры дагавору былі некаторыя пункты супярэчныя Божаму і царкоўнаму праву, дык усе каталіцкія парахі і сябры каталіцкіх царкоўных камітэтаў адмовіліся яго падпісаць. Каб зламаць стойкасьць каталіцкага духавенства ў Петраградзе, бальшавікі зачынілі ўсе каталіцкія сьвятыні за выняткам толькі аднаго францускага касьцёлу Нотр Дам дэ Франс на Ковенскім зав. Але каталіцкія сьвятары, верныя сваім абавязкам, адпраўлялі далей багаслужэньні ў розных памешканьнях, дзе маглі сабрацца вернікі. Мейсцы багаслужэньня былі ведамыя савецкім уладам.

У тым неспакойным часе архіб. Ян Цепляк, нядаўна выйшаўшы з турмы, жыў у Петраградзе, і час-ад-часу зьбіраў падуладнае духавенства на нарады. Знайсьці нейкую збаўчую раду ў тым цяжкім палажэньні было амаль немагчыма, але ўдзельнікі нарадаў мелі прынамся нагоду, выказаць сабе ўзаемна свае цярпеньні. У нарадах калі-не-калі ўдзельнічаў так-жа кс. Балеслаў Слосканс, тагачасны вікары парахвіі сьв. Кацярыны ў Петраградзе. Сакратаром падчас нарадаў быў гэнэральны вікары прэлат Канстанцін Буткевіч, які быў адначасна парахам сьв. Кацярыны і пецярбурскім дэканам. З абавязку сакратара ён запісваў сабе ў сшытак кароткі зьмест нарадаў і протокол[?] удзельнікаў.

Спадзяючыся заўсёды арышту, прэлат Буткевіч, як зрэштаю большая частка духавенства, амаль ніколі не начаваў у сваёй кватэры і там не

пакідаў ніякіх дакумантаў. Але не зважаючы на такія захады асьцярожнасьці зімою 1922 г. чэкісты прыпадкам рабілі вобыск у адным доме, дзе начаваў пралат Буткевіч. Самому яму ўдалося схавацца, але ягоная тэчка з дакумантамі і сшыткам, дзе былі запісаны пратаколы сходаў, трапіла ў рукі чэкістаў. Да гэтага яшчэ далучылася савецкая акцыя грабленьня сьвятыняў, якую афіцыяльна яны называлі «из'ятие ценностей», на тле чаго ствараліся шматлікія канфлікты, якія бальшавікі перакручвалі на свой лад, як супраціў уладзе і ў зьвязку з гэтым арганізавалі ў Маскве 21-26 сакавіка 1923 г. вялікі судовы працэс.

За тыдзень ці два перад працэсам ЧЭКА правакацыйна паклікала архіб. Цепляка і 14 сьвятароў у Маскву. У Петраградзе на свабодзе асталіся толькі: вікары парахвіі сьв. Кацярыны кс. Слосканс і парах француская касьцёлу ў Петраградзе а. Амудрю, дамініканін. У Маскве архібіскупа і ўсіх пакліканых сьвятароў адразу арыштавалі і трымалі ў супольнай камэры праз увесь час падрыхтоўкі да працэсу. На працэсе фігуравалі дакуманты, знойдзеныя ў тэчцы пралата Буткевіча. Нічога там кампраміт‍уючага ня было, а толькі тое, што сьвятары былі гатовыя аддаць сваё жыцьцё за вернасьць Каталіцкай Царкве і не гадзіліся йсьці на ніякія кампрамісы з сьвятарскім сумленьнем. Ня глядзячы на гэта архіб. Цепляка і пралата Буткевіча прысуджана на сьмерць, а іншых на кары ад трох да дзесяці гадоў ізаляцыі. Такі прысуд выклікаў цэлую буру пратэстаў у Заходняй Эўропе і Амэрыцы, дык для дыплёматычных выгадаў бальшавікі адмянілі кару сьмерці для архібіскупа Цепляка на 10 гадоў турмы (потым 23.III.1924 г. выменялі яго ў Польшчу на некалькі камуністаў), а пралата Буткевіча 30.III, якраз у Вялікую Пятніцу, растралялі.

## Епархіі без ерархаў

Ад часу падзелу Беларусі Рыскім дагаворам у 1921 г. на дзьве часткі, рэлігійнае палажэньне Беларусі сталася неаднолькавым, але ў абедзьвюх частках яно было жалюгоднае. У Зах. Беларусі пад Польшчай афіцыяльна шмат гаварылася і пісалася аб адбудове Каталіцкае Царквы, а ў сапраўднасьці гэта было сьведамае мяшаньне каталіцызму з польскасьцю, бо дазвалялася каталіцкае жыцьцё толькі ў польскай форме, а ў беларускай форме, калі не прасьледавалася крывава, як гэта рабілі бальшавікі, дык там ня менш нішчылася бязьлітасна. Віленскі біскуп Юры Матулевіч меў толькі прыкрасьцяў і нападаў з боку польскіх уладаў, што ў 1925 г. мусіў зрачыся свайго пасаду. На яго мейсца быў назначаны, успаміханы перш архіб. Ян Цепляк ужо як мітрапаліт, але памёр у часе падарожжа ў Амэрыцы перад абняцьцем пасаду і хутка пасьля Віленськую мітраполію абняў заяты вораг усяго беларускага мітр. Рамаульд Ялбжыкоўскі. Пінскі біскуп Жыгімонт Лазінскі, які да 1925 г. афіцыяльна лічыўся Апостальскім Адміністратарам Менскім, меў вялікія няпрыемнасьці ад польскіх уладаў за тое, што ў сваёй епархіі адносіўся тэлерантна да беларусаў, а нават у Пінскай Духоўнай Сэмінарыі, заснаванай а. Абрантовічам, выкладалася беларуская мова і прафэсарамі былі сьвятары беларусы. Аднойчы якісь высокі польскі гэнэрал так дакучыў біскупу дакорамі, што той выпрасіў яго за дзьверы. Іншым разам іншаму гэнэралу на цьверджаньне, што трэба ліквідаваць беларускасьць у рэлігійным жыцьці, бо маўляў за якіх 20 гадоў на Крэсах Усходніх ужо і ўспаміну аб беларусах ня будзе, біскуп з націскам адказаў: «Пане гэнэрале, за 20 гадоў тут і сьледу ня будзе ад Польшчы». Нажаль нават і гэты шчыры і адважны ерарх паступова быў змушаны эдавальняць недарэчныя жаданьні польскага ўраду, пазвальняў з Духоўнае Сэмінарыі прафэсараў беларусаў, а ягоны наступнік пасьля 1932 г. біск. Казімер Букраба забараніў выкладаньне беларускае мовы ў Сэмінарыі і ня прымаў больш у Сэмінарыю нават клерыкаў беларусаў. Аб тым, што дзеелася ў Зах. Беларусі перад 1939 г. магчыма нехта напіша асобна.

Палажэньне ва Усх. Беларусі было бязумоўна шмат горшым. Пасьля засуджаньня архіб. Цепляка абедзьве каталіцкія епархіі ў межах БССР: Менск і Магілёў пуставалі і кіраваліся часовымі адміністратарамі. Адміністратарам Магілёўскае мітраполіі ад 1923 г. да 1925 г. быў кс. Ст. Пшырэмбэль, потым ягонае мейсца абняў пралат Антоні Малецкі. Менскім адміністратарам да 1927 г. быў кс. Эдвард Вайцяхоўскі. Парахвіі ў вялікай колькасьці пуставалі, арышты духавенства ня спыняліся. Да гэтага сумнага становішча далучыўся ў 1924 г. вельмі прыкры факт у парахвіі сьв. Барбары ў Віцебску кс. Уладыслаў Хшчоновіч, ня будучы на вышыні свайго пакліканьня і пад націскам агэнтаў ГПУ, прылюдна адрокся ад веры. Каб злагодзіць згоршаньне вернікаў, выкліканае гэтым здарэньнем, духоўныя ўлады сьпешна выслалі ў Віцебск кс. Балеслава Слосканса. На ягонае першае багаслужэньне зышлося шмат народу і новы душпастыр у сваім казаньні, не ўспамінаючы нават імені адступніка, змог бясьсьледна палагодзіць згоршаньне, выклікаючы ўздым вернікаў і здабываючы сабе агульнае прызнаньне, але прабыў там нядоўга, бо ў 1925 г. быў выкліканы тэлеграмаю назад у Ленінград, на становішча вікарага пры парахвіі сьв. Кацярыны.

## Аднаўленьне ерархі

У 1926 г. францускі біск. Д'Эрбіні ужо другі раз (перш раз быў у 1925 г.) змог атрымаць дазвол адведаць Савецкі Саюз і зьвізытаваць францускія цэркві. Гэтым разам ён меў ад Сьвяцейша-

га Айца надзвычайныя паўнамоцтвы для аднаўленьня каталіцкае ерархіі на абшары СССР. Аднойчы ён зьявіўся з захрыстыі царквы сьв. Кацярыны ў Ленінградзе і спаткаўшыся там з тамтэйшым вікарым Балеславам Слоскансам пасьля кароткае гутаркі, дамовіўся сустрэцца з ім на наступны дзень.

У назначаны дзень, гэта было 5 траўня 1926 г. сустрэліся зноў два названыя дастойнікі і, змовіўшы супольна малітву да Сьв. Духа, біск. Д'Эрбіні паказаў свайму субяседніку пад найбольшым сакрэтам свае паўнамоцтвы і коратка заявіў, што мае намер хіратанізаваць яго на біскупа і з гэтаю мэтаю загадвае яму прыехаць у Маскву, але да часу ўсе мерапрыемствы маюць быць захаваныя ў найбольшым сакрэце. Нованазначаны біскуп дарма шукаў у памяці якіх колечы прычынаў, каб адмовіцца ад так цяжкага і адказнага назначэньня, вось-жа годзіцца. Афіцыяльнаю прычынаю падарожжа ў Маскву Я. Э. Слосканса было заданьне прывезьці сьв. Міро. Парах канонік Антоні Васілеўскі цешыўся з гэтае нагоды, аб іншых прычынах падарожжа нічога ня ведаў.

З цяжкім сэрцам 10 траўня 1926 г. Я. Э. Балеслаў Слосканс пераступіў парог аднае з маскоўскіх каталіцкіх сьвятыняў, дзе ўжо ў захрыстыі чакаў яго Я. Э. Д'Эрбіні і яшчэ якісьці няведамы сьвятар — гэта быў Я. Э. Аляксандар Фрізон парах з Сімфэропаля, які меў атрымаць хіратонію разом з уладыкай Балеславам і стацца апостальскім адміністратарам для Одэссы. Але які даведаўся аб тым, што яго чакае толькі гадзіну таму, прыехаўшы ў Маскву з поўдня Расеі. Біскупская хіратонія адбылася паводля найпрасьцейшае формы і пры мінімальным ліку сьведкаў.

Не затрымоўваючыся ў Маскве, уладыка Балеслаў узяў сьв. Міро і вярнуўся ў Ленінград, выконваць далей абавязкі вікарага і чакаць далейшых распараджэньняў. Нрараз ён мусіў перамагаць спакусу, каб ня зьверыцца са сваею тайнаю хаця-б свайму параху. Час ішоў хутка і дня 13 жніўня 1926 г. уладыка даведаўся ад таго-ж біск. Д'Эрбіні, што яму прызначаны тытул біскупа Цыльлійскага і назначана Апостальскім Адміністратарам Магілёўскім, з тым, што на працягу трох месяцаў мае абняць Менскую Ап. Адміністратуру з рук кс. Эдварда Вайцяхоўскага.

У тым часе адміністратарам Магілёўскае мітраполіі быў пралат Антоні Малецкі, ён 13-VIII-1926 быў хіратанізаваны на біскупа для кіраваньня Ленінградзкай Ап. Адміністрантурай, але яшчэ перад сваей хіратоніяй ён паведаміў некатырых сьвятароў Магілёўскае архіепархіі, што «вікары з парахвіі сьв. Капярыны кс. Слосканс назначаецца Апостальскім Адміністратарам Магілёўскім і Менскім з усімі біскупскімі правамі». У тым лісьце не гаварылася, што новы Ап. Адміністратар ёсьць біскупам, але са слоў лісту гэта можна было лёгка вычытаць. Калі сьвятаром гэтая навіна сталася ведамая, зразумела пад сакрэтам, пачалася падрыхтоўка да наладжаньня новае адміністрацыі. У Магілёве яе было магчыма правесьці хутчэй, бо духавенства было больш знаёмае для ўладыкі Балеслава, а ў Менску трэба было перш пазнаць будучых супрацоўнікаў.

Адносна сапраўднага ерархічнага стану ўладыкі Балеслава падуладнае духавенства даведалася дня 14-IX-1926 г. але пад умоваю, што да часу аб гэтым маюць маўчаць.

Першым абавязкам новага Апостальскага Адміністратара было паведаміць сваіх вернікаў аб сваім назначэньні, дзеля гэтага ён выдаў свой першы пастырскі ліст. Ліст быў апублікованы ў двох мовах: беларускай і польскай. Беларускі экзэмпляр трапіў у рукі агентаў ГПУ, але таму што быў прысьвечаны хрысьціянскай любові, дык агенты там нічога для сябе не знайшлі.

Першы пастырскі ліст зрабіў актуальнаю справу мовы ў душпастырстве. У Менску вернікі каталікі, маючы родную мову беларускую, у рэлігійным жыцьці толькі часткава карысталіся беларускаю моваю, прызвычаеныя да польскае, а ў Магілёўшчыне хоць так-жа вернікі агульна карысталіся кніжкамі да багаслужэньня ў польскай мове, ня маючы іншых, але гэтая мова для прасталюдзьдзя была не заўсёды зразумелай, вось-жа беларуская мова павінна была атрымаць свае правы. Пры рэдагаваньні лісту пабеларуску шмат дапамог беларускі сьвятар Пятро Януковіч, Хвашчоўскі парах. Пры гэтай нагодзе варта ўспомніць як адносіліся да беларускае мовы бальшавікі. Аб гэтым можа шмат сказаць такі факт: Аднойчы зьявіўся да ўладыкі даволі інтэлігэнтны беларускі дзеяч і ў гутарцы прызнаўся, што пад прымусам стаўся сакрэтным супрацоўнікам ГПУ і перасьцярог ўладыку, што адносна беларускае мовы і беларускіх нацыянальных імкненьняў трэба быць асьцярожным, бо савецкая ўлада толькі афіцыяльна нібы падтрымоўвае беларускую культуру і адраджэньне, але ў сапраўднасьці, дык хай толькі хто спробуе паказаць, што ён беларус з перакананьня і патрыёт, трапіць у кутузку, а там... пры гэтым ён зрабіў рух, які выконваюць агенты ГПУ, пускаючы кулю ў патыліцу.

Наладзіўшы з большага адміністрацыйны апарат у Магілёўскай архіепархіі, трэба было тое-ж зрабіць і ў Менску, але там было шмат больш перашкодаў. На мейсца дагэтулешняга адміністратара кс. Эдварда Вайцяхоўскага ўладыка Балеслаў назначыў кс. Язэпа Дземяна, але ён ня ўсьпеў нават даехаць да Менску, бо быў арыштаваны падчас падарожжа.

Не зважаючы на цяжкасьці, уладыка Балеслаў распачаў візітаваць падуладныя парахвіі. Таму што да гэтага часу візітацыі ў каталіцкіх парахвіях на Беларусі былі рэдкімі здарэньнямі, дык ня

дзіва што ў зьмененых абставінах, яны для вернікаў, сталіся нагодамі да сапраўднага паломніцтва. Рабіліся візітацыі звычайна без папярэдняга паведамленьня парахаў, нібы наскокам. Толькі ў большых гарадох парахі былі павядомлены загадзя і аб гэтым маглі паведаміць вернікаў.

У часе візітацыяў уладыка Балеслаў сам даваў місіі і пры гэтай нагодзе заўсёды выяўлялася, як беларускі народ шчыра трымаўся каталіцкае веры. Візітацыі звычайна трывалі тры, часом чатыры дні. На першы дзень прысутнічалі пераважна жанчыны, на другі дзень ужо пераважалі мужчыны, а на трэці дзень сьвятыня па берагі напаўнялася вернікамі; грамадна зьяўлялася моладзь, спавядалася, прычашчалася і мірапамазвалася. Пры гэтым былі моцна ўзрушаючыя мамэнты. Перад мірапамазваньнем уладыка Балеслаў пытаўся кожнага паасобку:

— Жадаеш быць бежмаваным?

— Так! — гучаў упэўнены адказ.

— Гатоў аддаць жыцьцё за веру?

— Так!

І гэта рабіла незацёртае ўражэньне і на самых мірапамазваных і на ўсіх прысутных і потым сьцерагло іх ад розных зводных спакусаў. Адночы юнак казаў уладыцы:

— Цяпер нельга грашыць, бо асталося мала сьвятароў, дык і выспаведацца цяжка.

І Бог дапамагаў ім датрымоўваць свае добрыя пастановы.

Умовы, якія апраўдвалі візітацыі без папярэдняга паведамленьня, змушалі перакідацца падчас візітацыяў далёка з мейсца на мейсца. Праўда за свой кароткі час прабываньня на волі ўладыка ня мог адведаць шмат парахвіяў. Акрамя Магілёва, які быў ягоным сталым аседкам, адведаў: Менск, Оршу, Віцебск, Барыслаў, Полацк, Рагачоў, Мсьціслаў, Гомель, Лепель, Вяліж, Чаусы, Талочын, Хвашчоўку і ваколічныя парахвіі. У прыгранічнай смузе мяйсцовыя савецкія ўлады катэгарычна забаранілі праводзіць візітацыю. Так напрыклад забаранілі візітаваць Койданава, а Расіцу былі пазволілі, але калі ўладыка даехаў да Полацку, дык далей ехаць ня пусьцілі, а Расіцкая парахвія лічыла каля 10 тысяч каталікоў і мяйсцовы парах Пятро Капуста, родам з гэтай-жа парахвіі, быў усё падрыхтаваў да візітацыі.

Казаньні падчас візітацыяў уладыка пераважна гаварыў пабеларуску. Калі ўжо йдзе гутарка аб мове казаньняў, дык варта ўспомніць, што ў горадзе Гомелі ўступ да казаньня ўладыка сказаў папольску, ён быў зьвернены да тае інтэлігэнцыі, якая прывыкла чуць польскую мову ў сьвятынях. Праводная думка таго ўступу вартая ўвагі як дакумант часу: «Казаньне мае на мэце выясьніць усім вернікам, бяз розьніцы ступені іхняе асьветы, найважнейшую справу іхняга жыцьця, справу збаўленьня душы. Дык гаварыць аб гэтым у такой мове, якое добра не разумеюць шырокія масы, было-б дарэмнаю гаворкаю, а казаць два казаньні ў розных мовах, я ня маю часу. Дзеля гэтага прашу інтэлігэнцыю прыстасавацца да мовы шырокіх кругоў вернікаў і выслухаць казаньня ў беларускай мове...» І ўсе слухалі казаньня вельмі ўважна.

Уканцы кастрычніка 1926 г. новахіратанізаваныя біскупы ў Ленінградзе і Маскве абвесьцілі для ўсіх вернікаў, аб сваім сапраўдным ерархічным стане і агэнты ГПУ ўзмоцнілі нагляд за ўсім каталіцкім духавенствам. Зьявілася новая небясьпека арышту. Уладыка Балеслаў гэта бачыў і пастанавіў, што і яму настаў час падаць да агульнага ведама аб сваім сапраўдным ерархічным стане, каб на выпадак арышту, яго ўжо ўзялі не як звычайнага сьвятара, але як біскупа.

Абвешчаньне адбылося вельмі проста. У дзень сьв. Ёзафата 14 лістапада 1926 г. магілёўскі гэнэральны вікары Віталі Пашкевіч, якога потым у 1940 г. бальшавікі растралялі, будучы разам з уладыкаю ў Віцебску, абвесьціў на вячэрні ў царкве сьв. Антонія, што «4-га сьнежня тут у Віцебску ў царкве сьв. Барбары Яго Эксцэленцыя біскуп Балеслаў Слосканс будзе мець сваю першую пантыфікальную Службу Божую». У назначаны дзень сьвятыня не магла зьмясьціць у сваіх мурох усіх вернікаў. Магчыма, што гэткі магутны выяў веры ў масах крыху адлажыў час арышту і ўладыка мог далей візітаваць парахвіі, але за ім устаноўлена такі паліцыйны нагляд, каб і дзень і ноч ня выпускаць яго са свайго поля зору.

Жыў уладыка Балеслаў у Магілёве ў невялікім памешканьні з 3-х пакояў, якое яму знайшоў а. Шаціла. У суседстве ў яго жыў савецкі гэнэрал ком. дів. і як потым выявілася, ён быў агэнтам ГПУ і меў заданьне сачыць за кожным рухам уладыкі Балеслава і за кожным адведвальнікам. Аб гэтым даведаўся ўладыка праз сваю прыслугу ад жонкі комдіва. Зрэштаю амаль усе сьвятары былі ў падобных жыльлёвых абставінах. Агэнты ГПУ заўсёды даручалі катораму небудзь з суседзяў па кватэры стацца іхным віжам.

Акрамя суседа агэнта на вуліцы ўладыку заўсёды чакаў іншы агэнт, які хадзіў па пятах ва ўсіх падарожжах. Калі часам здаралася, што ён на станцыі трацiў з вачэй сваю ахвяру, дык хутка зьяўляўся іншы агэнт, які ветліва прасіў уладыку паказаць пашпарт і далей сачыў з адлегласьці. Карэспандэнцыя ўсіх духоўных, а ўладыкі Балеслава тымбольш, заўсёды кантралявалася, а з важнейшых лістоў рабіліся копіі, як гэта выявілся потым на сьледзтве. Казаньні запісваліся адумыснымі агэнтамі. Словам зьбіраўся матэрыял, ці лепш кажучы вышукваўся, каб зладзіць акт абвінавачаньня, а таму што ўсе гэтыя вышукваньні нічога не давалі, дык узмагліся правакацыі. Пачалі пры-

ходзіць «на споведзь» розныя людзі з падступнымі пытаньнямі; стараліся зайсьці на кватэру людзі з выразнаю мэтаю скампрамітаваць уладыку ў вачох вернікаў. Трэба было быць заўсёды падрыхтаваным да розных неспадзеванак. У тым часе ў Магілёве быў абнаўленчы мітрап. Язэп Крачатовіч, хоць ён адносіўся варожа да каталіцызму, але ў асабістых адносінах да ўладыкі Балеслава быў ветлівы і прыходзіў з куртуазійнымі візітамі. Падчас аднае такое візіты мітр. Крачатовіч парушаў справы выразна правакацыйныя, потым прапанаваў пазнаёміцца з нейкім іншым «япіскапам», які нібыта думае аб злучэньні.

Выразных правакацыяў ня цяжка было ўсьцерагчыся, затое патрэбна было асабліваe асьцярожнасьці ў адносінах са сваімі вернікамі. Аб гэтым можа сьведчыць такі выпадак: Адзін старэйшы работнік, які часта спавядаўся і часта прыходзіў на кватэру ўладыкі пагутарыць аб штодзенных клопатах, аднойчы папярэдзіў, што ён быў змушаны забавязацца перад агэнтамі ГПУ, даваць ім справаздачы аб гутарках са сваім біскупам. Няма сумніву, што падобных прымусовых агэнтаў было больш, але яны хаваліся са сваею дзейнасьцю.

Савецкія часапісы выкарыстоўвалі кожную нагоду, каб узьняць кампанію супраць уладыкі Балеслава. Напрыклад у Талочыне падчас візітацыі парахвіі ўся школьная моладзь грамадна зьявілася да споведзі і мірапамазаньня так, што школа на два дні апусьцела — у прэсе адразу зьявіўся артыкул, што біскуп атручвае моладзь рэлігійным дурманом і што зьяўляецца агэнтам Польшчы і Пільсудзкага. У Вялiжу з нагоды візітацыі бальшавікі наладзілі антырэлігійны дыспут і запрасілі на яго ўладыку Балеслава, а калі ён адмовіўся, дык у газэтах зьявіўся артыкул з рознымі абразьлівымі нападамі.

Інтрыгі супраць уладыкі мацнелі з дня-на-дзень і ставаліся тымбольш нахабнымі, чым больш былі беспадстаўнымі. Аднойчы агэнты ГПУ арыштавалі Марысю З., якая рэгулярна прыходзіла на багаслужэньні ў катэдру. Мучылі яе маральна і фізычна на працягу трох дзён, каб падпісала данос аб немаральным жыцьці ўладыкі Балеслава. На чацьвёрты дзень яна была ўжо амаль напоўзвар'яваная, але тым-ня-менш катэгарычна адмовілася падпісаць данос. Бедную Марысю выпусьцілі на волю і яна бягом з турмы прыбегла сказаць уладыцы аб сваім мучэньні і аб тым, чаго ад яе дамагаліся.

Было ясна, што дзень арышту набліжаецца, а няўдачныя інтрыгі, якія кампрамітавалі агэнтаў ГПУ, магчыма яго прысьпяшалі.

**Першы арышт**

Падчас сваіх кароткіх затрымкаў у Магілёве ўладыка Балеслаў падрыхтоўваў да сьвятарства аднаго маладога беларуса з Менску. Ён жыў на памешканьні ў уладыкі. У 1927 г. 4 верасьня, калі ўладыка быў на візітацыі, таго маладога чалавека агэнты ГПУ арыштавалі на некалькі гадзін і ў міжчасе зрабілі вобыск памешканьня бяз ніякіх сьведкаў. Дня 16 верасьня, вяртаючыся з візітацыі ў Магілёў позна вечарам, уладыка даведаўся ад свайго гэнэральнага вікарага аб тым, што сталася на кватэры ў часе ягонае адсутнасьці. Уладыка пасьпяшыў у сваё памешканьне, але ўвайшоўшы туды, не заўважыў ніякіх сьлядоў вобыску, ды й разглядацца ня было калі, бо ня ўсьпеў яшчэ распранууцца, як у памешканьні зьявіліся 3 агэнты ГПУ і 5 сьведкаў каталікоў ды пачалі абшукваць памешканьне. Агэнты павярхоўна аглядзелі перадпакой і ўзяліся шнарыць па пакоі. Паднялі партрэт Сьвяцейшага Айца і з-за рамы выпаў якісьці скрутак; разьвязалі яго перад уладыкаю — гэта была ваенная карта. Пад другім партрэтам была другая карта. У альбоме знайшлася якаясь ваенная статыстыка. Агэнты забралі усё гэта, забралі карэспандэнцыю ўладыкі і яму самому казалі «зьбірацца з рэчамі».

Перад выхадам з памешканьня ўладыка зьвярнуўся да прысутных сьведкаў з такімі словамі: «Мае любыя, я вас больш не пабачу, але памятайце, што мяне забіраюць не за якіясьці злочыны, а толькі дзеля таго, што Беларусь хочуць пазбавіць яе адзінага каталіцкага біскупа...»

Агент ГПУ перарваў гутарку ўладыкі востраю заўвагаю:

— Вы займаецеся агітацыяй!

— Ацэньвайце мае словы, як хочаце — быў адказ — але я раблю тое, што ўважаю сваім абавязкам.

У гэты самы мамэнт прыслуга ўладыкі, добрая старая Марцэліна, дрыжучы ад страху перад агэнтамі, яшчэ знайшла ў сабе толькі адвагі, што зьвярнулася да ўладыкі і ўсіх прысутных:

— Калі вы, Эксцэленцые, ня былі дома, дык сюды прходзілі тры агэнты ГПУ і адзін з іх астаўся са мною ў перадпакою, а два другіх увайшлі ў пакой, зачынілі за сабою дзьверы і што яны там рабілі, я ня ведаю».

Агэнты былі проста лютыя за гэтыя адкрытыя словы і яе гатовы былі забіць на мейсцы, але ўжо было позна; слова не верабей, скажаш, ня зловіш. Агэнты ГПУ гэтым разам скампраміталіся перад сьведкамі.

Паводля найбольш ужыванага савецкага мэтаду, улады ГПУ плянавалі зрабіць уладыку Балеслава ваенным шпіёнам згодна з іхняю прыказкаю: «Дайце нам толькі чалавека, дык абвінавачаньне знойдзем». Праўда ў даным выпадку абвінавачаньне было на толькі неймаверным, што агэнты бралі з сабою пабочных людзей, каб яны потым разносілі кампрамітуючыя весткі, але сталася наадварот, бо сьведкі расказвалі пацiху, што

кампрамітуючыя матэрыялы падлажылі самыя-ж агэнты.

І распачаўся цярністы шлях уладыкі Балеслава. Яго адразу прывялі ў пачакальню магілёўскага асочнага тав. Кузьміна. Той удаваў, што быццам сьпіць за сваім сталом, бо ўжо была ноч, а ў сапраўднасьці ён пільна сачыў за кожным рухам арыштаванага. Да таго ў суседніх дзьверах былі дзірачкі, праз якія так-жа цікавалі чыесь пільныя вочы. Раніцаю 17 верасьня асочны Кузьмін у таварыстве двох іншых агэнтаў перавёз уладыку Балеслава ў Оршу, а дзьве гадзіны пасьля яго адправілі ў Менск. Там яго спачатку пасадзілі ў чысты пакой, дзе пры дзьверах стаяў «анёл хараніцель» са штыкам, было гэта позна вечарам. Шчыра памаліўшыся, уладыка лёг на ложак і толькі пачаў драмаць, як у пакой увайшлі два агэнты:

— А, вы ўжо сьпіце? — загаварылі яны ўдавана лагодным голасам.

— Так, сплю!

— Пазвольце вас патурбаваць. Скажэце нам дакладна, хто вы будзеце?

— Я каталіцкі біскуп Менскі і Магілёўскі.

— А хто-ж вас хіратанізаваў?

— Прадстаўнік Апостальскага Пасаду.

— Але-ж ён звычайны шарлатан...

Было ясна, што агэнты стараліся знайсьці балючы пункт, каб падэнэрваваць сваю ахвяру і шукалі спрытна. Уладыка Балеслаў гэта адчуў і змоўк, не адказваючы больш ні слова на іхныя далейшыя пытаньні.

Раніцаю ў пакоі на стале было шмат паперы з усімі прыладамі да пісаньня. Агэнты ГПУ добра ведалі псыхіку арыштаваных і давалі нагоду выліць на паперу ўсе думкі, каб магчы іх уважна прастудыяваць. Уладыка зразумеў тактыку ГПУ, але пастанавіў выкарыстаць магчымасьць да пісаньня інакш, як гэтага спадзяваліся агэнты. Ён быў сьведамы адказнасьці мамэнту, дык узяў пяро і пачаў пісаць, але гэта была ні просьба, ні дамаганьне, а дэклярацыя такога зьместу:

«Я, ніжэй падпісаны, біскуп Балеслаў Слосканс Апостальскі Адміністратар Менскі і Магілёўскі, уважаю сваім абавязкам, паведаміць праз менскую сэкцыю ГПУ урад і грамадзянства аб наступным:

1. Дня 16 верасьня г.г. агэнты магілёўскага ГПУ зрабілі ў мяне вобыск і знайшлі ваенныя карты і дакуманты.

2. Я нікога, з пражываючых у доме, не падазраю, каб маглі ўкрасьці гэтыя дакуманты ад ГПУ.

3. Сябе я так-жа не прызнаю вінаватым у гэтым.

4. Я цьвярджу, што гэтыя дакуманты і карты былі мне падложаны агэнтамі ГПУ, каторыя 4 верасьня зрабілі вобыск у маім памешканьні падчас мае адсутнасьці.

5. Я цьвярджу, што гэтая нягодная камэдыя згуляная толькі дзеля таго, каб пазбавіць Беларусь яе каталіцкага біскупа.

6. Мой біскупскі характар і людзкая годнасьць мне не дазваляе ўдзельнічаць у гэтай камэдыі і то тымбольш, што ў менскім ГПУ абражана годнасьць Каталіцкае Царквы, якая ёсьць для мяне дарагою.

7. На час перадсуднага зьняволеньня я адмаўляюся даваць якія-б то ні было показаньні, не зважаючы на ніякія кансэквэнцыі.

8. Я цьвярджу, што ўсё падуладнае мне духавенства не займаецца супрацьдзяржаўнаю дзейнасьцю.

9. Я ахвотна прыму для дабра Царквы ўсякую кару, накіраваную супраць мяне, і найбольшае пакараньне — сьмерць, прыму з радасьцю.

Біскуп Балеслаў Слосканс».

Звычайна арыштаваныя, тое што напішуць, аддаюць сьледчым уладам, а ўладыка Балеслаў запісаны аркуш з дэклярацыяй схаваў у кішэню. Хутка яго паклікалі на дапрос да самога старшыні менскага ГПУ Гродіса і ягонага сакратара Эстрына. Гродіс пачаў дапрошваць парасейску, уладыка яму адказваў пабеларуску і зрабіў увагу, што яны знайходзяцца на Беларусі і што ён можа адказваць на пытаньні ў афіцыяльнай мове. На гэта Гродіс адказаў:

— ГПУ ўсюды ўжывае расейскую мову.

Ці ён сам баяўся атрымаць кулю ў патыліцу, ці пагарджаў беларускай мовай, хто яго ведае. У далейшым між ім і ўладыкаю адбылася даўжэйшая гутарка, у якой між іншым былі такія мамэнты:

— Вы знаеце чорнага папу? — пытае Гродіс.

— Не ня знаю, — спакойна адказвае ўладыка.

— А вы ня вадаеце, што гэта так называюць гэнэрала езуітаў і што папа робіць усё пад дыктоўку езуітаў.

— Гэта напэўна ня так, бо езуіты ёсьць толькі адным з шматлікіх каталіцкіх манаскіх чынаў і падпарадкоўваюцца папе нароўні з іншымі.

Раптам асочны пераскаквае на іншую тэму:

— А вы знаеце, што кс. Мустэйку засудзілі на тры гады за аліменты?

— Так, знаю гэтую справу, як і вы.

— Што гэта значыць?

— А тое значыць, што яго засудзілі беспадстаўна толькі на тое, каб скампраматаваць сьвятарскі стан.

Тут асочны зноў пераскочыў на іншую тэму:

— А вы перапісваецеся з кім?

— А як-жа; я маю аграмадную перапіску і адказваю на кожны ліст, які атрымаю.

— А са сваімі парахвіянкамі перапісваецеся?

— Так, і з мі перапісваюся.

— А вы іх ужываеце? — Пры гэтым Гродіс нахабна засьмяяўся.

Пасьля такога пытаньня ўладыка Балеслаў глянуў на асочнага з спачуцьцём і нічога ня кажучы, выняў з кішэні сваё асьведчаньне і палажыў на стол перад асочным. Ён і сакратар кінуліся на паперку і пачалі яе чытаць. Прачытаўшы яе, яны зноў стараліся прадаўжаць гутарку, але ўладыка не адказваў на іхныя пытаньні. Пасьля гэтага далі супакой на цэлы тыдзень. Увесь тыдзень добра кармілі і добра даглядалі пакой і яшчэ не рабілі ні разу асабістае рэвізіі. Пасьля такога загадкавага тыдня зноў паклікалі на дапрос. Цяпер перад асочным на стале была куча папераў і між імі: першы пстырскі ліст пабеларускy, рукапіс падрыхтаванага да друку катэхізму і прыватныя лісты ўладыкі. Дапрос меў хутчэй форму нейкага багаслоўскага дыспуту.

Нічога не дабіўшысся, менскія ўлады адправілі ўладыку Балеслава ў Маскву. Далі купэ ў мяккім вагоне з адным агэнтам у самым купэ і некалькімі ў суседнім. У Маскве адразу завезьлі ва ўнутраную турму ГПУ на Лубянцы і там першы раз зрабілі дакладную асабістую рэвізію, пры гэтым зьнялі усе біскупскія азнакі і нават нацельны крыжык. На Лубянцы ўладыка прабыў 5 месяцаў. Перш яго пасадзілі ў такую камэру, дзе з усіх бакоў праз большыя і меншыя вакенцы сачылі чыесь пільныя вочы за кожным рухам, на дадатак і праз ёдашова вакенца ў дзьверах заглядаў вартавы з карыдору. З суседніх камэраў хтосьці стукаў, толькі нельга было ведаць, ці гэта агэнт, ці зьняволены. На карыдоры хтосьці голасна гутарыў з вартавым, падказваючы зьняволеным розныя спосабы, як «вызваліцца». З іншых далейшых камэраў даходзіў крык ад нэрвовых прыпадкаў. Каб не малітва, дык там сапраўды лёгка страціць нэрвы да поўнага вар'яцтва, бо ўся навакольная атмасфэра ўвесь час напружвала нэрвы да найвышэйшае ступені, а ў дзьверах камэры гудзеў вэнтылятар, угнаючы ў сярэдзіну такое цёплае паветра, што ад удушша цела зусім зьнемагала.

Па нейкім часе такіх аслабляючых мукаў і фізычнага вычарпаньня ўладыку Балеслава паклікалі на дапрос да галоўнага асочнага Рыбкіна. Той адразу накінуўся з моцнаю лаянкаю за дэкларацыю. Уладыка зразумеў, што апраўдвацца з ім няма сэнсу і найважнейшай рэччу, якую можна для сябе зрабіць у гэтых абставінах ёсьць стараньне, захаваць сваю веру, ня йдучы на ніякія кампрамісы. Між іншым Рыбкін у часе лаянкі выказаў некалькі важных асноўных прынцыпаў савецкае палітыкі адносна рэлігіі агулам і каталіцызму ў асаблівасьці: «Мы Каталіцкую Царкву прасьледуем і будзем прасьледаваць да поўнага зьнішчэньня, — казаў ён паднесеным голасам, — Праваслаўная і пратэстанцкая Цэрквы робяць тое, што мы жадаем, толькі Каталіцкая Царква творыць заўсёды дзяржаву ў дзяржаве і мы гэтага ня можам дапусьціць, але мы ня будзем рабіць памылак францускае рэвалюцыі, якая прасьледавала сьвятароў як такіх, робячы з іх мучанікаў, а мы з вас мучанікаў рабіць ня будзем, мы ў вас заўсёды знойдзем правіны супраць дзяржавы». Уканцы саркастычна ўсьміхаючьмя дадаў савецкую прыказку: «Дайце нам толькі чалавека, а злочын у яго заўсёды знойдзем». Такім і падобнымі клічамі ён стараўся прыгнобіць уладыку, але калі вынік быў ніякі, асочны раптам зьмяніў тон свае гутаркі і, ўдаючы супакойнага, казаў:

— Так, мы знаем, што вы нявінны. Больш таго, мы знаем, хто вам падлажыў ваенныя карты — тут ён назваў выдуманую асобу і выдуманую гісторыю, чаму якісьці Н. Н. меў іх падлажыць.

Уладыцы Балеславу было ясна, што названая асоба і гісторыя ёсьць фікцыяю, але яшчэ больш было ясна, што гэтым самым асочны зьняў абвінавачаньне, а тымсамым усякія падставы далейшага трыманьня ў турме, дзеля гэтага адказаў:

— Калі вы цьвердзіце, што я ў гэтым не вінаваты і што знаеце асобу, якая зрабіла правакацыю, дык я заяўляю, што маё асьведчаньне было пасьпешным і неабдуманым.

Сакратар пасьпяшыў запісаць гэтую заяву з нейкаю быццам палёгкаю. Хоць паводля найпрымітыўнейшых вымогаў справядлівасьці пасьля заявы Рыбкіна, уладыку Балеслава мусілі-б неадклана звольніць, яга аднак адвялі назад у камэру і зажадалі ўласнаручны жыцьцяпіс з усімі датамі. Гэтае жаданьне было здаволена, толькі дата хіратоніі была падана недакладная і гэта ўладыку моцна непакоіла.

Сядзець у адзіночнай камэры прыйшлося доўга. Каб заняць вольны час і падрыхтаваць сябе да ўсякіх магчымых неспадзеванкаў, уладыка Балеслаў пачаў рабіць 30-дзённыя рэкалекцыі і запісваць іх, бо ў камэры была папера і прылады да пісаньня. Праз юдашова вакенца вартаўнікі бачылі, як ўладыка штодня пісаў і думалі, што рыхтуе нейкую дэкларацыю, але не маглі разумець, чаму кожнага тыдня, калі камэндант турмы пытаўся ў уладыкі Балеслава:

— Ці маеце якія жалабы, або заявы? — артымоўваў адказ:

— Не, ня маю ніякіх.

Па чатырох тыднях нарэшце камандант страціў цярпеньне:

— Ці вы хутка перадасьце, абяцаную вамі дэкларацыю?

— Я зусім не абяцаў падаваць ніякае дэкларацыі, — адказаў уладыка.

— А што-ж вы пішаце?

— Мае малітвы.

Можна сабе ўявіць, якое гэта зрабіла ўражэньне на камэнданта; ён выбег з камэры з заціснутымі зубамі, а ўладыка далей пісаў свае малітвы і разважаньні. (Працяг будзе). **а. Л. Гарошка.**

# За хрысьціянскае сужыцьцё народаў

**(Заканчэньне).**

А цяпер у сьвятле гэтых агульных разважаньняў глянем на бліжэйшыя нам нацыянальныя справы. Жаданьнем беларускага народу было і ёсьць: поўная дзяржаўная незалежнасьць. Воля ўсяго беларускага народу выявілася ў гістарычным акце 25 сакавіка 1918 году, які абвяшчаў незалежную Беларускую Народую Рэспубліку. Нажаль маладая дзяржава, нікім вайскова не падтрыманая ў сваім змаганьні з бальшавіцкім імпэрыялізмам, была здушана, а беларускі народ падзялілі межы чужых дзяржаваў. Галоўная маса народу асталася ў межах Савецкага Саюзу, дзе хоць у страшэнна абкарнанай БССР да 1930 г. нацыянальнае жыцьцё магло разьвіцца сяк так памысна, а ў навуковым разьвіцьці нават магло мець уздым і прыцягвала многіх беларускіх навукоўцаў з Зах. Эўропы, а перадусім з Польшчы, адкуль беларуская інтэлігэнцыя, а галоўным чынам моладзь, уцякала перад безрабоцьцем, і дыскрымінацыйнай ды дэнацыяналізацыйнай палітыкай. Гэткая вельмі блізарукая палітыка польскага ўраду прычыніла аграмадныя шкоды абодвым народам, бо яна ўкладала ў рукі маскоўскіх дэмагогаў прапагандовыя аргументы, асабліва тады, калі яшчэ Масква прыкідвалася заступніцаю беларускага народу і беларускае культуры. У трыццатых гадох Масква радыкальна зьмяніла сваю нацыянальную палітыку і ў акцыі т. зв. «разгрому нацдэмаўшчыны» вынішчыла ў першую чаргу больш актыўную беларускую інтэлігэнцыю, а ўсьлед за ею пачала вынішчаць агулам беларускі народ масавымі дэпартацыямі на Сібір, растрэламі і да гэтага ўсяго распачала моцную русыфікацыйную акцыю.

Другая частка народу, каля 4,6 мільёнаў знайшлася ў межах Польшчы, якая нажаль ніколі ня спрыяла вызвольнаму руху беларускага народу, а пасьля маёвага перавароту 1926 г. зрабілася ліхою мачахай, узмацняючы з кожным годам прыгнёт беларускага народу, як непажаданае «нацыянальнае меншасьці». Шляхі польскае палітыкі адносна беларусаў вызначалі: аслаўлены канцэнтрацыйны лягэр у Картускай Бярозе, Сьвятакрыская і Лукіская турмы, заборона пачаткавага школьніцтва, закрыцьцё беларускіх гімназіяў, высяленьне сьведамага беларускага каталіцкага духавенства, палянізацыя Царквы, калянізацыя польскім асадніцтвам, увядзеньнем на Палесьсі для паняцьця народу афіцыяльнага назову «тутэйшы» і пад. Закід польскіх уладаў, што ў Зах. Беларусі на т. зв. Крэсах пашыраўся камунізм ня ёсьць ніякім апраўданьнем гнобленьня беларусаў, бо камунізм у няменшай ступені пашыраўся ў Варшаве, Лодзі і ў Пазнані, а да таго на «Крэсах» грунт для камуністычнае прапаганды стваралі ня хто іншы, як прадстаўнікі польскага ўраду.

Беларусы, украінцы і летувісы калісьці тварылі з палякамі Вунію Ягайлонаў і праз гэта маюць нямала супольных гістарычных традыцыяў, але ніякіх сымпатыяў да патомкаў даўных фэодалаў, якія мелі на «Крэсах Усходніх» агромныя маёнткі і ператваралі іх у польскія імпэрыялістычныя вогнішчы. Каб правесьці рэарганізацыю і адбудову Эўропы згодна з навукаю Хрыста і вытычнымі Сьвяцейшых Айцоў, перадусім трэба палагодзіць адносіны на ўсходнім абшары, дзе беларускі і украінскі народы займаюць вырашальную пазыцыю. Калі сёньня ўвесь сьвет змагаецца за ідэалы свабоды і справядлівасьці, дык ня можна іх адмаўляць 60 мільёнам людзей між Чорным і Балтыйскім морамі. Эўропа, супраць выснаўкаў многіх фэдэралістаў, не канчаецца на Лабе, ані на Одры, ані на Вісьле ці Дняпры! Калі магчыма гаварыць, што расейцы праз шматвяковую асыміляцыю з манголамі набралі шмат азіятцкіх рысаў, дык беларускі народ нічога падобнага ня мае. Ён быў адгароджаны ад усіх чужых уплываў і сёньня зьяўляецца найбольш чыстым прадстаўніком славян. Культура беларускага народу, нацыянальны характар і абычаі ёсьць такія-ж эўрапэйскія і хрысьціянскія, як кожнага іншага заходня-эўрапэйскага народу. Аб гэтым сьведчаць: літаратура, музыка, мастацтва, традыцыі і вызвольныя змаганьні беларускага народу.

Праз некалькі апошніх вякоў беларускі народ цярпеў нязвычайна многа; ён перанёс рознае гнобленьне, розную дэнацыяналізацыйную палітыку, гаспадарчую эксплёатацыю і фізычнае вынішчэньне — але міма ўсіх гэтых цярпеньняў, якія яшчэ і сёньня ня скончаны, ня згубіў свае жыцьцёвае сілы, не зьняверыўся; пры кожнай нагодзе паўставаў да барацьбы за сваю незалежнасьць, паказваючы ўсяму сьвету, што не зрачэцца свае мэты, пакуль яе не асягне. Такія паводзіны сьведчаць, што беларускі народ здольны і мае ўсе даныя да дзяржаўнага жыцьця ў рамках якога можа разьвівацца з карысьцю так для сябе самога, як і для агульналюдзкага дабра.

Сучаснасьць — гэта час розных аб'яднаньняў, час пошукаў новых формаў міжнароднага сужыцьця. Сьвет моцна скурчыўся і штораз больш узрастае узаемазалежнасьць народаў. Апошнім часам зьявіліся больш сьціслыя аб'еднаньні некаторых зах. эўрапэйскіх дзяржаваў у некаторых дзялянках жыцьця. Аднак нас непакоіць факт, што асноваю тых аб'еднаньняў і зьвязкоў ёсьць ня вы-

шэйшыя, духовыя, ідэйна-рэлігійныя вартасьці, але выключна вартасьці матэрыяльныя, паўстаючыя з калькуляцыяў тымчасовых гаспадарчых ці палітычных карысьцяў. Ідэя аб'еднанай Эўропы, запраектаваная так-жа на матэрыяльных калькуляцыях, будзе прыгавораная на няўдачу, калі яна не дацэніць духова-рэлігійных фактараў. Камунізм прапагуе сваю дактрыну, як якуюсьці рэлігію і таму ён такі небясьпечны. Яму неабходна супрацьставіць ідэалы навукі Хрыста, хрысьціянскую этыку і сьветагляд, хрысьціянскія эканамічна-сацыяльныя канцэпцыі. Да сёньняшняга дня гэта недацэнены адрэзак барацьбы вольнага сьвету з прылівам чырвонага бязбожжа. Неабходна аднавіць мэтады, удасканаліць сродкі, правесьці адпаведны адбор у контраргумэнтах.

Між рознымі формамі аб'еднаньняў часта можна пачуць аб фэдэрацыі ці то рэгіянальнай, ці ўсяе Эўропы. Для беларусаў гэтая ідэя ня новая. Аб фэдэрацыі пішацца, або прынамся ўспамінаецца пры розных нагодах на старонках эўрапэйскае прэсы і ўжо ня раз мела водгульле на старонках беларускае прэсы. Аднак палажэньне беларускага народу ёсьць спэцыфічнае, зусім адменнае ад іншых народаў Эўропы. Калі іншыя народы маюць сьвежыя традыцыі незалежнага дзяржаўнага жыцьця ў выказваюць нейкі посьпех у афармленьні новага твору ў сям'і народаў Эўропы, дык беларускі народ (як так-жа і украінскі), мае толькі сьвежыя традыцыі чужога прыгнобленьня, спрычыненыя неразважнасьцю (каб не назваць мацней) аднаго са сваіх калішніх партнэраў,якраз пражытае калісь фэдэрацыі; і мае яшчэ сьвежыя традыцыі ахвярнага змаганьня за сваю незалежнасьць. Згодна тады з прыродным людзкім правам і згодна з хрысьціянскай ідэалёгіяй, каб гэтыя народы маглі ўвайсьці ў якую небудзь новую фэдэрацыю з іншымі народамі, мусяць у першую чаргу атрымаць поўную дзяржаўную незалежнасьць, мусяць самі ў вольнай атмасфэры, бяз ніякага вонкавага націску, паклікаць свае ўрады і вытварыць дзяржаўны лад згодна з воляю большасьці. Толькі як незалежныя і роўнапраўныя арганізмы яны могуць плянаваць уваход у шырэйшыя зьвязкі народаў.

Аб'еднаная, згодная і багатая Эўропа зьяўляецца справай ня толькі ангельца, француза ці немца, але і беларуса, украінца, сэрба ці мадзяра. Калі адбудова сужыцьця народаў Эўропы будзе распачынацца ад ажыцьцяўленьня фундамантальных нязьнішчальных прынцыпаў навукі Хрыста, указаньняў Сьвяцейшых Айцоў і хрысьціянскіх філязофаў — тады можна спадзявацца, што Бог багаславіць гэтае пачынаньне. Калі-ж наадварот фэдэрацыя будзе плянавацца толькі як нейкае бліжэй не азначанае спалучэньне народаў, у якім дужэйшыя партнэры наперад ладзяць лавушкі для слабейшых, для поўнага іх паняволеньня, дык гэткія фэдэрацыйныя пляны нельга назваць інача, як крывадушным подступам.

Ёсьць пэўныя азнакі, якія могуць выклікаць некаторы аптымізм. Перадусім сьмелая і суровая крытыка гуляючага па сьвеце зла і паказваньне яго крыніц, прымушае адзінку задумацца над жыцьцём. Штораз глыбейшыя крытычныя адносіны да рачаіснасці могуць быць умовай адраджэньня грамадзтваў і культураў. Таксама дэмакратычны прагрэс дзяржаўных ладаў хавае ў себе адраджэнчыя зародкі. Эўропа яшчэ ня страціла жыцьцёвае сілы; у яе гарадох знайходзяцца аграмадныя інтэлектуальныя і прадукцыйныя рэзэрвы; дынамічныя рэлігійныя плыні — асабліва каталіцкія, адраджэньне мэтафізыкі, ахвярнасьць адзінак і народаў пры дапамогах у часе стыхійных няшчасных выпадкаў, усё гэта доказы, што людзі маюць вялікія матэрыяльныя і духовыя багацьці і яшчэ большыя магчымасьці.

Можна спадзявацца, што пражываньні падчас апошняе сусьветнае вайны адчыняць шматлікім вочы на вышэйныя вартасьці, а сьвет знойдзе свае загубленыя маральныя асновы, затрыумфуе культура духа над матэрыялістычнай цывілізацыяй. Гэта наступіць тады, калі традыцыйная і адроджаная хрысьціянская культура будзе рэгуляваць грамадзкае і палітычнае жыцьцё на асновах любові і справядлівасьці; калі ўсіх будзе абавязваць прынцып: чым большыя багацьці і сродкі, тым большы абавязак помачы бліжняму; калі будзе ўстаноўленая ўласьцівая ерархія вартасьцяў.

Ратунак чалавека знайходзіцца ва ўмаральненьні і адухаўленьні, якія вызваляць яго ад руйнацкіх і падсычанах нянавісьцю пагоняў да зманлівае лепшае будучыні. Сапраўдная лепшая будучыня можа быць толькі вынікам маральнага адраджэньня чалавека, бо ўсьлед за ім наступяць дабрадзейныя зьмены ў гаспадарчым, грамадзкім і палітычным жыцьці.

Чалавецтва апынулася на раздрарожжы, завісла над прорваю. Злыя сілы і прызёмныя гоны яшчэ ня выладаваліся... Небясьпека зьнішчэньня двухтысячагодніх дасягненьняў хрысьціянскае культуры яшчэ ня мінула, ані ня зьменшылася і гатовая ў любую хвіліну абрушыцца на зьбянтэжаны заходні сьвет.

Ёй трэба супрацьставіць ня толькі матэрыяльныя сілы ў вайсковым разуменьні, але таксама сілы ідэйныя: веру і сьветагляд, пляны і візію лепшага заўтра, візію справядлівай адроджанай Эўропы — Эўропы Хрыста, калі кожны змагар у кожнай галіне жыцьця будзе сьведамы, чаму і зашто ён змагаецца. Тады ў ніводнай галіне змаганьня з цёмнымі сіламі бязбожжа і тыраніі не забракуе адважных і ахвярных змагароў.

**Вітаўт Зьніч**

# Аб уплыве хрысціянства на беларускія абычаёвыя і пісаныя правы

Пры вывучэньні ўплыву хрысьціянства на беларускія абычаёвыя і пісаныя правы маюцца дзьве цяжкасьці: першая з іх, гэта амаль камплетня адсутнасьць арыгінальных інфармацыйных крыніцаў і другая, як вынік папярэдняе — гэта праблема мэтаду.

Крыніцы, якімі аўтар карыстаўся пры апрацоўцы гэтага рэфэрату, былі вельмі беднымі, аднастароннымі і, зразумелая рэч, не арыгінальнымі. Што да мэтаду, дык ён дастасоўваўся — як нармальна не павінна было-б быць — да інфармацыйнага матэрыялу, які было магчыма знайсьці.

З гледзішча на важнасьць тэмы будзе мэтазгодным распачаць яе ад паясьненьня агульных паняцьцяў аб праве.

**Што такое права, якая ягоная натура і адкуль яно ўзялося?** Нельга даць дэфініцыю права аднэй формулай у некалькі словах і таму неабходна паслугоўвацца апісовым спосабам. Каб аблягчыць гэты апіс, пачнём ад паняцьця справядлівасьці, таму што «права» і «справядлівасьць» ёсьць паняцьцямі ўзаемназалежнымі, якія знаходзяцца ў істотных саадносінах між сабою.

Дык што-ж такое справядлівасьць. Справядлівым называем таго, хто кожнаму дае ягонае, suum cuique, усім тое, што ёсьць іхняе і гэта ня ў тым ці іншым выпадку, але стала і заўсёды. Дзеля гэтага справядлівасьць прадстаўляецца нам як нязьменная дыспазыцыя волі кожнаму даць сваё. Ульпіяно (1) кажа, што «справядлівасьць — гэта заўсёдная і сталая воля аддаваць кожнаму ягонае права». Гэтую дэфініцыю прынялі амаль усе паважнейшыя юрысты, як перш ўсе прымалі дэфініцыю Арыстотэля, які казаў: «справядлівасьць — гэта цнота, пры помачы якое ўсе маюць тое, што ім належыцьь»

На пытаньне: што маем разумець праз «маё» і «ягонае» адкажам словамі св. Тамаша з Аквіну: «Праз ягонае ў адносінах да іншых разумеецца тое, што першаму ёсьць падпарадкавана, ці ўстаноўлена да ягонага ўжытку» (2), або як кажа Кант: «Маё.. ёсьць усё тое, з чым я знайходжуся так злучаны, што карыстаньне ім праз іншага, магло-б мне зашкодзіць» (3).

Цытаваныя вышэй азначэньні справядлівасьці адносяцца ў першую чаргу і спэцыяльна да грамадзкіх індывідуальных суадносінаў, якія называюцца раўняючаю, або раўнуючаю справядлівасьцю, і якая мае на ўвеце, каб кожны сябра грамады аддаваў іншым тое, што ім належыцца. Але-ж кожная адзінка ўвайходзіць у склад больш дасканалае формы сацыяльнага сужыцця — у склад дзяржавы. І ў адносінах яе да грамадзтва і наадварот ёсьць зноў два роды справядлівасьці: справядлівасьць легальная і справядлівасьць распадзельчая. Першая рэгулюе паводзіны адзінак у адносінах да цэласьці; другая кіруе паводзінамі цэласьці грамадзтва і ягоных кіруючых органаў у адносінах да паасобных сяброў грамадзтва.

Ад цноты справядлівасьці можна перайсьці да яе мэты. Справядлівасьць дае кожнаму ягонае права і таму, у першую чаргу, «права» абазначае тое, што камусьці належыцца, як выключна ягонае і што ўсе павінны ўважаць за такое дзеля справядлівасьці. З другога боку яно абазначае юрыдычны закон — права ў сэнсе аб'ектыўным, — што яго легальна мае кожны адносна якоесьці рэчы, прадмету, ці свае працы. Гэтыя тры роды права розьняцца між сабою і ня могуць быць унятыя ў адну адзіную формулу; яны супольна твораць сыстэму, у якой адзін элемэнт апіраецца на другім, або яго папаўняе такім чынам, што немагчыма выкінуць ніводнага з іх, каб ня зьнішчыць цэласьці (4).

**Якая-ж ёсьць мэта права?** Бяручы права ў сэнсе суб'ектыўным, як здольнасьць ці юрыдычную ўладу разрозьніваецца тры роды правоў, а тым самым і тры мэты: а) Права, што належыць да раўняючай справядлівасьці мае за мэту свабоду і незалежнасьць паасобных грамадзян між сабою ўва ўсім тым, што яны могаць называць сваім уласным; гарантуе чалавеку вольную дыспазыцыю свае ўласнасьці. б) Мэтай права, якое належыцца лягяльнай справядлівасьці ёсьць гваранцыя што да захаваньня і поступу грамадзтва. Тут разумеецца грамадзтва ў форме больш дасканалай, уключаючы дзяржаву і паводля каталіцкае дактрыны таксама і Царкву. в) Права распадзельчай справядлівасьці мае за мэту бараніць дабро паасобных адзінак перад усім грамадзтвам.

Юрыдычная норма ці закон — права ў сэнсе аб'ектыўным — мае за мэту прадсказаны лад аб'ектыўных правоў. Устанаўляе, што кожнаму ў грамадзтве належыць як ягонае, і гэта так адносна цэласьці, як адносна кожнага паасобку.

**Адкуль узялося і адкуль выходзіць права?** Тут маецца на ўвеце аб'ектыўнае права, таму што суб'ектыўнае ня ёсьць фізычнаю сілай, а прадастаўляе сабою здольнасьць ці легальную

1. Рымскі юрыст жыў у 170-228 г.

2. Dicitur esse suum alicujus, quod ipsum ordinatur (Summa Theolog.).

3. Hartenstein, Metaphysik der Sitten, V, 17.

4. Cathrein Victor, Filosofia del Derecho (Madrid 1940) s. 70.

ўладу, якую іншым змушаныя прызнаць, і гэткая ўлада павінна выходзіць ад нейкага закону, ці юрыдычнае нормы. На пытаньне: адкуль бяруцца суб'ектыўныя правы, адкажам, што ад юрыдычных нормаў і законаў, якія забабязваюць усіх, кожнаму даць сваё; але цяпер паўстае іншае пытаньне: адкуль бяруцца юрыдычныя нормы і законы?

Ёсьць бясспрэчным, што шмат законаў і нормаў выходзіць беспасрэдна ад дзяржавы і ейных кіруючых органаў, ад якіх атрымоўваюць адначасна забавязуючую сілу. Таму законадаўчая дзяржаўная ўлада зьяўляецца крыніцай права. Але ці гэтая крыніца ёсьць адзінай? Шматлікія так цьвердзяць.

Для матэрыялістаў і пантэістаў права абазначае выключна сілу і фізычную ўладу, дзеля гэтага кажуць, што дзяржава са сваімі сродкамі сілы і перавагі зьяўляецца адзінай і апошняй крыніцай права (5). Зразумелая рэч, што падобнае цьверджаньне ёсьць не да прыняцьця, бо выводзячы права выключна ад дзяржавы, нэгуецца яму ўсякі юрыдычны фундамант і зводзіцца да чыстых суадносінаў сілы. Калі права ёсьць прадуктам толькі дзяржавы, значыць дзяржава паўстала раней чым права, а гэтак цьвярдзіць, гэта тое саме, што казаць, быццам раней вырасьлі плады, а пасьля дрэвы.

Далей-жа, уважаючы дзяржаўныя законы, як адзіную крыніцу права, мусілі-б прызнаць за сапраўдны закон нават найбольш недарэчны і неразумны, калі-б такі быў выданы дзяржаваю і ніхто ня мог-бы наракаць на несправядлівасьць. Дзяржава ня можа быць адзінай крыніцай права, бо яна ўжо сама атрымала сваё існаваньне ад раней існуючага праўнага ладу. Тут аднак зноў паўстае пытаньне: які гэта быў праўны лад і адкуль ён узяўся?

Гістарычная Школа Права кажа, што ад абычаёвага права, якое ў сваю чаргу фармуецца на базе агульнага народнага перакананьня. Гэтая Школа аднак нэгуе існаваньне унівэрсальных, натуральных юрыдычных прынцыпаў і цьвердзіць, што як дзяржава гэтак сама і права зьяўляюцца прадуктам гістарычнае эвалюцыі, рознае ў паасобных народаў ў залежнасьці ад розьніцаў эвалюцыйнага працэсу. Не пярэчыць, праўда, што ў правох розных краінаў маецца штосьці супольнага і сталага. Прызнае некаторыя маральныя, унівэрсальныя прынцыпы і некаторыя унівэрсальныя юрыдычныя ідэі, якія служаць фундамантам для эвалюцыі права, але ня гледзячы на гэта, на думку староньнікаў Гістарычнае Школы, гэтыя асноўныя ідэі і прынцыпы ня ёсьць правам як такім.

Лёгка можна бачыць, што Гістарычная Школа выходзіць з фальшывага разуменьня гэтак званае агульнае праўнае сьведамасьці. Зразумелая рэч, што ў людзей ёсьць гэтая агульная сьведамасьць права, але яна ня толькі што не зьяўляецца адзінай крыніцай права, але ёсьць ужо сапраўдным і ўласьцівым правам. Прадстаўляе сабою унівэрсальныя юрыдычныя прынцыпы, якія мімаволі фармуюцца ў кожнага чалавека і паводля якіх ён судзіць аб тым, што ёсьць добрае, а што дрэннае. «Натуральная сьведамасьць права ня ёсьць эфэктам звычаю, ці паступовага перакананьня, але наадварот, яна ёсьць прычынаю гэтае агульнае сьведамасьці. Каб ведаць, што забойства, здрада і пад, зьяўляюцца супярэчнымі праву, не патрабуецца ніякіх звычаяў і ніякіх старых традыцыяў» — кажа Катрайн (6).

Гэтак сама і юрыдычны пазытывізм, які ўважае, што права зьяўляецца чыста фармальным, апрыёрыстычным прадуктам нашага розуму, ня ёсьць у стане стварыць нейкае філязофіі права. Каб ня ўпасьці ў натуральнае права, ён шукае выхаду ў апрыёрызьме Канта, а тым самым выказвае неправідловасьць гэтае дактрыны (7).

Наагул з вышэй сказанага можна бачыць, што без натуральнага права нельга ўстанавіць, якая ёсьць сапраўдная першапачатковая крыніца права. Затрымаемся крыху над ім.

Старадаўныя ўсходнія народы ўважалі, што абавязак справядлівасьці ёсьць боскага паходжаньня і за ягонае выкананьне лічылі сябе адказнымі на апошнім судзе (8).

Грэкі ўважалі права боскім дарам, вечным боскім законам; прынцыпам, які дае багом тое, што ёсьць іхняе, а людзям — што ім належыць. За выкананьне гэтага закону, багі мелі сурова наглядаць, апякуючыся і ўзнагароджваючы справядлівых, як сваіх сяброў, і прасьледуючы ды караючы ўсіх тых, хто пераступаў закон. Чалавек праз свой розум узгельнічае і карыстае з гэтага закону, якога ня можа ануляваць ніякі людзкі закон. Гэткая была канцэпцыя Гомэра і Гэзыёда — паэтаў з IX і VIII ст. перад Хрыстом(9).

Арыстотэль разрозьнівае дзьве групы дзяржаўнага права: адно, якое выходзіць з пазытыў-

---

5. Ужо Аркелеус (грэцкі філязоф з У. ст. пер. Хр.) вучыў, што розьніца паміж правам і бяспраўем ня выходзіць з натуры рэчаў, але выключна з пазытыўных паняцьцяў.

6. Cathrein V. op. c. st. 144.

7. Галоўнымі прадстаўнікамі гэтага кірунку зьяўляюцца: Рудольф Стаммлер і Рышард Ленінг.

8. Аб гэтым сьведчаць: Кодэкс Гамурабяга, егіпецкія «Кнігі памёршых», а таксама і «Кнігі прыказак» з Старога Запавету.

9. «Сатурн даў законы толькі людзям, а рыбы, зьвяры ў лесе і нябесныя птушкі жывуць ва ўзаемным лупяжы, бо ня маюць права» (Cathrein V. op. c. st. 164).

ных законаў і другое, што выходзіць з натуры і якое аднолькава важнае для ўсіх народаў, незалежна ад поглядаў людзей (10).

Гэтак сама і ў рымлянаў было ведамае натуральнае права. Цыцэрон быў моцна пераканаены, што існуе унівэрсальна важны натуральны закон, пачаткам якога ёсьць рацыянальная воля багоў, якія гэтым самым удзельнічаюць у долі людзкасьці, загадваючы ёй дабро і забараняючы зло. Гэты закон ведамы ўсім людзям і ёсьць вышэйшым за іхныя пастановы і дэкляацыі; ніякі сэнат, ніякі народ ня можа нас яго пазбавіць, а хто яго пераступае, ня можа ўнікнуць кары нават тады, калі яму ўдасца ўцячы ад земскае справядлівасьці.

І гэтак рымляне мелі ў сваім праве адну частку спэцыяльную і другую агульную для ўсіх людзей (11).

Сьв. Аўгустын кажа, што: «няма такое душы, якая-б мела магчымасьць разважаць, але ў якое-б сумленьні не адзываўся голас Бога, бо хто-ж калі ня Бог выпісваў у людзкіх сэрцах натуральны закон» (12).

Сярэднявечныя кананісты і юрысты кажуць, што натуральнае права ёсьць правам супольным для ўсіх нацыяў, важнае ня ў сілу пазытыўнае дэкляацыі, але інстынктыўна, дзякуючы самой натуры (13).

У зборніку старых нямецкіх правоў «Сахсэншпігэль» гаварылася: «Права бярэ свой пачатак або ў звычаёвых правах, або ў натуры. І натуральнае права называецца таксама правам божым, паколькі Бог даў яго ўсяму стварэнью» (14).

Блякстон, найбольшы аўтарытэт між ангельскіх юрыстаў гэтак гаворыць аб натуральным праве: «Паколькі натуральнае права ёсьць так старым, як самое людзтва і было ўстаноўлена самым Богам — мае гэтак сама натуральную абавязуючую сілу, вышэйшую ад усякага іншага права. Абавязкавае ўва ўсіх кутках зямлі, ува ўсіх краінах і ўва ўсіх часох. Усякі людзкі закон нічога ня значыць, калі супярэчыць яму, і наагул усе законы, якія толькі маюць нейкую вагу, бяруць сваю сілу і аўтарытэт пасрэдна, ці непасрэдна ад гэтага прататыпу» (15).

У адказ тым, што цьвердзяць быццам права ёсьць выключна прадуктам розуму і гістарычнае эвалюцыі вельмі трапна адказвае Катрайн: «Права ёсьць старэйшае ад усіх юрыстаў і філязофаў; і ні адны ні другія яго ствары лі, а наадварот» (16).

Разам з Францішкам Суарэзам натуральнае права можна здэфініяваць, як «суцэльнасьць унівэрсальных прынцыпаў, абсалютных і нязьменных, якія індывідуалізуюцца і канкрэтызуюцца ў іншыя нормы і законы, выведзеныя спосабам канклюзіі і ўстаноўленьня дзеля рэгуляцыі розных суадносінаў і сытуацыяў у сацыяльным сужыцьці людзтва» (17). Гэтая дэфініцыя сьцьвярджае слушнасьць цьверджаньня Цыцэрона, што ўсе абычаі, усе дзяржаўныя законы і юрыдычныя нормы паўстаюць і разьвіваюцца на аснове натуральнага права (18).

Прыгожа дэфініюе натуральнае права Трoплёнг, кажучы, што яно «ёсьць зборам касмапалітычных ідэяў, творачых супольную спадчуну людзтва; ня пісаных, але ўроджаных, якія Бог выпісаў у нашых сэрцах так глыбокімі знакамі, што пераживаюць усялякія зьмены, якія праз незнаньне могуць зьняправіаць чалавека» (19).

Якія-ж ёсьць суадносіны між пазытыўным законам і натуральным правам? Пазытыўны закон канкрэтызуе і дзейна азначае натуральныя законы згодна з абставінамі часу і мейсца. Выводзіцца з натуральнага права спосабам канклюзіі, што выясьняецца наказам натуральных законаў і спосабам устанаўленьня, што канкрэтызуе ўсё тое, што натуральны закон пакінуў неакрэсьленым. З гэтых двох родаў законаў першы прадстаўляе сабою патрэбныя вывады з вымогаў і наказаў нашага розуму, якія ясныя самі ў сабе, напр., забарона красьці, забіваць і пад. Другая частка пазытыўных правоў, шмат большая чым папярэдняя, ня мае патрэбных канклюзіяў натуральнага маральнага закону, але заначэньні блізкія да яго. Учынкі загаданыя або забароненыя гэткімі зако-

---

10. У Рэторыцы цытуецца прыклад з Софоклавай Антыґоны, дзе ня гледзячы на забарону Крэона, уважаецца за абавязак перад натуральным правам пахаваць брата. І гэты род законаў ёсьць вечна важны; ніхто ня знае іхняга пачатку, ані ня можа нас іх пазбавіць, бо яны зьяўляюцца хоць і «няпісанымі, але нязьменнымі правамі багоў» (Rhetor. I, c. 13, 137, s. 2. Cathrein Victor, op. cit. st. 166) :

11. Ius autem civile et gentium ita dividitur: omnes populi, qui legibus et moribus reguntur, partim suo proprio, partim comunali omnium hominum iure utuntur. (K.1.I. 1,2).

12. Nulla anima est, quae ratiocinari possit, in cuius conscientia non loquatur Deus. Quis enim legem naturalem in cordibus hominum scribit, nisi Deus. (K. 2 de Sermone Dom. in monte).

13. Ius naturale est ius commune omnium nationum eo quod ubique instinctu naturae, non constitutione aliqua habetur (Isidoro de Sevilla).

14. Кніга нямецкіх правоў сярэднявечча, зрэдагаваў Айкэ фон Рэпгов (1198-1235).

15. Commentaires on the Laws of England, I. Oxford 1773, 41; Cathrein V. op. c. st. 190, 191.

16. Cathrein V. op. cit. st. 39.

17. E. Luno Pena: Derecho Natural (Barcelona 1950) st. 48.

18. Гэтак казаў ужо Цыцэрон: «Iustitiae initium est ab ipsa natura. Deinde quaedam in consuetudinem ex utilitatis ratione venerunt. Postea res et a natura profectas et a consuetudine probatas legum metus et religio sanxit» (De invent. 3, 55).

19. M. M. Troplong, De la influencia del Cristianismo en el Derecho Civil de los Romanos (Madrid 1851) st. 13.

намі ня ёсьць самі ў сабе справядлівымі, або несправядлівымі, але праз устанаўленьне законам, напр., утрата права прыватнае ўласнасьці пасьля некаторага часу (20).

Цяпер яшчэ колькі слоў аб абычаёвым праве. Абычаем называецца «норма створаная і накіненая практыкай сацыяльнага сужыцьця» (21). Гэтая абычаёвая норма асягае юрыдычную важнасьць — робіцца абычаёвым правам — з мамэнтам, калі яе пачынаюць рэспэктаваць кіруючыя органы данага грамадзтва (22).

Пісаным правам, у аб'ектыўным сэнсе, называюцца абавязуючыя пісаныя нормы, якія ўстанаўляюцца ў грамадзтве дзеля рэгуляцыі паводзінаў і суадносінаў.

Асноўваючыся на папярэдніх разважаньнях можна зрабіць высновак і сьцьвердзіць, што нашыя продкі ад векоў трымаліся натуральных законаў, на базе якіх яны вытваралі потым у залежнасьці ад вымогаў, абставінаў мейсца і часу свае ўласныя абычаі і законы. З гэтага гледзішча ўсе народы паводзяцца аднолькава. Апостал Павал кажа, што «пагане, ня маючы закону, па прыродзе робяць законнае... яны паказваюць дзела закону, напісанае ў іх сэрцах...» і паводля яго будуць суджаныя ў дзень узнагароды (23).

Агульна ведама, што кожнае славянскае племя мела свае асаблівыя звычаі і свае норавы (24), але вельмі мала ведама аб тых асаблівасьцях.

Хаця агульна прызнаецца, што жыцьцё старадаўных славянскіх сем'яў азначалася спакоем і лагоднасьцю, ня было яно аднак пазбаўленае і дзікіх практыкаў. У балтыцкіх славянаў, а гэтым самым і ў нашых люцічаў, існаваў звычай забіваньня дзяцей; маткі душылі нованароджаных слабога полу, тады калі яны іх ужо мелі больш і гэта нібы дзеля таго, каб маткі лепш апекавацца іншымі (25). Нідэрле, успамінаючы аб гэтым зьявішчы, ня ведае як яго тлумачыць і прыпускае, што яно было выклікана прычынамі характару эканамічнага і сацыяльнага; магчыма была надвыжка жанчын, бо мужчыны ў тыя часы ў вялікай колькасьці гінулі ў безнастанных войнах.

Няма сумніву, што ў перадгістарычных часох звычаі нашых продкаў былі даволі грубыя, але цяжка згадзіцца з праф. Надэрле, што старыя славяне жылі ў поўным бязладзьдзі і памяшаньні полаў і толькі пад канец паганскага пэрыяду плоцявае жыцьцё было ўжо абмежаванае да аб'еднаньня мужчыны з адною ці некалькімі жанчынамі (26), бо ёсьць сьведчаньні аб'ектыўных сьведкаў, якія даюць іншы абраз жыцьця нашых прашчураў.

Праўда летапісы адносна матрыманіяльнага права некаторых плямёньняў даюць непахвальную характэрыстыку: «Радзімічы, вяцічы і северане... жылі ў лесе, падобна да зьвяроў, елі ўсё нячыстае... і ня было ў іх жаніміцтваў, а толькі мелі мейсца гульні між пасёлкамі. Яны сходзіліся на гэныя гульні, на танцы і на д'ябальскія песьні і там хапалі сабе жонак, з катораю хто перш згаварыўся; яны мелі па дзьве і па тры жонкі» (27). У сапраўднасьці аднак гэта толькі асуджэньня паганскага звычаю жанімства, якое адбывалася пры купальскіх кастрох, з гэтаю мэтаю і сходзілася туды моладзь, каб даканаць фармальны акт шлюбу паводля тагачасных звычаяў. Але пэўна-ж абрад хапаньня жонкі мусіў мець старэйшую традыцыю і таму праф. Кадлец цьвердзіць, што хапаньне жонкі было першаю і найстарэйшаю формай жанімства (28). Потым яна была забаронена і каралася ўсіх, хто браў жонку сілаю. Пазьнейшая форма сужэнства, паводля Кадлеца, заключалася ў куплі, або ў прадажы дзяўчыны; уканцы паганскага пэрыяду жанімства характэрна было тым, што дзяўчына мусіла мець пасаг.

Што да разводаў у нашых продкаў, дык цяжка аб гэтым сказаць штосьці канкрэтнае. Праўдападобна, што яны былі ведамыя, але агулам сямейнае жыцьцё старавечных славянаў характэрызавалася нявіннасьцю і вернасьцю жанчыны. Нідэрле цытуе аднаго арабскага гісторы-

---

20. Натуральнае права не зьяўляецца звычайным сурагатам пазытыўнага права, прызначанае выпаўняць пустыя мейсцы, якія ў гэтым апошнім існуюць, ці каб ісьці ў дапамогу там, дзе пазытыўнае права маўчыць, але ёсьць больш-менш базай і фундамантам пазытыўнага права, на якое гэтае апіраецца і з якога стала выводзіцца, ці то праз агульныя звычаі, ці яўную волю законадаўца. Пазытыўныя законы, якія зьяўляюцца канклюзіямі з натуральнага права, ёсьць звычайна першымі і тымі самымі ўва ўсіх народаў; і наадварот, многія пазытыўныя законы, якія маюць акрэсьленьні блізкія да натуральнага права і залежаць ад вольнае волі законадаўца, зьмяняюцца залежна ад народаў і часоў.

21. **F. de Castro y Bravo, Derecho Civil de Espana, t. I. Parte General, Valladolid. st. 304.**

22. **F. de Castro y Bravo, op. c. st. 316.** Варта яшчэ зазначыць, што крыніцай звычаяў ёсьць ня толькі натуральнае права непасрэдна, але часам некаторыя пазытыўныя законы, якія існавалі даўжэйшы час і якія пасьля легальна ўневажняюцца, ня зьнікаюць бясьсьледна, а пераходзяць у звычаі.

23. Рым. 2, 14-16.

24. «Повесть временных лет по Лавренийской летописи». Часть I. (Москва 1950), ст. 14.

25. **Hebert. II, 18, 33.: Si plures filias aliqua genuisset ut ceteris facilius providerent aliquas ex eis ingulabant (Niederle. L., Manuel de l'antiquité slave (Paris 1926) t. II, s. 10).** Гэты звычай быў асабліва пашыраны сярод гэрманскіх народаў і балтаў. Маюцца весткі аб інтэрвэнцыі біскупа Отто фон Бамбэрг (1124 г.).

26. **Niederle op. c. st. 13.**

27. «Повесть временных лет по Лаврентийской летописи». Часть I. (Москва 1950), ст. 15.

28. **Karel Kadlec, Wstep do Historji prawa slowian. Encyklopedya Polska (Krakow 1912) t. IV, s. 104.**

ка з X ст. (29), які кажа, што чужаложства сярод славянаў не практыкавалася (30). Іншыя зноў (31) захапляюцца чыстасьцю славянскае жанчыны і кажуць, што яна сягала па-над усе людзкія магчымасьці (32). Вернасьць і любоў былі ў славянскае жанчыны сталай і нязьменнай якасьцю; а гэта сьведчыць аб высокім маральным узроўні і высокай ступені культуры.

Бязумоўна аднак, што з гэтага былі выняткі, ня гледзячы на вельмі суровыя кары; за чужаложства звычайна каралася сьмерцю. У пачатку хрысьціянскае пары нячыстасьць і чужаложства ўспамінаюцца, як трахі вельмі пашыраныя (Нідэрле, там-жа с. 20).

Выглядае, што моладзь не падлягала такім строгім карам за вольнае жыцьцё (33). Дайшлі так-жа да нашых дзён некаторыя казаньні з першых часоў хрысьціянства на нашых землях, у якіх відаць высілкі духавенства адвучыць моладзь ад розных «шатанскіх і д'ябальскіх гульняў», але ня выключана, што гэта ёсьць простым паўтарэньнем казаньня сьв. Івана Златавуснага аб немаральных бізантыйскіх звычаях, супраць якіх ён выступаў вельмі востра: «Жанчына, якая гуляе, ёсьць каханкай сатаны і жонкай д'ябла» (34).

Паводля сьведчаньня Масуді (35) славянскія дзяўчаты мелі быць зусім вольных звычаяў, але выйшаўшы замуж ставаліся вернымі свайму мужу, цяжка аднак паверыць, каб магла наступіць такая раптоўная зьмена на лепшае, хутчэй трэба думаць, што і моладзь азначалася чыстым жыцьцём.

Гвалт быў сурова караны старымі славянскімі звычаямі і больш сурова тады, калі ён стаўся ўдома, чым тады, калі стаўся ў полі, ці падчас сьвяткаваньня, бо «дзяўчына не абавязкава мусіла туды «йсьці» (36).

У сям'і нашых продкаў ня было роўнасьці правоў. Паўнапраўным сябрам роду быў толькі мужчына і суадносіны між ім і жанчынай былі такія, як між князем і падданымі. За зламаньне сужэнскае вернасьці муж ня меў ніякіх караў, а жанчына каралася сьмерцю. Былі гэтак сама часы, калі жонка па сьмерці мужа палілася на кастры разам з трупам мужа і ягонымі нявольнікамі; праўда яны часам кідалася ў касьцёр дабравольна з тагачасных рэлігійных перакананьняў, каб быць разам з мужам у загробным жыцьці.

Было-б памылкай уважаць, што жанчына была нявольніцай у сям'і і ў старым грамадзтве. Ёсьць дадзеныя, як кажа Нідэрле, якія паказваюць, што роля жанчыны ня зводзілася толькі да дагляду хаты, але што яна таксама ўдзельнічала ў грамадзка-палітычным жыцьці.

За жыцьця мужа жанчына не карысталася правам прыватнае ўласнасьці, але пасьля ягонае сьмерці, калі ён меў якіясь рэчы, то яны пераходзілі жонцы як спадчына. Да яе гэтак сама пераходзіў абавязак апекі над малалетнімі дзяцьмі і адміністрацыя ўсяе маемасьці (37). Удовы карысталіся агульнай пашанай.

Суадносіны між бацькам і дзяцьмі ня шмат розьніліся ад адносінаў між гаспадаром і нявольнікамі (рабамі) Гэта сьледна нават і ў этымалёгіі слова «раб», якім азначалася калісь таго, хто ня ўмее гаварыць і адносілася да дзіцяці і да чужынца, а нявольнікамі ў нас былі першапачатна толькі чужынцы (38).

Назовам «сям'я» ахопліваліся калісь усе асобы, якія знайходзіліся ў хаце пад уладай гаспадара, гэта значыць: жонка, дзеці і нявольнікі. Бацька мог караць сваіх дзяцей уключна да кары сьмерці. Праф. Кадлец успамінае аб выпадках на Русі, дзе дзеці прадаваліся ў нявольнікі. Трэба аднак заўважыць, што гэтыя бацькаўскія правы былі адменныя ад «бацькаўскае ўлады» ў рымскім праве, дзе бацька меў абсалютную ўладу адносна ўсіх у сваёй сям'і, распараджаючыся імі як звычайнымі прадметамі. Тут дарослыя сыны дзейна ўдзельнічалі ў карыстаньні і гаспадараваньні супольнае сямейнае маемасьці (39).

Да часу пакуль сем'і не дзяліліся, жывучы разам і творачы цэлы род, праблема апекі над малалетнімі, як такая, не існавала, бо гэты абавязак належаў да ўсяго роду, але з часам, калі роды пачалі дзяліцца на паасобныя сем'і, паўстала неабходнасьць унармаваньня справы апекі і гэты абавязак пераймоў да ўдавы, або выбіралася адна асоба з найбліжэйшае радні (40).

Родавая форма сямейнага сужыцьця не дазваляла на паўстаньне спадковага права, бо сям'я як юрыдычная адзінка ня ўмірала, але з мамантам, калі роды пачалі распадацца, зьявілася неабходнасьць унармаваньня права прыватнае ўласнасьці, спачатку выключна аднасна рухомае маемасьці, якая ў практыцы пераходзіла да найбліжэйшае радні. Воля нябожчыка пры падзеле ягонае маемасьці заўсёды бралася пад увагу. Нярухомая маемасьць, потым, дзялілася паміж сынамі (41)

Што да нявольніцтва, дык спачатку пакуль нашы продкі жылі родавым ладам дык мелі нявольнікаў толькі чужынцоў, якія здабываліся ў вой-

29. Niederle, op. c. st. 19.
30. Масуді, Абул-Гафан Алі † 956.
31. Маўрікій Лявон.
32. Калі верыць Нідэрле, дык гэта мела-б адносіцца толькі да замужных жанчын.
33. Niederle, op. c. st. 20.
34. Niederle, op. c. st. 21.
35. Al-Bekri, st. 56; Niederle, op. c. st. 22.
36. Niederle, op. c. st. 22.
37. Kadlec, op. c. st. 104.
38. Niederle, op. c. st. 244-245.
39. Kadlec, op. c. st. 106.
40. Kadlec, op. c. st. 106.
41. Kadlec, op. c. st. 108.

нах, або купляліся на рынках. Нявольнікі маймяйсцовага паходжаньня зьявіліся толькі пасьля ўпадку родавага ладу і з часам іхняя колькасьць была так вялікая, што імі былі завалены тагачасныя рынкі. З гэтае прычыны быў нават вытварыўся пагляд, што слова «славянін» сталася сынанамам слова «нявольнік» для заходняэўрапэйскіх моваў (slave, slaef, esclave, slave, schiavo, esclavo, escravo), Аднак Нідэрле зусім слушна заўважвае, што ня слова «славяне» выводзіць свой пачатак ад слова абазначаючага рабства, але наадварот, слова «рабства» выводзіць пачатак ад этнічнага назову (42).

Адносна права маемасьці, дык як ужо ўспаміналася перш, да часу існаваньня родаў уся нярухомая маемасьць была калектыўнаю ўласнасьцю роду, але ўжо і ў той далёкі час існавалі зародкі прыватнае ўласнасьці адносна рухомае маемасьці. Ведама, што вопратка, зброя і прадметы першае патрэбы, якімі чалавек карыстаўся заўсёды, уважаў іх выключна сваімі. Уканцы паганскага пэрыяду ўжо мела мейсца выразная індывідуалізацыя маемасьці наагул, а зямельнае ў асаблівасьці (43).

Карнае права спачатку выконвалася кіраўнікамі родаў. Крывавыя парахункі між сем'ямі ўважаліся справамі родаў і толькі з мамэнтам паяўленьня дзяржаўнае арганізацыі дзяржаўная адміністрацыя пераняла на сябе абавязак абароны грамадзянства перад парушэньнем справядлівасьці

Прынцып «вока за вока і зуб за зуб» існаваў калісь усюды, але ў славян ён быў асабліва пашыраным. З часам аднак помста прыняла менш вострыя формы і за некаторыя злочыны вымагалася ад вінаватых матэрыяльная рэкомпэнсата. Гэтая сыстэма была ведамая славянам ўжо ў X ст. (44), але прайшло шмат часу, пакуль яна змагла паўсюдна ўспрыняцца.

42. Niederle, op. c. st. 244-245.
43. Niederle, op. c. st. 163.
44. Глядзі «Русская правда».
45. Kadlec, op. c. st. 128-132.

Між шматлікіх звычаяў ёсьць адзін характэрны, які быў пашыраны маж усіх славянаў, гэта салідарнасьць супольнасьці (роду, сям'і) ў выпадку, калі здарыцца якоесьці праступства. За праступства сямейніка адказвала ўся сям'я, род, або і большая сацыяльная адзінка. Яны мусілі злаваць і выявіць вінаватага, а калі адмаўляліся гэта зрабіць, хоць было ведама, што вінаваты хаваецца ў іх, тады гэтая сям'я або род былі змушаныя направіць шкоду прычыненую тым вінаватым, заплаціць за яе.

Уканцы колькі слоў аб судовай арганізацыі таго пэрыяду.

У найбольш старых часох судзьдзямі былі галовы родаў, або пляменьняў. Іхныя прысуды вытваралі свайго роду карны кодэкс. Супярэчнасьці між родамі спачатку ня мелі арбітраў і справы вырашаліся сілаю Калі зьявілася вышэйшая грамадзкая арганізацыя зьявіліся і арбітры ў спрэчках родаў.

У больш агульных і больш важных справах часта практыкаваліся адкрытыя дыскусіі, у якіх устанаўлялася, хто вінаваты і прысуджвалася адпаведная кара. Гэта былі свайго роду калектыўныя суды, дзе пераважалі людзі старэйшыя і найбольш паважныя. Гэта быў пачатак трыбуналаў, дзе судзьдзямі былі людзі, ведаючыя судовыя традыцыі. Сапраўдныя трыбуналы зьявіліся толькі з мамэнтам утварэньня княстваў з князёўскімі трыбуналамі. Аднак і тады незалежна ад тых трыбуналаў часам некаторыя большыя грамадзкія супольнасьці выбіралі «добрых людзей» для выконваньня ролі судзьдзяў (45).

Гэтак у агульных рысах меў-бы выглядаць юрыдычны аспэкт у жыцьці нашых продкаў таго пэрыяду, калі яно было ў іх найбольш натуральным. Разам з гэтымі агульнымі звычаямі, яны ў кожным племені мелі свае звычаі, законы сваіх бацькоў і свае асобныя традыцыі, якімі кіраваліся ад вякоў, але яны яшчэ чакаюць сваіх дасьледнікаў.

**Я. Сурвіла.**

(Заканчэньне ў наст. нумары)

# Пляны сучаснае савецкае рэлігійнае палітыкі

Ад часу аднаўленьня Маскоўскага Патрыярхату ў 1942 г. шмат пісалася ў прэсе ўсіх народаў, а яшчэ больш гаварылася аб паважнай зьмене ў адносінах бальшавікоў да рэлігіі. За гэты час было выказана шмат розных дагадкаў адносна будучыні рэлігіі ў СССР і дагадкі былі вельмі разьбежныя. Паўтараць іх няма патрэбы, але варта прыглянуцца да падзеяў рэлігійнага характару, якія там сталіся ад 1942 г. да сёньня, каб зразумець сапраўдны сэнс бальшавіцкае рэлігійнае палітыкі і зрабіць з гэтага адпаведныя высноўкі.

З асьведчаньняў цэнтральнага кіраўніцтва камуністычнае партыі і з камуністычнае прэсы ведама, што бальшавікі ніколі не зракаліся і не зракаюцца варожых адносінаў да рэлігіі. Калі яны ў 1942 г. разьвязалі Саюз ваюючых бязбожнікаў, ачольваны Яраслаўскім-Губельманам і спынілі выхад бязбожных часапісаў, дык гэта было выклікана выключна тагачасным крытычным становішчам бальшавікоў і выяўленьнем поўнага правалу дагэтулешняе дзейнасьці тае арганізацыі, бо як толькі вайна пахіснула савецкую ўладу, дык ад

Саюзу ваюючых бязбожнікаў не асталося нічога(1). Ягонае закрыцьцё было толькі пустым актам для замыльваньня вачэй аліянтаў.

Але ад таго часу бальшавікі мусілі шукаць іншага мэтаду для барацьбы з рэлігіяй. Калі перш найбольшы націск клаўся на бязбожную прапаганду і толькі часткава на ўнутраны расклад рэлігійных арганізмаў, дык цяпер наадварот: бязбожная прапаганда на нейкі час была зусім спынена. Аднавілася яна ў 1947 г. калі 7-VII было заснавана «Усесаюзнае таварыства для пашырэньня палітычных і навуковых ведаў». Туды бальшавікі загналі ўсіх сваіх акадэмікаў і даручылі ім весьці бязбожную прапаганду, ўплятаючы яе ў даклады нібы навуковага характару і выдаваць бязбожную літаратуру. Ад таго часу кніжкі ваюючага бязбожнага зьместу выдаюцца пераважна Акадэміямі Навук. Затое ўвесь цяжар бязбожнае дзейнасьці перанесена ў лона самых рэлігійных установаў, якія існуюць на абшары СССР. Трэба зазначыць, што першыя спробы ў гэтым кірунку былі зроблены значна раней, прыблізна ў 1927 г. — гэта быў час, калі бальшавікі пасьля няўдалых хаотычных спробаў барацьбы з рэлігіяю абвесьцілі першую бязбожную пяцігодку. Тады камуністы дэлегавалі (дзе гэта для іх было магчыма) на адказныя становішчы сваіх агентаў, каб апанаваць кіраўніцтва рэлігійных установаў. Найлягчэй ім удалося пралезьці ў сэкты, бо там ад духоўных кіраўнікоў ня вымагаецца ні вялікае асьветы, ні асаблівага жыцьця. Мэтадысты, баптысты, штундысты, суботнікі, мэнноніты, малакане, ягвісты, малэванцы, духаборы і інш. хутка былі апанаваны поўнасьцю камуністычнымі агітатарамі і ўжо ў 1930 г. гэтае-ж самае пачалі рабіць амэрыканскія камуністы адносна тамтэйшых сэктаў. Як нядаўна выявілі быўшыя камуністы Мэнінг Джонсон, Корнфэдор і Ґітлов, у радох духавенства мэтадыстаў у З.Ш.А. ёсьць цяпер каля 600 тайных камуністаў, а сэнатор Мак Карті сабраў весткі, што ўва ўсіх пратэстанцкіх цэрквах у З.Ш.А. ёсьць каля 3.000 пратэстанцкіх пастараў, якія або належаць да камуністычнае партыі, або зьяўляюцца прокамуністамі.

Затое адносна Каталіцкае Царквы бальшавікі сталі перад непераможнымі перашкодамі. Ім не ўдалося правесьці сваіх агентаў нават у рады звычайных сьвятароў. Выняткі, праўда, былі, але вельмі кароткатрывалыя (іх звычайна хутка выкрывалі), і самыя бальшавікі мусілі прызнаць, што кіруючыя становішчы ў Каталіцкай Царкве недаступныя для іхных агентаў на даўжэйшую мэту, дзякуючы незалежнаму цэнтру ў Рыме. Але бальшавіцкі таталітарызм ня можа пагадзіцца з такім станам рэчаў і таму аб'явіў каталіцызму бязьлітасную зьнішчальную вайну, называючы Ватыкан сваім ворагам Нр. 1, бо пакуль існуе Каталіцкая Царква ўсе падступныя пляны ў барацьбе з рэлігіяй усіх іншых веравызнаньняў наперад прыгаворaны на няўдачу; гэта адно, а другое, чым Каталіцкая Царква найбольш з усіх веравызнаньняў страшная для бальшавікоў дык гэта тое, што Яна адзіная сваёю навукаю можа дзейна супрацьставіцца камунізму. Ведама, што камунізм для свайго пашырэньня ў іншых дзяржавах патрабуе адпаведнага грунту, а такі грунт яму вытвараюць: бязладзьдзе, несправядлівасьць, бядота, афіцыяльная хлусьня і маральны расклад. Вось, супраць усіх гэтых грамадзкіх няшчасьцяў Каталіцкая Царква вядзе рашучае і дзейнае змаганьне; маючы ясна азначаную і нязьменную аб'яўленую навуку, Яна выкрывае ўсякую хлусьню; сваею дысцыплінаю супрацьдзейнічае бязладзьдзю; надпрыроднымі дарамі праз сьв. Тайны дае сродкі для ўстрыманьня маральнага раскладу; сваею сацыяльнаю навукаю ўносіць аздараўляючы дух у грамадзкія адносіны і сваім сапраўды унівэрсальным характарам каталіцызм выяўляе ўвесь фальш камуністычнага інтэрнацыяналу. — У Маскве гэта ясна ўбачылі і таму проста з нелюдзкай лютасьцю выступаюць супраць Каталіцкае Царквы.

Пакуль жыў маскоўскі патрыярх Ціхан, Праваслаўная Царква была для бальшавікоў гэтакай самай косткай у горле, як і Каталіцкая, але пасьля ягонае сьмерці і пасьля зьняволеньня першых ягоных намесьнікаў, кіраўніцтва патрыяршым пасадам трапляе ў рукі мітр. Сяргея (Страгародскага), які пасьля некаторых хістаньняў годзіцца адкрыць для агентаў ГПУ ўсю канцылярыю Сыноду(2) і 29.VII.1927 выдае ведамы пастырскі ліст аб зьмене царкоўнае палітыкі і прызнаньні савецкае ўлады. Ад таго часу Праваслаўная Расейская Царква, захаваўшы свой стары назоў і вонкавыя абрадавыя формы і захоўваючы каналічны лад, хуткімі тэмпамі замянілася ў савецкую ўстанову, якая верна служыць савецкім мэтам. Яе кіраўніцтва знайшлося ў руках людзей адданых бальшавізму, а для большае пэўнасьці яшчэ пры кожным кіраўніку для безнастаннае кантролі быў агент ГПУ. Сьледам за кіраўнікамі пайшла частка ніжэйшае ерархіі і духавенства. Быўшы салавецкі вязень а. Міхаіл П. кажа: «Лік упаўшых сьвятароў нязвычайна вялікі. Ва ўсіх, хоць крыху мне ведамых гарадох Поўначы і Поўдня Расеі, ня ведаю ніводнага, які-б ня быў сваім чалавекам у ГПУ(3).

Бязумоўна тое самае дзеялася і на Усх. Украіне і на Усх. Беларусі. Аўтар гэтых радкоў мае ліст аднаго мінчаніна, які быў сам сьведкам, як пасьля арыштаваньня і вывязеньня з Менску ар-

1) Дакладней глядзі аб гэтым у артыкуле «Ваюючае бязбожжа», «Божым шляхам». Нр. 50, стар. 3-6.

2) Михаилъ Священникъ, Положеніе Церкви въ Советской России (Iерусалимъ, 1931) стар. 24.

3) Там-жа стар. 89.

хіяп. Мэльхісэдэка на яго мейсца «некім» быў прысланы «япіскап», які апрача рэлігійных цікавіўся і далёка нерэлігійнымі справамі. Пазьней вернікі заўважылі, што гэты «япіскап» пад расаю насіў наган, які ў СССР маглі насіць толькі адказныя партыйныя работнікі і з якім ён не разлучаўся нават у часе Службы Божае ў саборы. Вестка аб гэтым хутка разышлася між вернікаў і яны перасталі хадзіць на яго службу, бо ім стала ясна, што гэта за «япіскап». У Віцебску адзін архімандрыт, ня могучы далей плаціць падаткаў за сябе і царкву і спадзяючыся за гэта арышту, рыхтаваўся ўцячы заграніцу і прышоў разьвітацца з сваім архірэям — гэта быў адзіны чалавек, якому ён выявіў свае пляны, а назаўтра раніцай архімандрыт ужо быў у турме. У Смаленску перад апошняй вайною асталася толькі адна царква, але вернікі баяліся як агня хадзіць туды, бо ў ёй служыў «пастыр-сэксот»(4). Падобных фактаў можна назваць нязьлічаную колькасьць.

Поўнае апанаваньне кіраўніцтва «Расейскае «Праваслаўнае Царквы» ёсьць толькі першым этапам у далёкасяжных бальшавіцкіх плянах. Цяпер гэтую «Царкву» бальшавікі паставілі ва ўпрывілеяванае становішча. Для яе ўласьцівага кіраўніцтва ў 1942 г. быў утвораны асобны «Савет па справах Расейскае Праваслаўнае Царквы пры Радзе Міністраў Саюза ССР», а для ўсіх іншых веравызнаньняў утвораны іншы «Савет па справах рэлігійных культаў пры Радзе Міністраў СССР». Ад таго часу «ерархі» савецкае «Праваслаўнае Царквы» замест плаціць падаткі, як гэта было раней, пачалі атрымоўваць ад савецкае ўлады вялічэзныя пэнсіі. Паводля швайцарскае газэты «Сант-Гільлер Тагблят» маскоўскі патрырх артымоўвае месячна 50.000 рб., мітрапаліт — 30.000, архіяпіскап — 20.000, япіскап — 12.000. На грудзёх у «духавенства» гэтае «Царквы» зьявіліся савецкія ордэны і мэдалі. За гады 1945-46 савецкімі ордэнаносцамі сталіся ажно 22 «архірэі» і 231 «сьвятар»(5), а сам «партыярх» стаўся аж двойчы ордэнаносцам.

Затое тыя сьвятары і архірэі, якія стараліся захаваць вернасьць Праваслаўнай Царкве, або ўвайшоўшы праз наіўнасьць у склад савецкае «Царквы», калі поўнасьцю ня йшлі па лініі камуністычных дырэктываў, арыштоўваліся і ссылаліся. Ад 1944 г. да сёньня адбыліся дзьве гэнэральныя чысткі праваслаўных ерархаў. У 1944 г. чысьцілі тых япіскапаў, якія ў часе вайны асталіся на сваіх пасадах; гэта былі пераважна зрусыфікаваныя украінцы, грузіны і беларусы. Адны з іх згінулі дзесь бясьсьледна: арх. Агар, арх. Антоній (Абхадзе), яп. Дзімітры (Абашыдзе), яп. Нікодым, яп. Серафім (Кушнірук); другія былі арыштаваныя: яп. Дамаскін (Малюта) у Камянцы Падольскім, яп. Панкраций (Гладков) у Белгарадзе, арх. Сымон (Іваноўскі) у Чарнігаве і нейкі час прасядзеў у турме яп. Веніамін (Навіцкі), пакуль стаўся япіск. Кіраўскім. У гадох 1949-50 адбылася гэнэральная чыстка кадраў; яе ахвяраю сталіся рэпатрыяваныя япіскапы, тыя, што ўжо перш былі арыштаваныя і агулам менш надзейныя — адных пагналі «на пакой» у манастыры, а іншых проста ў турму. У тым часе за кратамі знайшліся: 1) арх. Антоній (Марцэнко) ад 1951 г., 2) яп. Георгій (Садоўскі) ад 1949 г., 3) арх. Даніїл (Юзьвюк) ад 1950 г., 4) яп. Іоаньнікій (Сперанскі) ад 1949 г., 5) яп. Максім (Бачынскі) ад 1949 г., 6) яп. Міхаіл (Постнікаў) ад 1949 г., 7) мітр. Нестар (Анісімаў) ад 1948 г., і 8) яп. Феодосій (Коневецкі) ад 1949 г.

Пры гэтай нагодзе трэба з асаблівым націскам падчыркнуць, што кіраўніцтва «Расейскае Праваслаўнае Царквы» ня толькі што не праявіла ніякіх стараньняў у абароне арыштованых ерархаў, але старалася за ўсякую цану прамаўчаць нават сам факт іхняга арышту, выказваючы тым самым поўную салідарнасьць з бязбожнай уладай у дзеле прасьледаваньня ерархаў, якія не пайшлі па лініі поўнай зрады Хрыстовай навуцы.

Агульна ведама, што калісь чыста савецкаю «Царквою» была так званая «Абнаўленчая Царква», але відаць, што сучасная «Расейская Праваслаўная Царква» пайшла яшчэ далей, бо ад 1942 г. бальшавікі перасталі падтрымоўваць абнаўленцаў і яны ўсе за кароткі час пасьпяшылі зложыць на рукі Маскоўскага «патрыярха» «пакаяньне» паводля ўсіх прыпісаў кананічнага права і знайшліся ў радох «Праваслаўнае Царквы».

Калі зразу пасьля зьмены царкоўнае палітыкі кадры духавенства набіраліся хаотычна, адусюль, дык цяпер гэтая справа ўнармаваная. Хоць лік ерархаў далёка не адказвае намечанай норме (мела быць 90) аднак іх не сьпяшаюцца дапоўніць, відавочна чакаючы або адпаведнага мамэнту, або выпуску сваіх узгадаванцаў з Маскоўскае і Ленінградзкае «Духоўных Акадэміяў», заснаваных у 1946 г. Для ўзгадаваньня «сьвятароў» заснавана 8 «сэмінарыяў»: у Маскве і Ленінградзе ад 1945 г. і ў Одэссе, Луцку, Кіяве, Жыровічах, Стаўропалі і Саратаве ад 1947 г. Весткі аб іх заснаваньні падаваліся на старонках «Журн. Маск. Патрыярхіі», але акрамя гэтых яўных установаў у СССР ёсьць яшчэ спэцыяльныя школы для энкавэдыстаў-«сьвятароў», прызначаных для асаблівых заданьняў. Час-ад-часу ў вольным сьвеце выкрываюць такіх «сьвятароў» пры цэрквах савецкае юрысдыкцыі. Напрыклад у Бэйруце два гады таму настаяцелем савецкае царквы быў

4) Н. Днепровъ, Смоленскій Успенскій Соборъ («Православная Русь», Нр. 18 (539). 28. IX. 1953).

5) Паіменныя сьпісы ўзнагароджаных падаваліся ў некалькіх нумарох «Журнала Московской Патриархии ў гадох 1945, 1946 і 1947.

маёр НКВД Сымон Нікіцін, выяўлены праз свае немаральныя скандалы.

Што да колькаснага стану «Расейскае Праваслаўнае Царквы» дык акрамя туманных заяваў мітр. Мікалая Круціцкага нічога канкрэтнага ані аб колькасьці парахвіяў, ані тымбольш аб колькасьці вернікаў сказаць нельга. Затое на аснове супастаўленьняў аб «ерархах» на старонках «Журн. Мас. Патр.» іхны лік можна азначыць зусім дакладна. У паасобных гадох ён выглядаў так:

| Гады | Збольшаньне ерархаў | | | | Зьменшаньне | | | | Агульны лік у канцы году |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Хіратонізована | Прынятыя Абнаўленцы | Рэпатрыяв. з заграніцы | З пакою | На пакой | Выслана за граніцу | Арыштавана | Памерла | |
| 1938 | | | | | | | | | 4 |
| 1942 | 4 | — | — | 11 | — | — | — | — | 19 |
| 1943 | 2 | (6)* | — | — | — | 1 | — | 1 | 19 |
| 1944 | 18 | 3(5)** | — | 1 | — | — | —** | 1 | 40 |
| 1945 | 12 | — | 1 | 5 | — | — | — | 3 | 55 |
| 1946 | 9 | — | 3 | 4 | — | 1 | — | 1 | 69 |
| 1947 | 7 | — | 2 | 1 | 2 | — | — | 1 | 76 |
| 1948 | 5 | — | — | 2 | — | — | 1 | 1 | 81 |
| 1949 | 4 | — | — | — | 6 | — | 5 | 1 | 73 |
| 1950 | 1 | — | — | 1 | 3 | 1 | 1 | 2 | 68 |
| 1951 | — | — | 1 | 1 | — | 1 | 1 | 2 | 66 |
| 1952 | — | — | 1 | — | — | — | — | 5 | 62 |

*) У дужках паданы лік абнаўцаў архірэяў, якіяпрыняты ў сане або сьвяттароў, або і вернікаў.
**) Арыштаваныя ў тым часе ерархі не належалі да«Расейскае Праваслаўнае Царквы».

Варта зьвярнуць увагу, што пасьля 1948 г. лік «ерархаў» пастулова зьменшваецца. Відавочна гэта ня ёсьць прыпадковым зьявішчам.

Вышэй пералічаныя факты (хоць гэта толькі іх частка) аж занадта выстарчаючыя, каб убачыць, што бальшавікі поўнасьцю апанавалі «Расейскую Праваслаўную Царкву» (таму і неабходна браць гэтыя словы ў двукосье) і маглі-б цяпер яе лёгка развяліць знутра, калі-ж гэтага ня робяць, дык мусяць мець нейкія важныя прычыны. Такіх прычын ёсьць некалькі:

Па-першае. За час змаганьня з рэлігіяй бальшавікі пераканаліся, што нават зусім зьнішчыўшы царкоўную ерархію, праз гэта яшчэ ня нішчыцца рэлігія як такая, але можна павжна аслабіць рэлігію, калі замест сапраўдных сьвятароў і ерархаў накінуць вернікам фальшывых сьвятароў. Праўда, ужо сам той факт, што бальшавіцкія бязбожныя агэнты мусяць крывіць душою перад вернікамі і апранацца ў сьвятарскія рызы, разьбівае ў друзы ўсю бязбожную прапаганду, бо сьведчыць аб нязьнішчальнасьці рэлігіі ў душы народу.

Па-другое. Найбольш дзейна супрацьставіцца камуністычнай прапагандзе Каталіцкая Царква сваею арганізацыяю і сацыяльнаю навукаю. Адгэтуль зацятасьць бальшавікоў у замаганьні супраць каталіцызму і адгэтуль-жа імкненьне супрацьставіць Каталіцкай Царкве іншую «Царкву» згодна з камуністычным мэтадам усё рабіць схаваўшыся за падстаўных асобаў.

Па-трэцяе. «Расейская Праваслаўная Царква» сталася вельмі зручнаю прыладаю ў руках бальшавікоў у праводжаньні свае палітыкі там, дзе яны ня могуць яўна выступаць са сваім бязбожным аблічам. Гэта сапраўды д'ябальская тактыка. Удалося калісь д'яблу ў вобразе зьмея спакусіць Эву, а цяпер праз «праваслаўных ерархаў адурманьваюць вольны сьвет. І сапраўды, калі бальшавікі нішчылі Каталіцкую Царкву ўсходняга абраду, дык у некаталіцкіх кругох на захадзе было нават задаволеньне, бо-ж афіцыяльна яе прылучалі да «Расейскае Праваслаўнае Царквы» і да таго гэта дзеелася «дабравольна», суправаджалася «саборамі»; 8-10.III.1946 у Львове (Украіна), 21.X.1948 у Альба Юлія (Румынія), 28.IV.1950 ў Чэхаславаччыне. Толькі ў Беларусі, Баўгарыі і Мадзяршчыне каталікоў усх. абраду зьліквідавана бяз ніякіх фармальнасьцяў, бо іх там была невялікая колькасьць. Праўда пры гэтай акцыі дакумантальна выявілася поўная залежнасьць «Расейскае Праваслаўнае Царквы» ад бальшавіцкае ўлады, бо акцыяў «навяртаньня» ўсюды кіравалі агэнты НКВД. Напрыклад у Львове «Ініцыятыўная група» атрымала інструкцыі з Кіява, дзе даслоўна гаварылася: «Ініцыятыўная група мае надсылаць да Упаўнаважанага ў справах Расейскае Праваслаўнае Царквы пры Радзе Камісараў УССР сьпісы ўсіх дэканаў, парахаў і настаяцяляў-манастыроў, якія адмаўляюцца падлягаць юрысдыкцыі Ініцыятыўнае групы грэка-

каталіцкае Царквы дзеля зьеднаньня з Праваслаўнаю Царквою»(6). А каб «Ініцыятыўная група» трымалася гэтых інструкцыяў сачыў «япіскап» Макарый Оксіюк, які нават падчас багаслужэньня меў пры сабе рэвольвар. За ўдалае правядзеньне «зьеднаньня» яго назначана Львоўскім мітрапалітам а ў 1951 г. выслана ў Польшчу ачольваць «Польскую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву».

У Чэхаславаччыне акцыяй «зьеднаньня» кіраваў «япіскап» Елевферій Воронцов, хіратанізаваны ў Маскве ў 1942 г. і былы арх. Растоўскі, высланы ў Чэхаславаччыну на пачатку 1946 г. Да таго ў сваёй дзейнасьці ён меў двох памоцнікаў. З іх асабліва варты ўвагі Аляксей Дехтярев, які да рэвацюцыі быў паліцэйскім ўрадоўцам у Перме. Потым эміграваў і на эміграцыі зышоўся з савецкім шпіянажам ды з іх загаду стаўся «манахам». У 1946 г. Маскоўскі патрыярх яго быў выслаў у Егіпет і там той «манах» так актыўна працаваў для Комінформу, што ў 1948 г. быў арыштаваны егіпецкаю ўладаю. Але прасядзеўшы паўтара году ў турме, на стараньне савецкага пасольства, быў высланы ў СССР. Адтуль хутка быў накіраваны ў Чэхаславаччыну і там 12.2.1950 г. «хіратанізаваны» на «япіскапа» Пряшэўскага. Цяпер у Чэхаславаччыне ёсьць ажно пяць «праваслаўных ерархаў», хоць да вайны там было толькі 50.000 праваслаўных.

Па-чацьвёртае. Ведаючы, як вялікую вагу кладуць бальшавікі на сваю прапаганду, лёгка зразумець, як яны мусяць цаніць такую ўстанову, як сваю «Расейскую Праваслаўную Царкву» праз якую маюць неабмежаваную магчымасьць узмацняць сваю прапаганду так у сябе, як і заграніцаю. Ад імя гэтае «Царквы» вядзецца прапаганда савецкага «міру», ладзяцца розныя зьезды і кангрэсы. «Журн. Маск. Патр.» у кожным нумары амаль трэцюю частку свайго зьместу прысьвячае пытаньням «міру», гэткую акцыю забавязаны весьці ўсе іхныя «сьвятары»(7).

Насупраць нязьлічаных фактаў нячуванага рэлігійнага прасьледаваньня ў СССР самыя кіраўнікі савецкае «Праваслаўнае Царквы» публічна заяўляюць пры розных нагодах, што ў СССР няма ніякага рэлігійнага прасьледаваньня.

Найбольш заядлае змаганьне з Каталіцкаю Царквою вядуць бальшавікі праз сваю «Царкву». Пачынаючы ад 1945 г. «Журн. Маск. Патр.» амаль у кожным нумары публікуе супрацькаталіцкія артыкулы. Гэты настрой стаўся асабліва варожы пасьля Маскоўскага «Сабору» ў 1948 г., на якім пасьля цэлага раду супрацькаталіцкіх дакладаў прынята шматлікія пастановы, праводная думка якіх была: «Трэба, каб праваславіе арганізавала і ўзмоцніла свой адзіны супрацьватыканскі фронт»(8). Відавочна, каб больш заахвоціць да выкананьня гэтае пастановы Маскоўская «Дух. Акадэмія» дня 2-IX-1949 г. надала арх. Гермагэну Кожыну тытул доктара honoris causa за ягоны «разбор дагматычных няpraўдаў Рыма-каталіцкае царквы і выяўленьне палітычных акцыяў Ватыкану»(9). Агулам ад таго часу ў бальшавіцкай бязбожнай макулятуры супрацькаталіцкія назовы займаюць першае мейсца.

Па-пятае. Сучасная «Расейская Праваслаўная Царква» для бальшавікоў сталася яшчэ адным аружжам больш для ўмацаваньня свае ўлады. У календарох, выдаваных Маскоўскай Патрыярхіяй у сьвятцах паўпісваны так-жа чыста бальшавіцкія «сьвяты», напр.: Дзень памяці В. І. Леніна 9 студзеня, Дзень чырвонае арміі 23 лютага, Міжнародны жаночы дзень 8 сакавіка, Дзень агляду баявых сіл працоўных 1 траўня і т. д.(10). Для наданьня большае павагі Маскве ад імя «Царквы» ладзяцца розныя міжнародныя «саборы» з удзелам прадстаўнікоў ад Цэркваў падсавецкіх краінаў і ад некаторых усходніх патрыярхаў і потым атрымоўваюцца і публікуюцца ў прэсе лісты падзякі ад тых прадстаўнікоў на адрас Савецкага Саюзу і савецкае «Царквы». Ад імя гэтае «Царквы» вядзецца прапаганда савецкага патрыятызму.

Па-шостае. У зьвязку з узможаным наступам расейскага імпэрыялізму «Расейская Праваслаўная Царква» сталася вельмі важным фактарам у русыфікацыі паняволеных народаў. У самым назове і ўва ўсіх выступах з асаблівым націскам падчырквaецца яе расейскі характар, што яна «Русская». Уся карэспандэнцыя вядзецца ў расейскай мове, выключна у гэтай мове адбываецца навука ўва ўсіх «духоўных» сэмінарыях і акадэміях. На абшарах Беларусі і Украіны падчас душпастырскіх курсаў, якія ладзіліся перш, абавязкавым прадметам выкладаў была расейская мова, аб іншых і ўспаміну ня было. Склад «ерархаў» за выняткам трох чалавек ёсьць расейскі.

Па-сёмае. Асабліва вялікую прыслугу бальшавіком робіць «Расейская Праваслаўная Царква» ў іхняй вонкавай палітыцы. Не дарма бальшавікі высылалі на сваіх самалётах дэлегацыю ад імя гэтае «Царквы» ўва ўсе канцы вольнага сьвету. У 1945 г. патр. Аляксей езьдзіў у Баўгарыю, Палестыну і Егіпет, адведаў пры гэтым усходніх патрыархаў — і колькі з гэтае нагоды пісалася ў прэсе ўсяго сьвету аб савецкай «Праваслаўнай

6) Діяння Собору грэко-католицької Церкви у Львові 8-10 березня 1946, (Львів 1946), стар. 20.

7) L'Eglise orthodoxe russe dans la lutte pour la paix, (Moscou, 1950).

8) Деяния и совещания глав и представителей Автокефальных Православных Церквей в связи с празднованием 500 летия Автокефальной Русской Православной Церкви 8-18 июля 1948 года. Том Первый, (Москва 1949), с. 274.

9) «Журнал Московской Патриархии», 1949 г. Нр. 10, стар. 13.

10) Православный церковный календарь на 1948 г. і тое-ж. на 1952 г. (Издание Московской Патриархии).

Царкве»! Ад таго часу Антыохійскі і Александрыйскі патрырхі сталіся зусім прасевецкімі, самі адведалі Савецкі Саюз і атрымалі ад бальшавікоў шчодрыя дары. Цяпер за свой просавецкі курс і бальшавіцкую прапаганду яны атрымоўваюць да 15 мільёнаў руб. у год. Афіцыяльна гэта выявілася сёлета ў траўні, калі Антыохійскі патр. Аляксандар III атрымаў з Масквы чарговую пасылку ў вышыні 22.000 даляраў і апраўдваўся перад прадстаўнікамі ўлады, што гэта нібы рэкомпэнсата Антыохійскай Царкве за страты спрычыненыя ёй расейскай рэвалюцыяй. Грэцкая прэса, падаючы да агульнага ведама гэты факт, падчыркнула, што гэтыя грошы Масква плаціць не за страты, але за бальшавіцкую прапаганду.

Ерузалімскі патр. Тыматэй да мінулага году трымаўся крыху воддаль ад Масквы, але атрымаўшы адтуль шчодрыя дарункі, пачаў здавальняць вымогі Маскоўскага патрыярха і пастанова з дня 29.X.1952 распарадзіўся, каб падуладнае яму духавенства ня мела ніякае лучнасьці з ерархамі і сьвятарамі на якіх цяжаць забароны і кары Маскаўскага патрыярха (11) — гэта значыць з усёй Расейскай Заруб. Царквою, а тым самым і ўсёю расейскаю эміграцыяю, у якой толькі некалькі парахвіяў прызнаюць савецкую юрысдыцкыю.

Лішнім было-б расьпісвацца, што ўва ўсіх краінах падсавецкіх уплываў царкоўныя праваслаўныя кіраўнікі ёсьць паслушнымі прыладамі ў руках Маскоўскага патрырха і садзейнічаюць з савецкаю акупацыйнаю ўладаю.

Уканцы трэба зьвярнуць увагу на асаблівы мамэнт у плянах Масквы. Бязбожная савецкая ўлада ва ўсіх краінах сваіх уплываў, нават у тых, дзе насельніцтва ў аграмаднай большасьці ёсьць каталіцкае, прасьледуе бязьлітасна каталіцызм і адначасна разбудоўвае праваслаўную «ерархію», творыць новыя царкоўныя адзінкі. Да калішніх праваслаўных аўтакефаліяў у Альбаніі, Грузіі створана аўтокефальную «Царкву» ў Польшчы 28.VI.1948 на савецкі лад і такую-ж аўтакефалію ў Чэхаславаччыне 8.XII.1951. У іншых краінах патворана савецкія экзархаты: у Зах. Эўропе, Кітаю, ЗША, і Аргэнтыне. Да таварыства Румынскага патрыярха сёлета 10. траўня адноўлена Баўгарскі патрыярхат — бязумоўна для Баўгарскае Царквы гэта ў прынцыпе радасны акт, але прыкра, што яго даконваюць бязбожнікі тымсамым таўруюць сваім знакам і выкарыстоўваюць для сваіх мэтаў.

Якія гэтыя мэты? Ня двузначана аб іх пішацца на старонках «Журн. Маск. Патр.». Там ад некаторага часу ўсё часьцей і часьцей зьяўляюцца «пасланьні» Маскоўскага патрыярха да «Галоў Праваслаўных Аўтокефальных Цэркваў» у розных царкоўных і палтычным справах. Калісь такія пасланьні меў права выдаваць Бізантыйскі патрыярх, але ад 1947 г., калі праф. Троіцкі распачаў сэрыю артыкулаў накіраваных супраць улады Бізантыйскага патрыярха(12), ужо і ў тэорыі і ў практыцы Маскоўскі патрыярх зусім самавольна пачынае прысабечваць прэрогатывы Бізантыйскаха патрыярха. З гэтага гледзішча вельмі характэрны адказ Маскоўскага патр. на ліст Бізантыйскага патр, у справе падрыхтоўкі да скліканьня Перадсаборных Нарадаў. Там, паставіўшы цэлы рад закідаў Бізантыйскаму патр. і дамаганьняў прызнаць свае новатворы, Маскоўскі патр. закончвае свой ліст такім сказам: «Мы атрымалі і сёньня вывучаем Пасланьне Блажэньнейшага Хрыстафора, Папы і Патрыярха Александрыйскага і ўсяе Афрыкі, так-жа адносна пытаньня падрыхтоўкі да скліканьня перадсаборных Нарадаў, з зацемкаю аб ягоным намеры пісаць аб гэтым і Вашаму Сьвяцейшаству»(13). Іншымі словамі гэта значыць: «Ужо іншыя падрыхтоўваюць сабор і кіраўніцтва яго знайходзіцца ў Маскве, але вядзецца праз Александрыйскага патрыярха, які ёй верна служыць».

Значыць у Маскве плянуецца замер нябывалага дагэтуль абсягу — склікаць такі «Сабор» усіх Праваслаўных Цэркваў, на якім-бы тое пяршынство, якое да гэтага часу ў Праваслаўнай Царкве меў Бізантыйскі патрыярх, было перадана Маскоўскаму патрыярху. Гэта было-б зьдзейсьненьнем старое маскоўскае мроі — «Масква — Трэці Рым» і гэтым «Рымам» мела-б быць сучасная чырвоная, бязбожная Масква. І тады ўжо мела-б наступіць рашучая атака супраць Старога Рыму — Каталіцкае Царквы, наймацнейшае абаронцы рэлігіі, і толькі асягнуўшы над ёю перамогу, разваліць і сваю «Царкву».

Што сказаць адносна гэтых бальшавіцкіх плянаў? Сьветам і рэлігійным жыцьцём кіруе Бог, а ня людзі. Якія-б яны падступныя пляны не тварылі, не пакрыжуюць Божых плянаў. Але гэткі адказ ня можа апраўдваць бязьдзейнасьці з боку вернікаў, а тымбольш не павінен апраўдваць тых праваслаўных сьвятароў, якія сьведама дапамагаюць бальшавіком. Не дарма калішні салавецкі вязень праф. Андрэеў і шчыры праваслаўны ў парыве сьвятога гневу аб сьвятарох, што супрацоўнічаюць з бальшавікамі кажа, што яны «робяць каінава дзела» (14). І трэба прызнаць як пацяшаючы факт, што падобнае асуджаньне ў сапраўды праваслаўных кругох стае амаль агульным. Шырока ведамая кніга прат. М. Польскага аб каначічным палажэньні Расейскае

11) «Журнал Московской Патриархии», 1953 г. Нр. 1, стар. 8.

12) «Журнал Московской Патриархии», 1947 г. Нр. 11. стар. 34. і інш.

13) «Журнал Московской Патриархии», 1953 г. Нр. 5. стар. 4-8.

14) «Православная Русь», 1947 г. Нр. 9, стар. 13.

Царквы, на аснове цэлага раду абаснаваных на фактах закідаў, называе савецкую «Царкву» «самычыннаю некананічнаю ўстановаю»(15). Іншы аўтар кажа: «праваславіе, якое падпарадкавалася саветам, і сталася прыладаю сусьветнага антыхрысьціянскага згорашаньня — ня ёсьць праваславіем, але спакусьліваю антыхрысьціянскаю ерасьсю, якая апранулася ў разьдзёртыя рызы Праваслаўя»(16).

15) Прот. М. Польскій, Каноническое положеніе высшей церковной власти въ СССР и заграницей, (Троицкий монастырь США, 1948), стар. 63.

16) С. П. О Церкви в СССР, (Париж) 1947), стар. 13. І «Православная Русь», 1948 г. Нр. 18, стар. 3.

Як бачым, наступ бальшавікоў супраць рэлігіі разьлічаны на доўгую мэту і пагражае агулам усім вернікам. Гэтую загрозу замала толькі ўсьведаміць, неабходна супраць супольнага ворага весьці супольную барацьбу. Але ў першую чаргу трэба усьведаміць сабе з усёю яснасьцю, што тая супраць-каталіцкая акцыя, якая вядзецца ў вольным сьвеце ад некаторага часу, тыя нязьлічаныя напады ў прэсе на Каталіцкую Царкву, робленыя нібыта з праваслаўных кругоў і нібы ад імя Праваслаўнае Царквы ў праўднасьці ёсьць толькі вадою на бальшавіцкі млын.

**А. Дарожны**

# Першая малітва

Гэта было, як кажуць, выбранае таварыства, якое спраўляла шэрую гадзіну на эміграцыі. Гутарка круцілася каля розных тэмаў і ўканцы закранула справу пачатку рэлігіі. Хтосьці абараняў тэорыю пазытывіста Комта, іншы дадаваў думкі нейкага індыйскага філязофа, а нават знайшоўся такі, што марксістам прызнаваў з гэтага гледзішча «частковую» слушнасьць. Жанчыны на гэтае цьверджаньне з абурэньнем наперабой пачалі абзываць прыхільніка гэтага пагляду ўсякімі мянюшкамі.

Гоман, які на мамэнт усчыніўся ў пакою, зноў сьціх, калі пачала гаварыць калішняя настаўніца. Яна чула недзе, што быў нейкісьці нямецкі вучоны, які, маючы аднаго сына, узгадоўваў яго так, каб той ніколі ня чуў нават і ўспаміну аб Богу. Ён уважна дабіраў сыну кніжкі і таварыства і нагляд аў, ва кожным крокам, каб ніхто і нічога не перакрыжавала ягонага ўзгадаваўчага пляну. І вось якое-ж было зьдзіўленьне таго вучонага, калі аднойчы ў нядзелю, ягоны дзесяцігадовы сынок цішком выбег з хаты ў сад, і там, слухаючы сьпеву птушак і ўглядаючыся ў раньняе сонца, якое пакавалася з-за хмараў, раптам укленчыў пад дрэвам, зьвернены абліччам да сонца і пачаў маліцца, зразумела, што маліўся сваімі словамі.

— Праўда да сонца маліўся той юнак — прадаўжала ўсхваляваным тонам сваё апавяданьне настаўніца — але ён адараваў ня сонца, але Бога, усемагутнага Стварыцеля, з рук Якога выйшаў такі цудоўны твор, якім яму выдавалася сонца. І ніхто яго ня вучыў аб Боскасьці, ніхто ніколі не ўспамінаў нічога аб рэлігіі ні бацька, ні сябры, ні Комт, ні Маркс, ні сьвятар, а ён такі шчыра маліўся, можа больш шчыра, як моляцца арабы на пустыні падчас усходу і заходу сонца, якія дарчы кажучы так-жа адаруюць ня сонца, а Бога.

Усе замоўклі і карыстаючы з мамэнту зацішша азваўся пісьменьнік, які да гэтага часу сядзеў ціха ў куце і заўзята курыў папяросу за папяросаю.

— Тое, што сказала настаўніца, на маю думку гэта мусіла быць сапраўдная падзея, бо і я сам калісь перажываў нешта падобнае. Колькі мне тады было гадоў, дакладна не магу сказаць, але помню, што быў яшчэ хлапчанём. Праўда мяне маці вучыла маліцца ад дзяцінства, але я паўтараў словы малітвы зусім бязуважна, нічога ў іх не разумеючы. Толькі аднойчы ў нядзелю, я чамусьці пачуўся моцна адзінокім і адчуваў, што мне чагосьці нестае, але чаго нестае, я сам ня ведаў. Толькі было дзіўна, што мне не хацелася йсьці да сяброў, наадварот хацелася знайсьці якісьці такі куток, каб схавацца ад усіх і там на адзіноце шчыра памаліцца, сказаць Богу усё, што было ў маёй юнацкай душы. І калі я пабачыў, што бацька пайшоў на поле, а маці зьбіралася йсьці на Службу Божую, дык так усьцешыўся, што з нецярпеньнем чакаў, калі нарэшце астануся адзін у хаце. Як толькі маці выйшла на вуліцу, я падыйшоў да покуці, укленчыў перад абразамі і так горача пачаў маліцца, што забыўся аб усім на сьвеце. Я нават не глядзеў на абразы, бо як сёньня помню, што галаву прысланіў да стала. І тады я першы раз ня толькі ўсьведаміў сабе, але проста такі адчуў, што Бог ёсьць тутжа каля мяне, што Ён чуе і разумее мяне. І ведаеце, мне зрабілася так лёгка і радасна, што захацелася сьпяваць...

— А вы часам ня сьвіснулі, як малы Габрусік Зьмітрука Бядулі? — голасна заўважыла настаўніца.

— Да-не, я такі сапраўды пачаў сьпяваць — прадаўжаў спакойна сваё апавяданьне пісьменьнік — але пасьля таго я пераканаўся, што апавяданьне Зьмітрука Бядулі «Малітва малога Габрусіка», гэта ня выдумка аўтара, але сапраўдная падзея. І вось на маю думку, гэтта і трэба шукаць пачатку сьведамае рэлігіі. Гэты пачатак можа

кожны прасьлядзіць у сабе самым, не абавязкава аж шукаць нейкіх штучных тэорыяў.

— Але-ж ёсьць шмат людзей, якія ніколі не маліліся, дык тады ўся ваша тэорыя распадаецца ў друзы. — Запярэчыў марксіст.

— Гэта не мая тэорыя — адказваў пісьменьнік — і я не ўважаю яе за адзіны шлях да пазнаньня пачаткаў рэлігіі, але на вашу заўвагу хачу сказаць, што вы забываецеся аб адной асноўнай праўдзе. Гэта праўда, што ёсьць людзі, якія ніколі не маліліся, але на сьвеце ёсьць так-жа вельмі шмат насеньня зусім добрага і здаровага, якое ў няспрыяльных умовах ніколі ня ўсходзіць, але ці з гэта магчыма зрабіць выснавак, што ў насеньні няма таго сукрытага жыцьця, якое мае ўсе даныя на тое, каб на добрай глебе закрасаваць прыгожай расьлінай?! Так і ў людзкой душы сучасныя бурныя ўмовы жыцьця нішчаць шмат бясцэнных вартасьцяў, што дрэмлюць у ёй ад пачатку яе заіснаваньня. На магільніку пэўна-ж нельга шукаць жыцьця, але яго трэба шукаць і дасьледаваць там, дзе яно нармальна прабуджаецца і разьвіваецца. Тады і ўсякія адхіленьні ад нармальнасьці можна лягчэй зразумець.

— Ня быў-бы то пісьменьнік, ён на ўсё глядзіць праз свае акуляры. — Заўважыла якаясь субяседніца.

— Гэта то нічога, што глядзізь на ўсё праз свае акуляры, але дрэнна, што праз іх ён не дабачвае ніякіх доказаў паважнага навуковага характару. — Зацеміў хтосьці з старэйшых.

— Ведаеце, што я навуковыя доказы заўважваю; як іх не заўважваць? але я заўважыў яшчэ нешта больш. Калі-б вы самі так моцна цанілі навуковыя доказы, дык-бы мы вось тут замест перакідацца пустымі словамі аб малітве і Богу, пастаўшы на калені маліліся-б да Яго. Бо навуковыя доказы вядуць да Бога, але за імі йдуць людзі толькі добрае волі і нават яны, каб маглі гаварыць з Богам, мусяць адчыніць Яму дзьверы свайго сэрца. Але вось сэрца кожнага чалавека мае такія сваеасаблівыя клямкі, такія закруткі, што навуковыя доказы папросту бязрадныя, каб іх адчыніць. Ды гэта крыху адходзіць ад тэмы. Я толькі хацеў сказаць, што з маіх уласных перажываньняў, з таго, што гаварыла настаўніца, ну і хоць-бы з таго, што пісаў Бядуля аб Габрусіку, а такіх падзеяў я думаю ёсьць шмат больш, я перакананы, што першая малітва, разумею пад гэтым шчырую, сьведамую малітву, яна ня зьвязана з нейкімі штучнымі панукамі і калі нават мае нейкія вонкавыя дзейнікі, што яе пабуджаюць, дык сама ў сабе ёсьць праяўленьнем імкненьня нашае душы да свайго Сатвараца.

Пісьменьнік замоўк, іншыя так-жа колькі хвілін нічога не гаварылі.

**Т. Малько.**

# Над сьвежаю магілай інж. Лявона Рыдлеўскага

Пасьля цяжкое хваробы дня 24 кастрычніка г.г. у шпіталю сьв. Калёмба ў Лёндане, прыняўшы сьв. Тайны, адышоў на вечны супакой інж. Лявон Рыдлеўскі.

Замест вянка на ягоную магілу для ўшанаваньня ягонае памяці, прыпомнім у кароткіх рысах ягонае жыцьцё.

Радзіўся ён 3 (16) верасьня 1903 г. у в. Ульянавічы на Магілёўшчыне, але хутка потым (каля 1908 г.) пераехаў у Слуцк, дзе ягоны бацька атрымаў пасаду дробнага ўрадоўца. Калі восеньню 1920 г. арганізавалася Слуцкае Паўстаньне, ён перарывае сваю навуку ў гімназіі і запісваецца ў рады паўстанцаў і хоць Паўстаньне было здушана шматкротна пераважаючымі сіламі, ён назаўсёды астаецца верны раз успрынятай ідэі змаганьня за волю Беларусі. З абозу інтэрнаваных паўстанцаў яму хутка ўдаецца выйсьці і закончыць Віленскую Беларускую Гімназію ў 1923 г. З Вільні ён накіроўваецца ў чэскую Прагу і ў тамтэйшай Палітэхніцы атрымоўвае тытул інжынера ды разам з інж. М. Абрамчыкам у 1929 г. накіроўваюцца пехатою ў Зах. Эўропу і затрымоўваецца у Францыі, каб тут несьці помач беларускім работнікам. Але ў Францыі іх сустрэў крызыс і безрабоцьце, трэба было кідацца ўва ўсе куткі Парыжа і правінцыі, каб зарабіць які грош на пражыцьцё. Аднак і ў такім цяжкім палажэньні дзякуючы іхняй вытрываласьці і цьвёрдай энэргіі ў лістападзе 1930 г. была залегалізаваная першая беларуская арганізацыя ў Францыі «Хаўрус Беларусаў у Францыі».

Калі матэрыяльнае палажэньне інж. Рыдлеўскага ў Парыжу стае вельмі крытычным, яму якраз тады пашчасьціла атрымаць добрае мейсца працы ў адной фабрыцы на правінцыі. Там пару гадоў перад другою сусьветнай вайною ён меў той кароткі пэрыяд жыцьця, калі мог аддыхнуць з палёгкаю, але выбухла вайна, падзеі пачалі хутка чаргавацца і калі немцы акупавалі Францыю, ён ня трацячы кантакту з беларускімі работнікамі, ідзе ў рады рэзістансу, ня ўсьпеўшы закончыць фармацыі беларускага палку пры французкім легіёне.

Пасьля сканчэньня вайны інж. Рыдлеўскі пераязджае на стала ў Парыж і стае найбліжэй-

шым супрацоўнікам апрэз. М. Абрамчыка. З іхняе ініцыятывы ў 1945 г. засноўваецца пры Францускім Хрысьціянскім Сындыкаце Аб'еднаньне Беларускіх работнікаў у Францыі і першым доўгагадовым гэнэральным сакратаром выбіраецца інж. Рыдлеўскі. У след за тым на ягоныя плечы спадаюць іншыя абавязкі: арганізацыя сэктару Рады БНР у Францыі, рэдактарства газэты «Беларускія Навіны», прадстаўніцтва ад беларусаў у ІРО, старшынства Сусьветнага Аб'еднаньня Беларускае Эміграцыі, сяброўства ў управе Аб'еднаньня Журналістаў з-за Зялезнае Заслоны, сяброўства ў управе Міжнароднага Аб'еднаньня Хрысьціянскіх Сундыкатаў народаў з-за зялезнае заслоны і інш. На дадатак ён часта быў дэлегаваны на розныя міжнародныя зьезды, ён-жа ўдзельнічаў у першай беларускай дэлегацыі да Сьвяцейшага Айца ў 1946 г... Словам ягоныя абавязкі збольшваліся ў такой колькасьці, што іх фізычна нельга было выканаць аднаму чалавеку, але і заступіцца ня было кім, бо вымогі парыскага цэнтру ў некалькі разоў пераўвышалі сілы прысутнае тут невялікае групы беларускае інтэлігэнцыі.

У меру таго, як расьлі абавязкі інж. Рыдлеўскага, ягонае матэрыяльнае палажэньне пагоршвалася і ўканцы сталася зусім роспачным — гэта хутка падкошвала ягонае здароўе і незабавам зьявіліся трывожныя азнакі, так што яго трэба было сьпешна вызваляць ад працы і шукаць ратунку. Дзякуючы прэз. Абрамчыку і ахвярнасьці пару асобаў з Бэльгіі яго ўдалося выслаць у Англію, каб там у супакоі мог адсьвяжыць свае сілы, але хутка выявілася, што ягонае здароўе было загрожана больш паважна, як гэтага можна было спадзявацца. Ён мусіў паддаца апэрацыі страўніка, але ўратаваць жыцьця ўжо было немагчыма.

Ідучы на апэрацыю, ён рыхтаваўся на ўсякую эвэнтуальнасьць і выспавядаўся ў а. Фр. Чарняўскага, а пасьля апэрацыі, калі ўжо адчуваў блізкую сьмерць, папрасіў лістоўна апошняга багаславенства ў Я. Э. Балеслава Слосканса, выспавядаўся і запрычашчаўся з рук рэктара Беларускае Каталіцкае Місіі ў Англіі а. Ч. Сіповіча. З якім спакойным сумленьнем ён разьвітваўся з жыцьцём сьведчыць ягоны ліст, пісаны дзень перад сьмерцю да рэктара Бел. Катал. Місіі ў Парыжу, які закончваецца словамі: «...адпраўце жалобную імшу па нябожчыку Лявону».

Закрыў на векі свае вочы інж. Рыдлеўскі, не дачакаўшыся тае сьветлае хвіліны, аб якой лятуцеў усё жыцьцё і для якое не шкадаваў ніякіх ахвяраў — каб вярнуцца ў вольную і незалежную Беларусь, але ахвяры ягоныя не дарэмныя, а памяць аб ім і тут на эміграцыі і калісь у вольнай Бацькаўшчыне не загіне ніколі.

**Л. Г.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## МАРЫЙСКІ ГОД.

Для ўшанаваньня 100-ых угодкаў дэфініцыі догмы напарочнага зачацьця Дзевы Марыі, Сьвяцейшы Айцец Пій XII выдаў 27 верасьня Энцыкліку «Fulgens Corona», у якой Сусьветны Архірэй абвяшчае 1954 г. Марыйскім Годам, заклікае вернікаў аднавіць пабожнасьць да Найсьвяцейшае Дзевы Марыі — прыкладу хрысьціянскіх цнотаў і ўканцы дае асаблівыя магчымасьці здабыць адпусты. Пачынаецца Марыйскі Год сёлета 8 сьнежня.

## КАНКАРДАТ З ГІШПАНІЯЙ.

У Ватыкане 27 жніўня падпісана новы канкардат між Апостальскім Пасадам і Гішпаніяй, у якім каталіцызм прызнаецца пануючай рэлігіяй у Гішпаніі. У асноўным аднак новы канкардат захоўвае істотныя пункты дагэтуляшняга канкардату з 1851 г. — часоў каралевы Ізабэльлі II.

## ЗАКЛІК СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА ДА ВІНАГРАДАРОЎ.

Сёлета ў верасьні адбыўся ў Рыме «Мміжнародны Кангрэс віньніцаў і віна». Прымаючы 17 верасьня на асобнай аўдыенцыі ўдзельнікаў Кангрэсу, Сьвяцейшы Айцец зьвярнуў увагу на тыя шкоды, якія выклікае ў народзе збольшанае спажыцьцё віна і алькаголю і ўканцы заклікаў вінаградароў, каб шукаючы сваіх матэрыльных карысьцяў, не глядзелі абыякава на страшныя маральныя і фізычныя руіны, якія спрычыняе алькагалізм.

## АДЧЫТАНА НАПІС НА ГРОБЕ АП. ПЯТРА.

У 1951 г. падчас раскопак пад базылікай ап. Пятра ў Рыме знойдзена плыту, на якой быў слаба прыметны напіс. Італьянскія археалёгі, якія кіравалі працай, тады змаглі адчытаць на плыце толькі першае слова «Петрус», бо плыта была моцна сьцёртая. Для адчытаньня ўсяго напісу плыту сфатаграфана з дапамогаю скосьных праменьняў сьвятла, каб было магчыма разрозьніць найменшы знак долата старавечнага каменшчыка. Артыманыя гэткім спосабам фатаграфіі, студыявала прафсарка Рымскага Унівэрсытэту Маргарыта Гвардуччі. Па двох гадох дакладных студыяў, яна адчытала ўвесь напіс. Зроблены ён лацінскаю моваю і гучыць так: «Petrus Roga XS — Pro Sanc (tis) — Homini-b(us) — Chrestian (is An) Corpus Tuum Sep(ultis). Пабеларуску гэта значыць: «Пятро, малі Хрыста Ісуса за сьвятых хрысьціян, пахаваных каля Твайго цела».

Як ведама, цела ап. Пятра было пахавана на тым магільніку, дзе цяпер стаіць базыліка ап. Пятра. Магільнік знайходзіўся каля цырку Нэрона і там былі пахаваныя шматлікія хрысьціяне, што загінулі ў часе першага прасьледаваньня.

## НОВЫ СТАТУТ ДЛЯ СЬВЯТАРОЎ РАБОТНІКАЎ.

Апошнімі часамі ў Францыі вельмі шмат пісалася аб сьвятарох-работніках. Справа ў тым, што самае стварэньне такое катэгорыі сьвятароў было дапушчана як выняткова дзеля пагражаючае дэхрысьціянізацыі работніцкага асяродзьдзя, але дэфінітыўнага статуту яны ня мелі. Царкоўная ўлада, высылаўшы сваіх магчыма найлепшых сыноў ў асабліва цяжкія асяродкі працы, для збаўленьня душ тых, якім сучасныя фабрыкі паглынаюць і цела і душу, сачыла ўважна, каб ахвярная праца тых сьвятароў была сапраўды карыснай і для Царквы і для самых работнікаў. На аснове досьледаў мінулых гадоў сёлета былі зроблены адпаведныя высноўкі і статут сьвятароў-работнікаў быў зьменены ў некаторых пунктах.

## 100-Я ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ ОЗАНАМА.

Брацтва сьв. Вінцэся а Паулё, шырокаведамая дабрадзейная каталіцкая арганізацыя, сёлета ўрачыста азначала сотыя ўгодкі сьмерці свайго заснавальніка Фрыдрыха Озанама і 120-ыя угодкі свайго заснаваньня. Дзякуючы гэтай дабрадзейнай арганізацыі заложанай у 1833 г. атрымалі помач і падтрыманьне нязьлічаныя тысячы патрабуючых так у Францыі, як і ў іншых краінах, дзе тварыліся цэнтры гэтае арганізацыі. Найбольшыя ўрачыстасьці ў чэсьць Озанама адбыліся 12 і 13 верасьня ў Парыжу з удзелам прадстаўнікоў ад 35 краінаў.

## БЭАТЫФІКАЦЫЙНЫ ПРАЦЭС Я. Э. ЦЕПЛЯКА.

Ватыканскае радыё паведаміла 8-га верасьня, што ў Чыкаго (ЗША) паклікана царкоўнымі ўладамі камісія для зьбіраньня вестак аб жыцьці Я. Э. Яна Цепляка, калішняга Магілёўскага архібіскупа і потым Віленскага мітрапаліта, які памёр у часе падарожжа па З.Ш.А. у 1925 г. (Аб ім успамінаецца ў артыкуле «Старонкі з крыжовае дарогі Каталіцкае Царквы на Беларусі» ў гэтым нумары часапісу).

## НАСТУП НА КАТАЛІЦКУЮ ЦАРКВУ Ў ПОЛЬШЧЫ.

Напружаныя адносіны між польскім камуністычным урадам і Каталіцкаю Царквою апошнім часам прынялі форму вострага наступу камуністаў супраць каталіцызму. Судовы працэс у Варшаве супраць Врацлаўскага біскупа Я. Э. Чэслава Качмарка і групы каталіцкіх сьвятароў закончыўся 22 верасьня прысудам біскупа на 12 гадоў турмы, а сьвятароў на кары ад 5 да 10 гадоў турмы. Арышты сярод каталіцкага духавенства сталі штодзенным зьявішчам і сёньня ў польскіх турмах знайходзіцца каля тысячы сьвятароў і 7 біскупаў. Не зважаючы, на такі грозны стан, Каталіцкая Царква ў Польшчы стаіць рашуча ў абароне сваіх правоў. Каб зламаць гэтую паставу на выразны загад з Масквы, пераданы праз маршала Ракасоўскага, камуністы 28 верасьня арыштавалі польскага прымаса Я. Эм. кардынала Сьцяпана Вышынскага, а два дні пазьней Гнезьненскага гэнэр. Вікарага Я. Э. Бернацкага. Гэты наступ камуністаў выклікаў абураньне ўва ўсім вольным сьвеце і адусюль наплываюць на адрас Сьвяцейшага Айца нязьлічаныя лісты і пртэсты супраць бясчынстваў польскага камуністычнага ўраду, але камуністы не зважаюць на ніякія пратэсты і прадаўжаюць свой наступ далей, тэрарызуючы і вынішчаючы верных сыноў Каталіцкае Царквы.

## НОВАЯ СУПРАЦЬРЭЛІГІЙНАЯ ТАКТЫКА Ў ЮГАСЛАВІІ.

Камуністычная югаслаўская партыя разаслала тайныя інструкцыі да ўсіх сакратароў сваіх ячэйкаў, каб яны «інтэнзыўна ўспамагалі» масавыя напады насельніцтва супраць каталіцкіх біскупаў. Паліцыі раіцца не мяшацца, калі «абураныя патрыёты» будуць нападаць на біскупаў. Аднак у інструкцыі засьцерагаецца, каб напады ня прымалі такіх грозных разьмераў, якія-б «маглі пашкодзіць югаслаўскай апініі заграніцай». Інструкцыя вымагае, так арганізаваць напады, «каб выглядала, што нібы самыя біскупы правакуюць напады на сябе». Згодна з інструкцыяй апошнім часам камуністы паранілі і аграбілі ў Загрэбе біскупаў Я. Э. Бразуціла і Я. Э. Морэнтія, у Субоціне 80-гадовага Я. Э. Людовіка Будановіча, у Шыбеніку Апост. Адм. Я. Э. Кірыла Баніча і інш.

## КРЫЖ НА НАЙВЫШЭЙШАЙ ГАРЫ.

Уся прэса вольнага сьвету шмат пісала аб тым, што Эдмунд Гіляры і палкоўнік Джон Гунт сёлета 28 траўня ўзыйшлі на найвышэйшую гару зямное кулі — Эвэрэст, але толькі нядаўна сталася ведамым, што яны на вяршыне гары разам з сьцягамі Англіі, Нэпалю, Індыі і Злучаных Нацыяў паставілі так-жа Укрыжаваньне, якое перад экспэдыцыяй асабіста пабагаславіў Сьвяцейшы Айцец Пій XII. Гэтае Укрыжаваньне перадаў палк. Гунту каталіцкі сьвятар Амплефорт, з просьбаю паставіць яго на «даху сьвету». Гунт паабяцаў выканаць просьбу і папрасіў малітваў у намераньні экспэдыцыі. Вярнуўшыся, ён паведаміў сьвятара, што сваё абяцаньне выканаў.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Доля беларускіх айцоў Марыянаў

Аб сумнай долі беларускіх айцоў Марыянаў ужо ўспаміналася на старонках «Божым шляхам». Далейшыя весткі, якія даходзяць у Зах. Эўропу рознымі кружнымі дарогамі, ёсьць усё больш і больш сумнымі. Апошнім часам паведамляецца, што трох айцоў у мінулым годзе былі перавезены з канцэнтрацыйнага лягэру пры манджурскай граніцы ў Салавецкі лягэр. Там а. архімандрыт Андрэй Цікота маючы ўжо апухшыя ногі, мусіў цяжка працаваць. На пачатку сёлетняга году ён памёр ад выснажэньня. Іншыя айцы блізкія таго, што падзеляць долю свайго айца архімандрыта. Такую долю маюць у бальшавіцкім валадарстве ўсе верныя сыны Каталіцкае Царквы і Беларускага Народу.

### Рэлігійны голад.

Сёлета 31 траўня адбылося пасьвячэньне адрамантаванае праваслаўнае царквы ў Старым Быхаве. Урачыстасьць суправаджалася вельмі вымоўнай падзеяй — перанясеньнем у новапасьвячаную царкву цудатворнае іконы Баркулабаўскае Божае Маці. Аб урачыстасьці ёсьць зацемка ў «Журн. Маск. Патр.» Нр. 7, там-жа кажацца, што цудатворную ікону перахоўвалі да гэтага часу манашкі з зачыненага Баркулабаўскага манастыра, але дзе яны пражывалі і дзе жывуць цяпер, не ўспамінаецца нічога.

Калі прыняць пад увагу цяжкае матэрыяльнае палажэньне беларусаў пры сучасным калгасным ладзе і доўгагадовую бязбожную прапаганду, дык факт адрамантаваньня і адкрыцьця яшчэ аднае царквы нельга ацаніць інакш, як узрастаючым рэлігійным голадам народнае душы, якая не зважаючы на пануючы тэрор, дамагаецца сабе духовае пажывы.

### Рэарганізацыя царкоўнае ўлады ў Менску.

Сёлета ў травені назначана рэктара Жыровіцкае «Праваслаўнае Дух. Сэмінарыі» архім. Мітрафана на Менскага вікарнага япіскапа з тытулам Бабруйскага. Гэткім чынам уся савецкая «праваслаўная ерархія» для БССР будзе сцэнтралізавана ў Менску, бо ўсе іншыя япіскапскія пасады ў межах БССР цяпер пустуюць.

### Нагонка на камсамол.

Беларуская моладзь, сілаю загнаная ў рады Камун. саюзу моладзі, сталася прадметам нападаў для чырвонае Масквы. «Комсомольская правда» з 9 верасьня накінулася з востраю лаянкаю на цэлы рад раённых камсамольскіх цэнтраў у БССР за іхную бязьдзейнасьць. Менская «Звязда» пастаралася падхапіць тон маскоўскае газэты і напады вядзе далей.

Заўсёды цяжка пераносіць няволю, але надзвычайна цяжка, калі яна гнобіць думку і пачуцьці.

### Рэдкае прызнаньне.

Пастанова Рады Міністраў СССР і ЦК Кам. партыі з дня 25 красавіка «Аб мерах па далейшаму разьвіцьцю жывёлагадоўлі ў краіне і зьніжэньню норм абавязковых паставак прадуктаў дзяржаве гаспадаркамі кальгасьнікаў, рабочых і служачых» сьведчыць аб поўным правале дагэтуляшняе савецкае сельскагаспадарчае калгаснае палітыкі. Доўгая пастанова ад пачатку да канца перпоўненая такімі сьцьверджаньнямі: «ёсьць няправільным, што многія мясцовыя савецкія партыйныя і сельскагаспадарчыя органы не аказваюць калгасьнікам неабходнай дапамогі ў забясьпячэньні жывёлы, якая знаходзіцца ў асабістай уласнасьці, кармамі і пасьбішчамі. Усё гэта, а таксама недахопы, якія мелі мейсце ў падаткавай палітыцы ў адносінах да асабістай падсобнай гаспадаркі кагласьнікаў, прывяло ў радзе абласьцей, краёў і рэспублік да скарачэньня за апошнія гады пагалоўя прадуктыўнай жывёлы ў калгасьнікаў. Буйныя недахопы ў разьвіцьці жывёлагадоўлі ёсьць і ў саўгасах...»

Пасьля даўжэразнае літаніі такіх нараканьняў прынята цэлы рад розных пастановаў, але напярод можна прадбачыць, што ніякія пастановы ня прынясуць палепшаньня, пакуль будзе панаваць дзяржаўная сыстэма, якая тупча ў чалавіку той вялікі Божы дар, якім ёсьць вольная воля.

## БЭЛЬГІЯ.

### Душпастырства для беларусаў каталікоў

Сёлета ў кастрычніку а. Францішак Чарняўскі пераехаў на стала ў Бэльгію і там з багаславенства Я. Эм. кардынала Ван Роэй абняў становішча сакратара для беларускіх справаў пры Апостальскім Візітатары для беларусаў каталікоў у Зах. Эўропе Я. Э. Балеславе Слоскансу і аднача сна душпастырства беларусаў каталікоў у Бэльгіі. Ягоны адрас:

Mr. l'Abbé François Czerniauski, Abbaye du Mont César, Louvain.

### У студэнтаў.

У часе васеньніх экзаменаў яшчэ два беларускіх студэнты закончылі свае студыі ў Лювэнскім унівэрсытэце і абодва маюць намер яшчэ дапоўніць свае веды: Арэшка Аляксей, закончыўшы хэмію, ўзяўся за дакторскую дысэртацыю, Кіпель Вітаўт, закончыўшы геалёгію, мае намер спэцыялізавацца ў Нафтавым Інстытуце. Некалькі студэнтаў, ня здаўшы экзаменаў, спынілі свае студыі, а новы студэнт сёлета прыбыў толькі адзін, так што на пачатку сёлетняга акадэмічнага году ў Беларускім Студэнцкім Доме ў Лювэне было 26 студэнтаў.

### Зьезд ЦБАА.

У чацьвёртыя ўгодкі свайго заснаваньня Цэнтраля Беларускіх Акадэмічных Арганізацыяў адбыла сёлета 17 і 19 кастрычніка ў Лювэне свой агульны Зьезд. Пасьля, адсьпяваньня хорам малітвы «Отча наш» і беларускага нацыянальнага гымну старшыня ЦБАА др. Рагуля ў сваёй уступнай прамове падзякаваў усім, хто актыўна ўдзельнічаў у працы ЦБАА. Наступна пасьля выбару прэзыдыі Зьезду прачытана і выказана прывітаньні. Прывітаў зьезд так-жа прысутны на салі Апостольскі Візітатар для беларусаў ў Зах. Эўропе Я. Э. Балеслаў Слосканс і пабагаславіў усіх прысутных. Далей пасьля кароткага перапынку, у часе якога мандатная камісія ўлажыла лісту ўпаважненых да галасаваньня, адбыліся справаздачы: управы, рэфэратаў і рэвізійнае камісіі. Прыемна было пачуць, што за мінулых чатыры гады ЦБАА зрабіла нямала на беларускай і міжнароднай ніве: заснавала інтэрнат для гімназістак, зьбірала студэнтаў у Лювэн, дапамагала ў меру магчымасьці матэрыяльна патрабуючым студэнтам, высылала дэлегатаў на міжнародныя студэнцкія зьезды ў Мюнхен і Бэрлін і т. д. Аднак прыкра было даведацца, што ўправа ЦБАА самавольна і без патрэбы павялічыла свой склад, відавочна на тое, каб мець больш галасоў і з гэтаю-ж мэтаю перад самым Зьездам прыняла гурток студэнцкае самадзейнасьці Студэнцкі Ансамбль, як акадэмічную арганізацыю ў сябры ЦБАА, затое не запрасіла на Зьезд некаторых сваіх праўных сяброў і сам Зьезд склікалі так, што гэта ўласьціва быў толькі сход дэлегатаў з Бэльгіі, якія кумулявалі галасы адсутных арганізацыяў, хоць за мінулыя 4 гады была неадна нагода адбыць Зьезд з прадстаўнікамі ў асобах. Нельга прамоўчваць аб падобных фактах, калі яны дзеюцца там, дзе маюць выраблящца будучыя беларускія дзеячы, бо той, хто будзе трымацца падобнае практыкі ў арганізацыйным жыцьці, тым самым маральна пазбавіць сябе права выступаць супраць тых камэдыяў з выбарамі, якія практыкуюць бальшавікі ў паняволенай бацькаўшчыне, а да гэтага дапусьціць ніяк нельга.

У далейшым ходзе працы Зьезд намеціў цэлы рад заданьняў на будучыню. Новай ўправе ЦБАА трэба пажадаць, каб не паўтарала памылак старое ўправы і належна выканала прынятыя на сябе паважныя абавязкі.

## ГІШПАНІЯ.

### З жыцьця стурэнтаў.

Невялічкі гурток беларускіх студэнтаў у Мадрыдзе распачаў новы акадэмічны год у зьменшаным складзе, бо на мейсца двох выбыўшых студэнтаў прыехаў толькі адзін новы.

### Беларуская сэкцыя пры «CEOR».

У мінулым годзе была зьявілася ў прэсе вестка аб заснаваньні ў Мадрыдзе «Інстытуту Беларусаведы», а сёлета вясною там яшчэ меў заснавацца «Інтэрнацыянальны Інстытут Беларусаведы» пры Цэнтры Узаемаабмену Эўрапейскае Культуры, але хутка выявілася, што тыя «Інстытуты» гэта толькі папяровы твор аднае асобы і акрамя гучных тытулаў ды вялікае пячаткі нічога больш ня мелі. Як раптоўна яны паўсталі, так раптоўна і замоўклі.

Зусім незалежна ад успомненага Цэнтру Узаемаабмену існуе ў Мадрыдзе Цэнтр Усходніх Студыяў (CEOR), які мае бібліятэку, адпаведную да поля сваіх студыяў і ад 1950 г. выдае паважны квартальнік у гішпанскай мове ORIENTE. Гэтая ўстанова, дзякуючы добраму кіраўніцтву а. Якава Морільлё, хутка разьвіваецца, узбагачваецца новымі навуковымі сіламі і новымі сэкцыямі. У мінулым годзе яна мела чатыры сэкцыі: грэцкую, румынскую, украінскую і югаслаўскую; сёлета створана пятую — беларускую. Яе адрас такі:

Centro de Estudios Orientales, Seccion Bielorrusa. Conde de Cartagena, 17, (Colonia del Retiro), Madride, Espagne.

## З. Ш. А.

### З грамадзкага і навуковага жыцьця.

**Сёмая Сэсія Рады БНР**, перарваная на час выезду старшыні Рады БНР прэз. М. Абрамчыка ў Эўропу, зноў распачала сваю працу 24 кастрычніда, у зьвязку з паваротам прэз. М. Абрамчыка ў Амэрыку. Паседжаньні будуць адбывацца кожную суботу і нядзелю да вычарапаньня намечанае праграмы.

**У жыцьці беларускіх студэнтаў у ЗША** не малое значэньне меў 3-і агульны Зьезд Беларускага Студэнцкага Таварыства, які адбыўся сёлета 27 верасьня ў Нью Ёрку. На ім адлюстравалася, больш чым калі, сьветла і цені беларускага грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы, як аб гэтым сьведчыла справаздача старшыні ўправы БСТ. Арганізацыя ад 1950 г. узрасла з 5 сяброў да 50, але актыўнасьць сяброў была вельмі няроўная; побач шчыра адданых грамадзкай справе ёсьць і нядбаліцы. Аднак у агульным БСТ йдзе цьвёрдым крокам наперад з моцною вераю ў лепшую будучыню. Зьезд выбраў новую ўправу ў пабольшаным складзе: старшыня — П. Манькоўскі, 1-шы заступнік — К. Калоша, 2-і заступнік — В. Русак, сакратар — Г. Русак, скарбнік — Я. Віньніцкі.

**Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў Нью Ёрку** для навязаньня цясьнейшае лучнасьці між сваімі сябрамі пачаў выдаваць свой Абежнік. Першы нумар выйшаў за месяц верасень.

Дырэктар **Усходня-Эўрапэйскага Фонду** Давыд С. Мундфорт паведаміў, што на 1953/54 акадэмічны год Фонд прызначыў 31 стыпэндыю для украінцаў і 4 для беларусаў. У справе далейшых стыпэндыяў на наступны год зьвяртацца на адрас:

**East European Fund-Scholarship Program, 10 E. 44. th. Str., New-York 17, N.Y. U.S.A.**

## КАНАДА.

### Зьезд ЗБК.

Згуртаваньне Беларусаў у Канадзе сёлета азначыла свае пятыя ўгодкі існаваньня агульным зьездам, які адбыўся ў Торонто дня 20 верасьня. Распачаўся Зьезд агульнай малітвай. Справаздача ўправы ахоплівала дзейнасьць толькі за мінулы год і магла выказацца паважнымі асягненьнямі, між якімі найбольшым было стварэньне пры ЗБК Беларускае Касы Узаемнае Помачы. Намеціўшы вытычныя для пляну працы на будучы год, выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня — А. Грыцук, сябры ўправы — Г. Барановіч, М. Ганько, Н. Слаўко, Р. Ананіч.

## НЯМЕЧЧЫНА

### На міжнароднай ніве.

Пры каталіцкай Духоўнай Сэмінарыі ў Кэніґштайне ад некалькі гадоў існуе арганізацыя «Ostpriesterhilfe». (Дапамога для сьвятароў з Усходу). Сёлета між 21-24 кастрычніка названая арганізацыя ладзіла ўжо трэці з чаргі міжнародны кангрэс у Кэніґштайне з праводнаю тэмаю «Царква ў будзе». У праграме Кангрэсу былі прадбачаны рэфэраты аб рэлігійным пасьледаваньні ў: Латвіі, Летуве, Польшчы, Расеі, Украіне і Эстоніі, але запрошаныя на Кангрэс Я. Э. Балеслаў Слосканс Апостальскі Візітатар для Беларусаў і а. Робэрт ван Кавэлерт дапоўнілі нестаючы пункт праграмы адносна Беларусі і а. Робэрт прачытаў зьмястоўны рэфэрат аб рэлігійнай трагэдыі на Беларусі і аб рэлігійным жыцьці беларусаў на эміграцыі, выклікаючы агульнае зацікаўленьне ўва ўсіх прысутных. Зацікаўленьне гэтае ня ёсьць толькі плятанічным, бо ў далейшым беларускія сьвятары будуць магчы карыстаць з помачы названае арганізацыі нароўні з сьвятарствам іншых народаў.

## ФРАНЦЫЯ.

### Рэха лёнданскіх урачыстасьцяў.

Французкае радыё ў межах нядзельных рэлігійных кароткахвалёвых перадачаў 13 верасьня а гадз. 19,30 на хвалях 41,54 і 50,37 перадавала між іншым кароткае інтэрвію з Рэктарам Беларускае Каталіцкае Місіі ў Парыжу аб сёлетнім Тыдні Студыяў і высьвячэньню іконы сьвятых Заступнікаў Беларускага Народу ў Лёндане. Інтэрвію суправаджалася беларускаю рэлігійнаю музыкаю з плыт, насьпяваных беларускімі студэнтамі ў Лювэне.

## ДА ВЕДАМА ЭМІГРУЮЧЫХ.

Тыя беларусы ў Францыі, якія запісаліся на выезд у З.Ш.А. і выпаўнілі калісь апытальнік Амэрыканскае Дабрадзейнае Службы, хай не забываюцца паведамляць названую ўстанову аб кожнаразовай зьмене свайго адрасу. Пісаць або пафранцуску, або паангельску на адрас:

National Catholic Walfare Conference, 140, rue du Bac, Paris (VIIe).

## НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ.

Мікола Куліковіч, **Беларуская Музыка. Кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва.** Частка першая. Нью Ёрк 1953, Стар. 64, ф. 8°.

Трэба з прыемнасьцю прывітаць гэты кароткі нарыс з гісторыі так важнае дзялянкі беларускае культуры, якою ёсьць музычнае мастацтва. Кніжка напісана папулярна, так, што кожны прачытае яе з карысьцю і цікавасьцю. Аднак таму, што выдаўцом зьяўляецца Інстытут Навукі і Мастацтва было-б шмат лепш і паважней, каб у ёй былі паданыя крыніцы на якіх аўтар абасноўвае свае цьверджаньні і каб бібліяграфія, паданая ўканцы кніжкі, была дакладнейшай (бракуюць даты і месты выданьняў) і каб была больш камплетнай.

З паважнейшых нястачаў кніжкі трэба зацеміць такія: Аўтар вельмі часта абмяжоўваецца агульнымі цьверджаньнямі і праз гэта трапляюцца паважныя недакладнасьці. Напр. на с. 15 пералічае, што з прыходам хрысьціянства закладаліся: манастыры, акадэміі, калегіі... Тымчасам першая акадэмія на Беларусі была адчынена толькі ў 1579 г. (пераўтвораная ў Акадэмію езуіцкая калегія ў Вільні), а другая (зноў такі езуіцкая) была на кароткі час адчынена ў Полацку ў гадох 1812-1820.

Паважным анахранізмам ёсьць цьверджаньне аўтара, што «містэрыі нарадзіліся ў самай Беларусі і потым пайшлі адсюль у іншыя краіны» (с. 28) і гэта мела стацца ў XVII ст. У сапраўднасьці містэрыі паўсталі ў Францыі аж два стагодзьдзі перад тым, як прыйшлі на Беларусь. У французскай мове ёсьць багатая літаратура адносна гэтае галіны мастацтва. Калісь былі шырокаведамыя містэрыі Арнольда Грэбана «Passion» (к. 1450 г.) і супольны твор братоў Грэбанаў «Містэрыя Апостальскіх Дзеяў» і шмат інш. Вось-жа прыпісваць вынаход містэрыяў Сымону Полацкаму (1629-1687) ёсьць грубаю гістарычнаю памылкаю (с. 28).

Характэрныя азнакі беларускае музыкі паданы вельмі скупа і так раскіданы па кніжцы, што цяжка аб іх сабе ўтварыць ясны абраз.

Варта зьвярнуць так-жа ўвагу на адзін правапісны недагляд: нідзе не разрозьніваецца Царквы — установы ад царквы сьвятыні, бо абодва словы ўсюды напісаны з малое літары.

Аднак гэтыя нястачы не пазбаўляюць кніжкі яе інфармацыйнае вартасьці. Аўтар паказаў, што ёсьць багатая беларуская фальклёрная, рэлігійная і клясычная музыка, якая ў лепшых жыцьцёвых абставінах зойме свой пачэсны пасад між народамі.

**П. К.**

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## НЯЗЬНІШЧАЛЬНАСЬЦЬ ЦАРКВЫ

Па загаду Наполеона ў 1798 г. францускія войскі занялі Рым, папу абвесьцілі скіненым з пасаду, а папскую дзяржаву ператварылі ў рэспубліку пад фрацускім зьверхніцтвам. Папу Пія VI арыштавана і перавезена ў Францыю, дзе ён хутка памёр 29.8.1799 г. у Валенс. Гэта быў час, калі слава і веліч Наполеона расла з кожным днём, а для папства здавалася прыходзіў канец. Адзін з прыдворных Наполеона тады пісаў аб Папе: «Гэты стары ідал будзе зьнішчаны, бо такая воля свабоды і філязофіі... Ёсьць выразная воля дырэкторыі, каб цяпер, калі надыйшоў адпаведны час, Папа загінуў і з ім каб была пахаваная ягоная рэлігія». Некалькі гадоў пасьля гэткае заразумелае пісаніны сонца Наполеона згасла назаўсёды, а папства зноў зазьзяла сваім заўсёдным нязьнішчальным сьвятлом.

## ТРАПНЫ АДКАЗ

У часе расейска-японскае вайны адна японская газэта апублікавала артыкул з закідамі, быццам адзін каталіцкі місіянэр у дыяцэзіі Токіо ёсьць расейскім шпіёнам. Гэты закід адразу стараліся выкарыстаць японскія конфунцыяністы нагаворваючы японскіх каталікоў да адступніцтва. Да аднае 60-дняе японкі каталічкі прыйшла яе суседка і пачала намаўляць пакінуць каталіцызм: «Ваш місіянар ужо арыштованы як шпіён, царкву цяпер запячатаюць, дык вы мусіце пакінуць свайго Ісуса і вярнуцца да канфунцыянізму». На тэта старая японка адказала: «Я веру не айцу місіянару, але Богу, Калі Яго вы зможаце арыштаваць і ўвязьніць, ды калі зможаце запячатаць дзьверы неба, тады я перайду да вас, але да часу пакуль гэта станецца я астануся хрысьціянкаю».

**Паводля Г. Фішэра.**

## НАЙБОЛЬШАЯ ПЕРАМОГА.

На помніку вялікага рымскага палкаводца Сцыпіёна Афрыканца († 183 пер. Хр.), які ўславіўся сваімі перамогамі над картагінцамі, знайходзіцца такі напіс: «Яго найбольшаю перамогаю была пераможная пажадлівасьць». Паколькі гэты напіс быў праўдзівы, можа сьведчыць такое здарэньне. Калі войскі Сцыпіёна занялі Картагэну, дык жаўнеры прывялі свайму палкаводцу палоненую ў горадзе цудоўна прыгожую гішпанскую дзяўчыну, але Сцыпіён загадаў яе неадкладна аддаць ейным бацьком і нарачонаму. Гэты ўчынак выклікаў вялікую пашану да палкаводца і без таго ў сурова здысцыплінавай арміі, якою былі тады рымскія легіёны.

## ДОБРА ВЕДАЦЬ СВАІХ ПРОДКАЎ.

У цягніку, які ехаў з Берасьця ў Пінск у адным запоўненым купэ вагону сядзелі супраць сябе настаўніца і аграном. Між імі завязалася гутарка аб паходжаньні чалавека. Пры гэтым выявілася, што настаўніца, родам з-пад Варшавы, была зацятаю бязбожніцаю, аграном-жа быў глыбока веруючым чалавекам. Настаўніца ўвесь час паўтарала:

— Дарвін нязьбіта даказаў, што чалавек паподзіць ад малпы.

Аграном пробаваў выясьніць, што Дарвін даказваў крыху інакш, але настаўніца і слухаць не хацела выясьненьняў. Пабачыўшы наіўнасьць і засьляпленьне свае субяседніцы, аграном усьміхнуўся і спакойна заўважыў:

— Калі вы так намагаецеся малпаваць некага, што надзе і некалі казаў, дык відавочна вы маеце слушнасьць, аб сваім паходжаньні але толькі адносна сябе самое. Зрэштаю вы лепш ведаеце сваіх продкаў і відаць праўда між імі былі малпы, але што да мяне, дык я добра ведаю ўсіх маіх продкаў і знаю, што між імі малпаў ня было ніколі.

Настаўніца змоўкла, пачырванела і выйшла з купэ пад агульны сьмех спадарожнікаў.

## ЧЫМ МОЖНА ГАНЫРЫЦЦА?

Шырокаведамы свайго часу нямецкі публіцыст Язэп фон Гэррэс (1776-1848) аднойчы пісаў: «Няма на сьвеце такога багатага цара, які-б перакупіў мае перакананьні. Іхныя двары ня маюць нічога, каб замяніць супакой майго сумленьня. Незалежнасьць майго духа, бездаганнасьць майго характару ня стануцца ніколі прадажнымі, каб няведама які купец знайшоўся на іх. Я схіляюся толькі перад Богам і перад Яго воляю, перад маестатам праўды і маральнасьці, перад правам і справядлівасьцю, але ніколі перад самаволяю і перад грубым гвалтам, у якой-бы форме яны не праяўляліся».

## НАЙДАРАЖЭЙШАЯ ВАРТАСЬЦЬ.

Найлепшы вучань аднае з бэрлінскіх гімназіяў у веку 16 гадоў страціў бацьку і неўзабаве такжа матку. Ён і малодшыя сёстры асталіся бяз ніякага матэрыяльнага забясьпечаньня. Доўга ня хістаючыся, ён перарваў навуку і стаўся работнікам у адным прадпрыемстве. Па нейкім часе ён адведаў свайго калішняга айца катэхэта. Той прывітаў яго вельмі радасна і спытаў:

— Як жывяце цяпер?

— Ад калішняга шчасьлівага жыцьця мне асталіся толькі тры рэчы — адказаў юнак — ласка, гонар і чыстасьць, але іх мне ніхто не ўкрадзе!

---

## ПОШУКІ

Мужа **Янчыленка Арцёма** і сына **Янчыленка Віктара** з вёскі Цепля́кі Віцебскае вобл. шукае Янчыленка Мархва. Весткі слаць на адрас: — **Mrs. Janczelenko Marchwa, 2732 W. Thomas Str., Chicago 22. Ill. U.S.A.**

---

**Гусева** Янку і ягоных дачок Сьветлану і Ганну, пражываючых у 1940 г. у Баранавічах, шукае Беларуская Кталіцкая Місія ў Францыі: Пісаць на адрас: — **Mission Biélorussienne Catholique en France, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**